МІНІСТЭРСТВА ВЫШЭЙШАЙ І СЯРЭДНЯЙ СПЕЦЫЯЛЬНАЙ АДУКАЦЫІ БССР

ГОМЕЛЬСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА

*ВЫПУСК 9*

Мінск
Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна
1981

ББК 81.2 Бел
Б 43

Выдаецца з 1974 г.



**Беларуская** мова. Вып. 9 / Гомел. дзярж. ун-т;
Б 43 [Рэдкал.: У. В. Анічэнка (гал. рэд.) і інш.].— Мн.: Выд-ва БДУ, 1981.— с. 175.

У зборніку даследуюцца актуальныя пытанні параўнальнай лексікалогіі ўсходнеславянскіх моў. Значнае месца адводзіцца пытанням вывучэння тэрміналагічнай лексікі. У спецыяльным раздзеле змешчаны матэрыялы да дыялектычнага слоўніка Гомельшчыны.
Прызначаецца спецыялістам-філолагам.

Б $\frac{70103—075}{М317—81}$ 51—81 4602000000

ББК 81.2 Бел
4 Бел

# II. ЛЕКСІКАГРАФІЯ

## МАТЭРЫЯЛЫ ДЛЯ ДЫЯЛЕКТНАГА СЛОЎНІКА ГОМЕЛЬШЧЫНЫ *

### Т

ТАБА́КА *ж.* тытунь. Бабы кажуць «таба́ка», а благародныя мужчыны «таба́к» (Хізы, Ветк.); На градах у міне насеялася многа таба́кі (Барталамееўка, Ветк.): Васіль, купі бацьку таба́кі ў горадзі (Каменка, Карм.).

ТАБА́ЧНЫ *прым.* тытунёвы *(колер).* Ліст табака як вусохне, то таба́чны, хмуры, цёмны (Ручаёўка, Лоеўск.); У магазіне рубашкі толькі таба́чнага цвету асталіся (Бабовічы, Гом.); Мне дачка набрала таба́чнай мацеры на плаццэ (Хізы, Ветк.+Гарывада, Рэч.).

ТАБАРЭ′Т *м.* табурэтка. Сядай вось на табарэ́т, аддыш крыху (Саўгаснае, Б.-Каш.). *Парайн.* тубарэ́тка.

ТА́БУ′Н *м., зборн.* статак. Буў бугай у та́буні велікі — спіна, ек прасло, да завезьлі ў Муляроўку (Брынёў, Капцэвічы, Паляжач-Гара, Петр.); У нашай дзярэўні тры табуны́ кароў (Асінаўка, Чач.+Агароднікі, Калінк.). *Парайн.* тава́р I.

ТА́БЫ *злучн.* быццам. Што се ты та́бы маленькая (Засінцы, Ельск.).

ТАВА́Р (ТОВА́Р) I *м., зборн., тое, што* та́бу́н. Сягоні наша чарга гнаць тава́р (Горваль, Маканавічы, Рэч.); Ужо цёмно, а това́р шчэ ні прыгналі (Перароў, Жытк.); Пудожджы трохі, хай това́р пройдзе (Буйнавічы, Мілашэвічы, Лельч.+Агароднікі, М. Аўцюкі, Калінк.; Астрагляды, Браг.; Багуцічы, Засінцы, Ельск.; Баравікі, Славань, Светл.; Глінішча, Хвойнае, Хойн.; Грушаўка, Нар.; Камаровічы, Капцэвічы, Лучыцы, Макаравічы, Навасёл-

---

* Матэрыялы для слоўніка падрыхтавалі: літару Т — З. А. Рудакоўская (24 словы распрацаваў В. В. Шур; у сістэматызацыі картатэкі прымала ўдзел |Г. Д. Зялінская|), У — В. А. Гуліцкая, Ф — А. А. Парукаў, Х — У. В. Анічэнка.

кі, Петр.; Карма, Добр.; Махнавічы, Маз.; Н. Дуброва, Акц.; Перароў, Жытк.; Халочча, Чач.). // буйная рагатая жывёла. Пераганялі тава́р на другую базу (Жураўлёўка, Добр.); У калхозі послі вайны тава́р худы буў, да й мало було (Дзяміды, Ельск.+Аравічы, Хойн.; Баравікі, Светл.; Будкі, Вуглы, Гарадзец, Раг.; Буйнавічы, Лельч.; Дзянісавічы, Замосце, Прудок, Калінк.; Запясочнае, Маз.; Ліскі, Рэч.; Марозавічы, Б.-Каш.; Ручаёўка, Лоеўск.).

ТАВА́Р II *м.* 1. тканіна. О, красівы ў цібе тава́р на плацці (Асінаўка, Палессе, Чач.+Бабовічы, Гом.; Багданавічы, Карм.; Стаўбун, Ветк.). 2. загатоўкі *(для ботаў)*. Тава́р ёсць, толькі сшыць боты, ды німа каму (Раманавічы, Гом.).

ТАВА́Р III *м., зборн.* бярвенне *(на плыту)*. Лес, які на плыты кладуць, у нас кажуць тава́р (Ручаёўка, Лоеўск.); Хіба ж можна столькі тава́ру класці, плыт утоне (Бабічы, Чач.).

ТАВА́РАЧЧЫ *прым.* каровін. Тавар за раку пагналі, бач на пяску тава́раччы след (Заспа, Рэч.). // ялавічны. Мамы дома няма, павезла на базар тава́раччае мяса прадаваць (Майсееўка, Акц.); Тава́рачэ м'ясо я не ем, от коб з кабана м'ясо, то купіла б (Стадолічы, Лельч. +Махнавічы, Маз.).

ТАВАРНЯ́К *м.* поезд *(таварны)*. Таварняко́м везлі вёрст сорак, а патом машынамі (Насовічы, Добр.); Таварнякі́ ідуць і ідуць, ні пачапіцца (Піркі, Браг.+Багуцічы, Ельск.).

ТАВА́РЫНА *ж., адзінк.* карова. Колькі жыву, такое тава́рыны ні бачыў (Вышалоў, Петр.).

ТАВАРЫ́СТВА *н.* сяброўка. От і будзе цяпер табе тавары́ства, яна дзевачка харошая (Аравічы, Хойн.+ +Агароднікі, Калінк.).

ТАГАНЫ́ (ТОГАНЫ́) *толькі мн.* трыножка *(для калыскі ў полі)*. Колісь ідзеш у поле з дзіцяцей, дык колыску на тоганы́ вешаш (Бялёў, Жытк.); Раней бабы з тагана́мі на поле хадзілі (Ямпаль, Рэч.). *Параўн.* траяны́, трохно́жка.

ТА́ЕЧКА (ТА́ЯЧКА) *ж., памянш. да* тайка. Яна шчэ з дзецтва мая та́ечка (К.-Балсуны, Ветк.); То му з та́ечкой ходзілі далеко, за трасу (Бялёў, Жытк.); Ой, пані та́ячка, калі б ты глянула, якую я сабе хустку купіла (Дубраўка, Добр.).

ТА́ЙКА *ж.* сяброўка, таварышка. Ой, та́йка мая, сніўся мне сон, баюсь расказваць (Маркавічы, Жлоб.); Ну, ідзём, та́йка, хоць пасядзі мінутку (Пракопаўка, Зялёны Востраў, Гом.); А та́йка моя шчэ і коровы не вугнала (Тульгавічы, Хойн.+Асінаўка, Чач.; Грушаўка, Добр.; Перароў, Жытк.; Піркі, Браг.; Крыўск, Шырокае, Б.-Каш.). *Параўн.* тэ́йка.

ТАКАВІ́ШЧА *н.* ток. Зерня па такаві́шчу рассыпаюць, не глядзяць нічога (Хобнае, Калінк.). *Параўн.* такаўня́, ток I *у 1 знач.*

ТАКАЎНЯ́ *ж., тое, што* такаві́шча. Учора работалі на такаўні́, зярно лапацілі (Амельна, Раг.). *Параўн.* ток I *у 1 знач.*

ТАКРО́К *прысл.* штогод. То ж ён такро́к прыезджаў к матцы (Баравікі, Светл.).

ТАЛАКА́ I *ж.* начлег. Вечарам настае талака́. Хлопца, які водзіць коней на талаку́, мы звалі канаводам (Чалюшчавічы, Петр.).

ТАЛАКА́ II *ж.* ялавіна. Узаралі талаку́, дык пойдзем разбіваць дзярноўе (Раманавічы, Гом.). *Параўн.* тало́ка.

ТАЛАКО́Ю (ТОЛОКО́Ю) *прысл.* гуртам, сумесна. Цепер толькі толоко́ю картоплю копаюць, одну жонку на сотках не ўбачыш (Стадолічы, Лельч.).

ТАЛАКНО́ *н., кул.* зацірка *(з цёртага канаплянага семя)*. Сённі паядала талакна́ ад душы (Неглюбка, Ветк.).

ТАЛА́Н *м.* лёс, шчасце, удача. Усякаму свой тала́н у жыцці (Вуглы, Нар.); І трэба ж мець тала́н, каб выйсці замуж за такога (Баравікі, Светл.+Стадолічы, Лельч.). *Параўн.* тала́нь.

ТАЛА́НІЦЬ *незак.* шанцаваць, шчасліваць. Суседаў сын вучыўся з маім, а вось мой не паступіў. Таму тала́ніць (Дабрынь, Ельск.); Аднаму і ў рабоці, і ў хазяйстві тала́ніць, а другому дык нідзе (Чалюшчавічы, Петр.+ +Дубраўка. Добр.; Стадолічы, Лельч.).

ТАЛА́ННА *прысл.* удачна. Ой, дзеўкі, вам сёння не тала́нна (Баравікі, Светл.).

ТАЛА́НЬ *ж., тое, што* тала́н. Няма тала́ні, то нічога ўжэ ні зробіш (Жгунь, Добр.+Перавессе, Ветк.).

ТАЛМА́ЧЫЦЬ *незак.* тлумачыць. Талма́ч, талма́ч яму, а ён што пень, нічогенькі не паніміаіць (Крыўск. Б.-Каш.).

ТАЛМУ́ДЗІЦЦА *незак.* валаводзіцца, марудзіць. Вечна ты талму́дзішся, усе даўно ў школу пабеглі, а ты спознішся (Быч, Карм.).

ТАЛО́КА *ж., тое, што* талака́. Тало́ка на поле бувае, там жывёлу пасуць (Холмеч, Рэч.); Выгані кароў на тало́ку, хай пасуцца (Марозавічы, Б.-Каш.+Дубраўка, Насовічы, Добр.).

ТАЛЯЛЁХКАЦЬ *незак.* калыхаць. Паглядзі мо' заснула, то хваця талялёхкаць (Града, Жытк.).

ТА́МА *прысл.* там. Вазьмі та́ма ў двары вядро (Неглюбка, Ветк.). *Парайн.* та́мака, та́макі, та́мацькі, та́мачка.

ТА́МАКА *прысл., тое, што* та́ма. Я ж та́мака і радзілася (Холмеч, Рэч.); Та́мака даўно ўжэ нічога няма (Тульгавічы, Хойн.+Васілеў, Вуглы, Нар.; Жгунь, Добр.; Заспа, Рэч.; Камаровічы, Петр.; Пераров, Жытк.; Славань, Светл.; Сямёнаўка, Раг.; Тонеж, Лельч.; Хальч, Ветк.). *Парайн.* та́макі, та́мацькі, та́мачка.

ТА́МАКІ *прысл., тое што* та́ма. Не знось сюды, палажы вунь та́макі (Пракопаўка, Гом.+Маканавічы, Рэч.). *Парайн.* та́мака, та́мацькі, та́мачка.

ТА́МАЦЬКІ *прысл., тое, што* та́ма. Яна пашла на поля, та́мацькі ўсе бабы жнуць (Палессе, Чач.). *Парайн.* та́мака, та́макі, та́мачка.

ТА́МАЧКА *прысл., тое, што* та́ма. А воўны-воўны та́мачка — вочы разбягаюцца (Горваль, Рэч.). *Парайн.* та́мака, та́макі, та́мацькі.

ТАМАША́ *ж.* крык, гармідар. Нейкую тамашу́ ўчора паднялі, што хоць ты ўцікай было (Востраў, Раг.).

ТА́МБАРКА (ТА́МБУРКА, ТА́НБУРКА) *ж.* кручок *(вязальны)*. Няма ў цебе та́мбаркі? Сама вязаць, а я не знайду сваёй та́мбаркі (Хізы, Ветк.); Та́мбуркай вязалі карункі, скацеркі (Бабовічы, Гом.); Та́нбуркі дзед мне дзелаў з бярозы, шэрсць добра вязаць (Стаўбун, Ветк.+Жгунь, Добр.; Халочча, Чач.).

ТА́МБУРНЫ *прым.* ланцужковы. Ета шоў такі та́мбурны, як вяжуць. Тамара наша добра вяжэ та́мбурным швом (Нісімкавічы, Чач.).

ТАМЛЁНКА *ж., кул.* бульба *(тушаная)*. Абедайця, там у печы тамлёнка з мясам (Жгунь, Добр.). *Парайн.* ту́шанка.

ТАМПА́МКА *ж.* паліца. Дастань міску, на тампа́мкі стаіць (Хвойнае, Хойн.).

ТАНО́ГА *ж.* смутак, трывога. Тано́га на сэрцы цераз п'яніцу мужыка (Забалацце, Раг.).

ТАНО́К *м., паэт.* карагод. Тано́к вадзілі вясной, пелі веснянскія песні (Баравікі, Светл.).

ТАНЦУРЫ'СТКА *ж.* танцорка. Як выйдзе танцуры́стка ў круг, дык і сам не ўстоіш (Дубраўка, Добр.).

ТАПІ́ЛА (ТОПІ́ЛО) *н.* 1. багна. Каля Рудні ў нас тапіла е, там ніхто ні пройдзе (Холмеч, Рэч.); Пугнала Ганна кароў пасціць на болото, водна ж корова тая ўлезла ў топіло (Стадолічы, Лельч.). *Параўн.* твань I *у 1 знач.,* трасіна́, трахіна́. 2. ставок. Купацца ходзім на тапіла, ета недалёка (Кароткавічы, Жлоб.).

ТАПІ́ЦЦА *незак.* ацяпляцца. Торам таплю́ся ўсю восень (Крыўск, Б.-Каш.).

ТАПЛЁНКА *ж.* малако *(адтопленае).* Дастань з печы ў маленькім горлачыку таплёнку (Чкалава, Гом.).

ТА́ПЛЯ *ж., заал.* чапля. Та́плі е, усе адзінакавуе, на лесу жывуць. У та́плеў ногі такіе доўгіе (Чалюшчавічы, Петр.).

ТАПЛЯ'К *м.* бервяно *(затануўшае).* Бывае, рвецца плець, плыт супыняць ды ловяць таплякі́ (Кароткавічы, Жлоб.). *Параўн.* тапу́н.

ТАПО́РНІК *м., зборн.* дровы *(хмызняковыя).* Адпусцілі машыну тапо́рніку, трэба нейк прывезці (Вуглы, Нар.+Грушаўка, Добр.); За тапо́рнік і то столькі аддаў (Холмеч, Рэч.).

ТАПТА́ЛІШЧА *н., зневаж.* дарога. Гэтае тапта́лішча к чорту завядзе, нада звярнуць у бок (Узнаж, Рэч.).

ТАПТА́РКІ *толькі мн., бат.* грыбы. Тапта́ркі прама на поле выбягаюць, растуць летам (Пабеда, Ветк.).

ТАПТУ'Н (ТОПТУ'Н) I *м.* 1. пятух. Топту́н недзе пропаў, одны куры ходзюць (Камаровічы, Лобча, Петр.). 2. *перан.* чалавек *(павольны, марудны).* З ім ты сено нокосіш, ён же такі топту́н, што не вельмі розгонісся (Капцэвічы, Петр.).

ТАПТУ'Н II *м., рыб.* таптуха. Паставіў на канаве два таптуны́ і абоя пустыя (Хобнае, Калінк.). *Параўн.* то́пень, то́пля.

ТАПТУ'ХА *ж., кул.* пюрэ. Добра, сёння тапту́ха на снеданне (Піркі, Зарэчча, Браг.); Мо тапту́ху з гуркамі будам есці, дак звару (Стасеўка, Рэч.+Азяраны, Раг.; Калінічы, Нар.; Першая Слабодка, Петр.). *Параўн.* тапту́шка, таўканіца, таўканіцы, таўка́нка, таўка́чка,

таўку́н II, таўку́піца, таўма́чка, таўчані́ха, тоўчо́нка, то́птанка, то́пчанка, то́ўчанка.

ТАПТУ'ШКА *ж., кул., тое, што* таптуха. Адцадзі паронкі ды стаўчы таптушку (Новікі, Акц.); Пачаставала! Паставіла гуркі з таптушкай, а тая мо пазаўчарашняя ажно сіняя (Там жа). *Параўн.* таўкані́ца, таўкані́цы, таўка́нка, таўка́чка, таўку́н II, таўку́піца, таўма́чка, таўчані́ха, таўчо́нка, то́птанка, то́пчанка, то́ўчанка.

ТАПУ'Н *м., тое, што* тапля́к. Калі дрэва патопла, кажуць тапу́н (Ручаёўка, Лоеўск.+Бабовічы, Гом.).

ТАПЧА́К *м.* крупадзёрка. Ета ўжо ў бальшых мельніцах тапчакі́ бываюць, там крупы дзелаюць (Каротка-вічы, Жлоб.+Баравікі, Светл.).

ТАРАБА́НІЦЬ (ТОРОБА́НІЦЬ) I *незак.* 1. тарахцець, барабаніць. Штось кузаў тараба́ніць, трэба ў гаражы глянуць (Бабовічы, Гом.); Дождж тараба́ніць па крышы (Паганцы, Светл.). 2. *перан.* балбатаць. Пірастань тараба́ніць, абрыдла слухаць (Асінаўка, Чач.); Ні мінуты ні пумаўчыць, тороба́ніць і тороба́ніць без упынку (Аравічы, Пагоннае, Хойн.+Барталамееўка, Ветк.; Грушаўка, Нар.; Заходы, Рэч.; Крыўск, Б.-Каш.; Раманавічы, Гом.). *Параўн.* тара́хкаць, таро́чыць.

ТАРАБА́НІЦЬ II *незак.* несці. Тараба́ніць нада ета на пустыр усё, штоб у дварэ ні было (Хальч, Ветк.); Кажуць, тараба́ніць ім усё, як бытта сабе ні трэба (Барталамееўка, Ветк.+Аравічы, Хойн.).

ТАРАБА́НКА *ж., зневаж.* 1. трактар. І Мікалай цяпер ездзе на тараба́нцы, арэ там, перавозіць што (Піркі, Браг.). 2. *перан.* балбатун. От тараба́нка, а не чалавек; тарабаніць заўсёды абы-што (Аравічы, Хойн.). *Параўн.* тарабо́н, трапа́ч *у 2 знач.,* трапа́шка *ў 3 знач.,* трапло́ *ў 3 знач.*

ТАРАБО́Н *м., тое, што* тараба́нка *ў 2 знач.* Гэта такі тарабо́н, што за словам у кішэню не лезе, заўсёды на языку ёсць (Дарашэвічы, Петр.). *Параўн.* трапа́ч *у 2 знач.,* трапа́шка *ў 3 знач.,* трапло́ *ў 3 знач.*

ТАРАВА́ЦЬ *незак.* драць *(бульбу).* Донька, встань торова́ць картопель, а то в печы вугорыць (Ляскавічы, Петр.). *Параўн.* таркава́ць.

ТАРАДА́ЙКА (ТАРАТА́ЙКА) *ж.* частушка. Як пачнем пад гармонь тарада́йкі спяваць на вяселлі, паўсяла збяжыцца (Піркі, Браг.); Тых тарата́ек багата ведае

Наста, што насупраць жыве, яна і добра спявае іх (Аравічы, Хойн.).

ТАРА́Н *м., перан.* чалавек *(худы, змораны)*. Не есь нічога, як скапка тая, тарано́м людзі называюць (Тульгавічы, Хойн.). *Параўн.* тара́нька *ў 2 знач.*

ТА́РАНІК *м., кул.* дранік. Мама сённі та́ранікаў напякла, смачных (Ямпаль, Рэч.+Чкалава, Гом.).

ТАРА́НКА (ТОРА́НКА) *ж.* вобла. Насушыў сёлята многа тара́нкі (Азяраны, Раг.); Колі рыбу посушыш, будзе тора́нка (Старажоўцы, Жытк.+Бабовічы, Гом.; Багданавічы, Карм.; Кароткавічы, Жлоб.; Неглюбка, Хізы, Ветк.). *Параўн.* тара́нька *ў 1 знач.*

ТА́РАНКА *ж., кул.* бабка. Мне ў цёткі так та́ранка панравілась, што і баршча не ела (Чкалава, Гом.). *Параўн.* таркава́нка.

ТАРАНО́ЎКА (ТАРІНО́ЎКА, ТАРЫНО́ЎКА) *ж.* хустка *(шарсцяная)*. Хорошая тороно́ўка ў цебе, цёпла й красівая (Навасёлкі, Петр.); На празнік завяжу сваю таріно́ўку (Замосце, Калінк.); Бач, яку тарыно́ўку подорыла, залюбуесся (Бялёў, Жытк.+Аціркі, Петр.). *Параўн.* тарно́ўка.

ТАРА́НЬКА *ж.* 1. *тое, што* тара́нка. За лета насушылі с пуд тара́нькі (Піркі, Браг.); 2. *перан., тое, што* тара́н. Тара́нькой і памрэ, сколькі яе помню, то адны косці (Коўчыцы, Светл.).

ТАРА́ХКАЦЬ *незак., зневаж., тое, што* тараба́ніць I *у 2 знач.* Зараз пойдзем на хверму, паслухаем, аб чым бабы тара́хкаюць (Бялёў, Жытк.). *Параўн.* таро́чыць.

ТАРАЧКІ́ *толькі мн.* завязкі. Дачка, вазьмі прышый тарачкі́ ў мой хвартух (Дзяміды, Ельск.).

ТАРБЕ́ШНІК (ТОРБЕ́ШНІК) *м.* спекулянт, тарбахват. Навелосо тады торбе́шнікоў, аж у Ленінград грыбу цягалі, перопродавалі (Стадолічы, Лельч.).

ТАРБУ′ЛЬ *м.* кавалак *(бервяна)*. Трэ разрэзаць тэй хлыст на тарбулі́ (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.).

ТАРКАВА́ЦЬ *незак., тое, што* тарава́ць. Таркова́ць — ето на тарку картоплю церці (Чалюшчавічы, Петр.).

ТАРКАВА́НКА (ТАРКОВА́НКА) *ж., кул., тое, што* та́ранка. Сённі таркова́нкі маці з бульбы нацерла (Тульгавічы, Хойн.+В. Аўцюкі, Калінк.).

ТАРКО́ЎКА *ж.* тарка. Вазьмі тарко́ўку і падзяры бульбы для дранікаў (Бялёў, Жытк.).

ТАРНАВА́ЦЦА *незак.* марнавацца. Чаго ты дарэмна

тарну́ешся, усё абыдзецца (Н.-Кузнечнае, Лоеўск.); Тарну́ецца цэлы дзень, месца не знаходзіць сабе (Ст. Сяло, Гом.).

ТАРНО́ЎКА (ТЫРНО́ЎКА) *ж., тое, што* тарано́ўка. Дужа красіва тарно́ўка ў цыганоў сённі була (Аляксандраўка, Калінк.). З армеі прышоў, мацеры тарно́ўку — хустку купіў (Стадолічы, Лельч.); Павяжы тырно́ўку, бо ў канаплянцы вушы змерзнуць (Злодзін, Маз.); Купіла ладную таку тырно́ўку (Запясочнае, Лельч.).

ТАРО́К *м.* звязка плыта. Колькі таркоў зрабіў? Ну, яшчэ пару і можна плыт спускаць (Баравікі, Светл.); Спачатку лес у таркі́ вяжуць (Кароткавічы, Жлоб.).

ТАРО́ЧЫЦЬ *незак., тое, што* тараба́ніць І *у 2 знач.* Бабы таро́чаць абы-што, а ты слухаш (Бялёў, Жытк.). *Параўн.* тара́хкаць.

ТАРПА́ *ж.* торф. Тарпа́, як вусахне, гарыць добра, толькі і пудпаліць лучынай (Аравічы, Хойн.); Торпу́ самі копалі (Ляскавічы, Петр.). *Параўн.* торп, то́рпа, тор І.

ТАРФЯ'НКА *ж.* кашэль. Тарфя́нкі дзве паставіш на канцы ў вазу, насыпеш бульбы і едзеш (Раманавічы, Гом.).

ТАРЧА́НІК *м., кул., тое, што* та́ранік. Давай надзяром тарча́нікаў на абед? (П. Буда, Добр.).

ТАРЭЛАЧКА *ж., бат.* астра. Тарэ́лачка ў нас цвіце летам, пад восень бліжэй (Марозавічы, Б.-Каш.); Тарэ́лачкі розныя ё: і белыя, і чырвоныя, і ліловыя (Антонаў, Ельск.+Р.-Бурыцкая, Лоеўск.).

ТАРЭ'ЛКА *ж.* 1. талерка. Дзе то наша тарэ́лка, юшкі крыху наліць (Быч, Карм.); Тарэ́лка саўсім мелкая, а прыгадзіцца што-ліба на стол паставіць (Іванаўка, Хойн.+Асінаўка, Залессе, Меркулавічы, Чач.; Бабовічы, Чкалава, Гом.; Баравікі, Светл.; Вуглы, Дзяржынск, Нар.; Забалацце, Раг.; Запясочнае, Лельч.; Заспа, Маканавічы, Рэч.; Камаровічы, Ляскавічы, Петр.; Кароткавічы, Ст. Рудня, Жлоб.; Любань, Марозавічы, Б.-Каш.; М. Аўцюкі, Калінк.; Насовічы, Уць, Добр.; Неглюбка, Ветк.; Піркі, Браг.; Р.-Бурыцкая, Лоеўск.). 2. *муз.* інструмент *(ударны)*. З аднаго боку тарэ́лка прыбіта, а другой б'юць (Баравікі, Светл.). 3. галоўка *(сланечніку)*. На гародзе такі сон рос. Тарэ́лка, як сковорода (Раманавічы, Гом.); Да мы пазразалі ўсе тарэ́лкі сонешнікаў (Майскае, Жлоб.).

ТАСАВАЦЬ *незак.* штурхаць. І тасуе, і тасуе, покі той ні заплакаў (Прудок, Калінк.+Вышалаў, Петр.). *Парайн.* тóпкаць. // біць. У нас мужык жонку так ужэ тасуе, так глушыць. От пайдзеце замуж, будзе і вам так (Стадолічы, Лельч.).

ТАТАХНУЦЬ *зак.* 1. грымнуць. А тут як татáхне, як ударыць, думалі канец свету (Баршчоўка, Рэч.). 2. *перан.* выпіць. Ну пайшлі, татáхнулі ўдвох беленькай, ледь прыдыбаў да хаты (Быч, Карм.).

ТАЎКАЙКА *ж.* таўкач. Куды палажыла таўкáйку, нечым стаўкці картошкі (Неглюбка, Ветк.). *Парайн.* таўкáчка, таўкýшка.

ТАЎКАНІЦА *ж., кул., тое, што* таптýха. Зварыць, дзеўкі, так бульбу ці мо таўканíцу? (Піркі, Браг.); Зайшоў да сосіда, а невестка тоўканíцу тоўча, такі запах смачны пошоў (Камаровічы, Петр.). *Парайн.* таптýшка, таўканíцы, таўкáнка, таўкáчка, таўкýн II, таўкýпіца, таўмáчка, таўчанíха, таўчóнка, тóптанка, тóпчанка, тóўчанка.

ТАЎКАНІЦЫ *толькі мн., кул., тое, што* таптýха. Таўканíцы з гурком былі на ранне, а вечар ні знаю, што і зрабіць (Заходы, Рэч.). *Парайн.* таптýшка, таўканíца, таўкáнка, таўкáчка, таўкýн II, таўкýпіца, таўмáчка, таўчанíха, тоўчóнка, тóптанка, тóпчанка, тóўчанка.

ТАЎКАНКА *ж., кул., тое, што* таптýха. Даллі таўкáнку салам і то будзе смашней (Навінкі, Калінк.). *Парайн.* таптýшка, таўканíца, таўканíцы, таўкáчка, таўкýн II, таўкýпіца, таўмáчка, таўчанíха, таўчóнка, тóптанка, тóпчанка, тóўчанка.

ТАЎКАЦЬ *незак.* кляваць. Рыба з рання добра таўкáе (Тураў, Жытк.).

ТАЎКАЧ *м., перан., зневаж.* цяльпук. Намучылася я з тым таўкачóм, тоўсты, непаваротлівы (Дубраўка, Добр.+Каменка, Маз.).

ТАЎКАЧАЧКА *ж., памянш. да* таўкáчка *ў 1 знач.* Вазьмі таўкáчачку, патаўчы бульбу (Бабовічы, Гом.+Баравікі, Светл.). *Парайн.* таўкачóк, таўкáчык.

ТАЎКАЧКА *ж.* 1. *тое, што* таўкáйка. І дзе наша таўкáчка, хоць бяры кавянёй ды таўчы (Амелькаўшчына, Хойн.); Собе тоўкём бульбу, так і зовём тоўкáчка (М. Аўцюкі, Калінк.+Любань, Б.-Каш.; Меркулавічы, Чач.; Насовічы, Церахоўка, Добр.; Неглюбка, Ветк.; Славань, Хутар, Светл.; Чкалава, Гом.). *Парайн.* таўкýшка. // ка-

латоўка. Таўка́чка дзеравяная, на канцы з кружком ці крыжыкам, ёю б'юць масла (Неглюбка, Ветк.); Смятану трэба таўка́чкаю добра збіць, каб масла болей было (Церахоўка, Добр.). 2. міска *(драўляная)*. Таўка́чкай некалі зярно палалі ці начоўкамі (Уць, Добр.). 3. *кул., тое, што* таптýха. А я б ужэ таўка́чкі з'ела з гурком салёным (Піркі, Браг). *Параўн.* таптýшка, таўканíца, таўканíцы, таўка́нка, таўкýн II, таўкýпіца, таўма́чка, таўчанíха, таўчóнка, тóптанка, тóпчанка, тóўчанка.

ТАЎКАЧО́К *м., тое, што таўкачачка.* Таўкачóк беруць да таўкуць картоплю ці так што (Холмеч, Рэч.). *Параўн.* таўкачык.

ТАЎКА́ЧЫК *м., тое, што* таўка́чачка. Кашу гарбузовую ложкай ці таўка́чыкам размешваюць (Багданавічы, Карм.).

ТАЎКУ'Н I *м., кул.* цыбуля *(тоўчаная)*. Таўкýн у пост ядзяць (Запясочнае, Лельч.); Адвары бульбы, зрабі таўкунý да яе, дай павячэраем трохі (Злодзін, Маз.).

ТАЎКУ'Н II. *м., кул., тое што* таптýха. Ідзіце, дзеці, таўкýн есці, бо хутка простыне ўжэ (Валаўск, Ельск.). *Параўн.* таптýшка, таўканíца, таўканíцы, таўка́нка, таўка́чка, таўкýпіца, таўма́чка, таўчанíха, таўчóнка, тóптанка, тóпчанка, тóўчанка.

ТАЎКУ'Н III *м.* калун. Вазьмі таўкýн, да лёд прасякі, паласкаць пайду (Шупейкі, Светл.).

ТАЎКУ'ПІЦА *ж., кул., тое, што* таптýха. Нолупі картоплі на тоўкýпіцу (Грушаўка, Нар.). *Параўн.* таптýшка, таўканíца, таўканíцы, таўка́нка, таўка́чка, таўкýн II, таўма́чка, таўчанíха, таўчóнка, тóптанка, тóпчанка, тóўчанка.

ТАЎКУ'ШАЧКА *ж., памянш. да* таўкýшка. Вазьмі ўлі сала, а тады таўкýшачкай добра стаўчы (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.).

ТАЎКУШКА *ж., тое, што* таўка́нка. Абшкрабі таўкýшку нажом да памый, хай чыстая будзе (Асінаўка, Бабічы, Чач.); Як сабе бульбу таўчэш, дык ямчэй таўкýшкай, чымся ложкай (Меркулавічы, Чач.+Пабеда, Ухаў, Хізы, Ветк.). *Параўн.* таўка́чка.

ТАЎКЦІ́ *незак.* 1. таўчы. Картоплі таўкці́ треба, а яна бегае абу-дзе (Іванаўка, Хойн.); Дзе даўбенька, што бульбу таўкóм (Ст. Краснае, Рэч.+Баравікі, Светл.; Калінічы, Нар.; М. Аўцюкі, Калінк.; Меркулавічы, Чач. Р.-Бурыцкая, Лоеўск.). 2. *перан., зневаж.* паўтараць. Пе-

растань таўкці адно і то ж — надаела слухаць (Марохарава, Жытк.).

ТАЎКЦІ́СЯ *незак.* таўчыся. Цэлы дзень сёдні таўкла́ся, а нічога не зрабіла (Целяшы, Гом.).

ТАЎМА́К (ТОЎМА́К) *м.* кулак. Я тоўмако́м его тольκі (Перароў, Жытк.). // кухталь. Божэ, далі хлопцы одзін другому тоўмака́, дак голосу норобілі (Перароў, Жытк.).

ТАЎМА́ЧКА *ж., кул., тое, што* таптуха. Матка, здзелай таўма́чкі, бо есць хачу (Карма, Добр.). *Парайн.* таптушка, таўканіца, таўканіцы, таўка́нка, таўка́чка, таўку́н II, таўку́піца, таўчаніха, таўчо́нка, то́птанка, то́пчанка, то́ўчанка.

ТАЎСТАМЕ́РНЫ *прым.* таўшчэзны. У старым лесе адны таўстаме́рныя дрэвы (Бабовічы, Гом.).

ТАЎСТА́Я *прым.* цяжарная. Гора, як ходзіць-ходзіць таўста́я, а родзіць мяртвога (Касцюкоўка, Гом.); У яе дзеці шчэ не падраслі, а яна зноў таўста́я (Марозавічы, Б.-Каш.+Глінішча, Хойн.). *Парайн.* то́ўста.

ТАЎСТУ́ХІ *толькі мн., бат.* грузды. Таўсту́хі нападобію зялёнак, толькі карічневыя (Неглюбка, Ветк.); Няма добрых грыбоў, адны таўсту́хі (Холмеч, Рэч.+Баравое, Лельч.; Халочча, Чач.).

ТАЎСТУ́ШКІ (ТАЛСТУ́ШКІ) *толькі мн., памянш. да* таўстухі. Хадзілі-хадзілі, таўсту́шкі толькі і набралі — няма грыбоў (Майскае, Жлоб.); Талсту́шкі ў бярэзніку за балотам бралі (Каранёўка, Гом.).

ТАЎСЦЕ́ЛЬ *м.* таўстун. Гэты таўсце́ль нічога не робіць, толькі знае, што есць (Дарашэвічы, Петр.+Слабажанка, Хойн.).

ТАЎЧА́ЙКА *ж.* ступка. Таўча́йка харашо, мак стаўкці можна, толькі ў нас ўжэ німа (Неглюбка, Ветк.). *Парайн.* таўча́нка.

ТАЎЧАНІ́ХА *ж., кул., тое, што* таптуха. Бульба нясмачна, давай таўчаніху зробім, мо смачней будзе (Забалацце, Раг.). *Парайн.* таптушка, таўканіца, таўканіцы, таўка́нка, таўка́чка, таўку́н II, таўку́піца, таўма́чка, таўчо́нка, то́птанка, то́пчанка, то́ўчанка.

ТАЎЧА́НКА *ж., тое, што* таўча́йка. У таўча́нцы затаўку бувала таўклі, а ціпер толькі перац (Аляксандраўка, Калінк.).

ТАЎЧО́НКА *ж., кул., тое, што* таптуха. Не, у нас таўчо́нка кажуць, хочаш зробім на вячэру (Хізы, Ветк.); Таўчо́нку маслам запраўлю, штоб скарэй было (Улукаўе,

Гом.+Бывалькі, Лоеўск.; Зялёны Востраў, Чкалава, Гом.). *Параўн.* таптўшка, таўканíца, таўканíцы, таўкáнка, таўкáчка, таўкýн II, таўкýпіца, таўмáчка, таўчанíха, тóптанка, тóпчанка, тóўчанка.

ТÁХНУЦЬ I *зак.* ударыць. Ну за што ты яго так тáхнуў, што ён табе зрабіў? (Быч, Карм.).

ТÁХНУЦЬ II *зак.* 1. уцячы, драпануць. Ды я як тáхнуў ад яго, ён толькі свіснуў удагон (Быч, Карм.). 2. зрасходаваць. Рублей шасцьсот і тáхнулі з гэтым вяселлем (Быч, Карм.).

ТАЧÁНКА *ж.* тачка. Хату ставіў, то гліну вазіў на тачáнцы ажно з Вадавіцкай гары (Глінішча, Хойн.).

ТАЧÓК *м.* 1. *памянш. да* ток. А дзе снапы кладуць — ета тачóк называецца (Амельна, Раг.+Будкі, Нар.; Піркі, Браг.). 2. месца *(вытаптанае)*. Топчашся, як конь, бач, які тачóк выбіў (Піркі, Браг.). 3. месца для вулляў. Плашчадка для вулляў — тачóк, а 'шчэ малы ток тачкóм завуць (Астрагляды, Браг.+Бабовічы, Гом.). 4. памост *(пад вуллем)*. Сначала тачóк устанаўліваюць на спецыяльных ножках, тады вуллі туды ставяць. Тачкá ня відна, кажацца вуляй на ножках (Дубраўка, Добр.+ +М. Гарадок, Акц.).

ТАЦЯ'НКА *ж.* сукенка *(у таліі са зборкай)*. А мне тацянка ня пойдзе, я тоўстая, як качолка (Вашамір, Рэч.).

ТАЧЫ'ЛА *н.* 1. камень *(тачыльны)*. Тапор затупіцца, яго на тачыла адразу (Холмеч, Рэч.+Бабовічы, Гом.; Дзям'янкі, Добр.; Хізы, Ветк.; Юравічы, Хойн.). 2. частка сярпа. Тачыла і зубы — вось і весь серп (Піркі, Браг.+Неглюбка, Ветк.).

ТВАНЬ I *ж., тое, што* тапíла *ў 1 знач.* По твáні цяжко прайсці (Дзякавічы, Жытк.); У твáні ногі не выцягнеш (Марозавічы, Б.-Каш.+Быч, Карм.; Кароткавічы, Жлоб.; Насовічы, Добр.); Значала тут тупка, а дальшай твань (Дзяржынск, Грушаўка, Нар.). // глей. В'юны любяць жыць у твáні (Дзяржынск, Нар.); Калісь мой Мікалай з рэчкі твань на гарод выцягваў (Піркі, Браг.;+ +Баравікі, Светл.; Высокае, Лучын, Раг.; Хізы, Ветк.). *Параўн.* трасінá, трахінá // гразь. Пасля дажджу па сялу ні прайсці, такая твань (Грушаўка, Добр.).

ТВАНЬ II *ж., м.* водарасці. Пруд ні чысцяць, дак столькі твáні, што ён аж зялёны (Янова, Ветк.); Твáні ў сеці набілася (Дзякавічы, Жытк.); Ад твáню вада ў возеры як зялёная (Івакі, Добр.+Забалацце, Раг.; Нор-

каўшчына, Карм.; Ручаёўка, Лоеўск.; Чалюшчавічы, Петр.).

ТВА́РБА *ж.* рэчыва *(духмянае для пчол).* Тва́рба — ето квас, багон, ольхоў ліст, усё етэ ложаць у вулей (Заходы, Лельч.).

ТВА́РКА *ж.* адтуліна *(у вуллі).* Праз тва́рку мёд з вулля выбіраюць (Астрагляды, Браг.+Глінішча, Хойн.).

ТВАРЫ́ЛА *н.* века ў пограбе. Тварыла ў пограбе адно (Хізы, Ветк.); Ляжачая — гэта тварыла, а верцікальная — дзверы (Хізы, Ветк.); Раньшы пограбы былі з тварыламі, а цяпер з дзвярамі (Хізы, Ветк.).

ТВО́РНІК *м.* жарабец. Тво́рнік у канюшні стаіць, да яго і прыступіцца страшна, храпе, аж на сьцену лезе (Турбінка, Маз.).

ТКА́ЛЬНІЦА *ж.* ткачыха. От добра тка́льніца — губку за ноч вуткала (Тонеж, Лельч.+Дарашэвічы, Петр.). *Парайн.* тка́льня, тка́нніца, тка́чка.

ТКА́ЛЬНЯ *ж., тое, што* тка́льніца. Ох і хороша тка́льня моя Ганна! (Стадолічы, Лельч.). *Парайн.* тка́нніца, тка́чка.

ТКА́НАЕ *субст.* палатно *(саматканае).* А на лета вот пашыю сабе спадніцу з тка́нага, дай добра будзе (Кавака, Браг.). *Парайн.* тка́нка.

ТКА́ННЕ *н., зборн.* тканнё. Ціпер тка́ння мала (Камунар, Б.-Каш.); Ціпер маладыя, як ідуць замуж, дак без тка́ння абходзяцца (Кірава, Браг.+Кароткавічы, Жлоб.; Холмеч, Рэч.).

ТКА́НКА *ж., тое, што* тка́нае. Нарэжу сцежак з тка́нкі (Палессе, Чач.).

ТКА́ННІЦА *ж., тое, што* тка́льніца. Мая матка вельмі добрая тка́нніца, посцілкі ткала (Марозавічы, Б.-Каш.); А ў Грыпіны ўжэ два дні цэла брыгада тка́нніц ткуць половікі (Юркевічы, Жытк.). *Парайн.* тка́льня, тка́чка.

ТКА́ЦКІ *прым.* фабрычны *(палатно).* Таке полотно вуткала, як тка́цке (Стадолічы, Лельч.).

ТКА́ЧКА *ж., тое, што* тка́льніца. Відаць, добрая тка́чка, бач посцілка — вочы разбягаюцца (Марозавічы, Б.-Каш.+Багуцічы, Ельск.; Кажушкі, Хойн.). *Парайн.* тка́льня, тка́нніца.

**ТЛУМА́** *ж., перан.* гушчар. У ельнік які, у тлуму́ ўвойдзеш, што ні выйціць адтуль (Палессе, Чач.).

ТЛУМАТА́ *ж. тлум.* Нейкая тлумата́ ў галаве (Быч, Карм.).

ТЛУМІ́ЦЦА *незак.* 1. туліцца *(жыць у цеснаце)*. Людзі вон якія хаты строяць, а то тлумі́ся ў етай хаце. (Быч, Карм.) 2. дурэць. Перастань тлумі́цца, ідзі на вуліцу ўжэ (Грушаўка, Добр.). 3. працаваць, рабіць доўга. Тлумі́лася цэлы дзень, а толку не відаць (Грушаўка, Добр.).

ТМЕН *м., бат.* кмен. Тмен — таке сухе зелле, росце на полі (Падворак, Лельч.).

ТО́БТО *прысл.* каб. То́бто ты прышоў, то добра було б, а сам старайса не старайса — мало толку (Сіманічы, Лельч.).

ТОК I *м.* 1. *тое, што* такаві́шча. Павезлі снапы на ток (Амельна, Раг.); На таку́ работаюць, там сушаць, чысцяць зерно (Холмеч, Рэч.); Гліна на току́ адстае, зерно з песком будзе (Засінцы, Ельск.+Бабовічы, Гом.; Багданавічы, Карм.; Баравікі, Светл.; Грамавічы, Каroткавічы, Жлоб.; М. Аўцюкі, Калінк.; Неглюбка, Р.-Шлягіна, Хізы, Ветк.; Пярэдзелка, Лоеўск.; Халочча, Чач.). *Парaўн.* такаўня́ // падлога *(земляная)*. Гліна на таку́ добра як суха, а трохі разальеш воду ля печы, так і слізка (Бабовічы, Гом.).

ТОК II *м.* тук. Палажыла колькі кусочкаў, а то́ку поўна скаварада (Навінкі, Калінк.); Мочайце, дзеўкі, ція блынці ў ток чі ў кісляк (Грушаўка, Нар.+Амелькаўшчына, Іванаўка, Хойн.; Запясочнае, Стадолічы, Лельч.; Маркавічы, Гом.; Чалюшчавічы, Петр.; Чырвоная Дуброва, Рэч.).

ТО́КМА *часц.* толькі. Ванька не то́кма пець, ён слова сказаць не можа добра (Востраў, Раг.).

ТО́ЛЕЧКІ *прысл.* толькі што. А-вой, ну вот жа то́лечкі быў (Гарадзец, Раг.). *Параўн.* ту́лечкі.

ТО́ЛЬ *м.* столь. У ее ж у хаце то́ль той, як яйцо, гладкі (Бялёў, Жытк.).

ТО́МНАСЦЬ *ж.* стомленасць. Майго сабаку ні бярэ то́мнасць (Багуцічы, Ельск.). // слабасць. У мяне такая то́мнасць у галаве, чуць па свету хаджу (Дарашэвічы, Петр.).

ТО́МКА *ж., бат.* пахучы каласок. Коло броду ў горчалі, у той велькой канаві, богато вельмі росце то́мкі. Колісь ету то́мку рвалі, штоб умувацца, вона добрэ пахне (Падворак, Лельч.).

ТО́НА *ж., рыб.* тоня. За адну то́ну цэлае ведро рыбы поймалі (Холмеч, Рэч.).

ТО́НКІ *прым.* 1. тонкі. Дала нейка полено, знайдзі то́нку голку (Будкі, Нар.); З то́нкіх ніток вуткала полотно на сорочку (Верасніца, Жытк.+Пучын, Браг.). 2. высокі *(голас)*. Ты вядзі то́нкім голасам, а мы грубей будам (Баравікі, Светл.). 3. першагатунковы. То́нкі помол — ето больш дробны помол, хорошы (Багуцічы, Ельск.); Прывожуюць і то́нкую муку, яна даражэй (Быч, Карм.+Марозавічы, Б.-Каш.).

ТОНЬ *ж.* 1. вір *(у возеры, рацэ)*. Вельмі глыбока, там тонь, кажуць (Ручаёўка, Лоеўск.+Дарашэвічы, Петр.); Тонь на возеры, на рацэ бывае, рыбы многа там (Баравікі, Светл.+Стадолічы, Лельч.). 2. поплаў. На то́ні трава хороша, добра тонь (Навасёлкі, Петр.).

ТО́ПЕЛЬ *м., бат.* таполя. Трэ то́пель ссекці, а то пух пускае, што проста ня можна (Грамавічы, Жлоб.+Багданавічы, Карм.; Забалацце, Раг.).

ТО́ПЕНЬ *м., рыб., тое, што* тапту́н II. То́пень топець і тупаюць кругом яго, заганяюць рыбу (Дубраўка, Добр.). *Парайн.* то́пля.

ТО́ПКА *прысл.* гразка. Не хадзі сюдой, тут то́пка (Неглюбка, Ветк.); Ужэ мала прайсці, дзе то́пка, там будзе лепш (Навінкі, Калінк.).

ТО́ПКАЦЬ *незак., тое, што* тасава́ць. Ходыт следам і то́пкат деда (Грушаўка, Нар.).

ТО́ПКІ *толькі мн.* тапачкі. Хто етыя то́пкі табе шыў? (Бабічы, Чач.).

ТО́ПЛЯ *ж., рыб., тое, што* тапту́н II. Думаеш то́пляй многа рыбы ўхваціш, сетка ето дзела (Іванаўка, Хойн.). *Парайн.* то́пень.

ТО́ПТАМ *прысл.* поўна, бітком. У мене і поўведра нема, а ты вунь то́птам ягад набрала (Міцуры, Петр.).

ТО́ПТАНКА *ж., кул., тое, што* тапту́ха. Раней зробяць то́птанку ў чугуне літраў на дзесяць, як сядуць — ураз з'ядуць (Забалацце, Раг.+Жгунь, Добр.; Лукі, Жлоб.; Неглюбка, Ветк.). *Парайн.* тапту́шка, таўкані́ца, таўкані́цы, таўка́нка, таўка́чка, таўку́н II, таўку́піца, таўма́чка, таўчані́ха, таўчо́нка, то́пчанка, то́ўчанка.

ТО́ПЧАНКА *ж., кул., тое, што* тапту́ха. Сядзь з'еш то́пчанкі з малаком (Батвінава, Чач.). *Парайн.* тапту́шка, таўкані́ца, таўкані́цы, таўка́нка, таўка́чка, таўку́н II,

таўку́піца, таўма́чка, таўчаніха, таўчо́нка, то́птанка, то́ўчанка.

ТОР I *м., тое, што* тарпа́. Сёліта то́ру хваця, а там купім (Пакалюбічы, Гом.); Купіла машыну то́ру і паліла ўсю чыста зімачку (Меркулавічы, Чач.+Шылавічы, Б.-Каш.). *Параўн.* торп, то́рпа.

ТОР II *м.* дарога *(уезджаная)*. Едзьце торам, хутчэй будзе, хоць і далей (Бабовічы, Гом.).

ТО́РБА *ж.* 1. кайстра. Мамо, дзе ж то́рба? Я іду короў пасці (Бялёў, Жытк.); Ты пачэпі то́рбу на плечы, і нехай цягнецца по водзе, рыба ж не повулазіць (Замошша, Лельч.+Багданавічы, Карм.; Баравікі, Светл.; Пучын, Браг.). 2. *перан.* чалавек *(непаваротлівы)*. Гэта то́рба покуль павернецца, можна за сялом быць (Барталамееўка, Ветк.).

ТО́РНЫ *прым.* гладкі, роўны, уезджаны. На Петрыкоў от нас то́рна дорога була раней, цяпер му туды менш езьдзім, заросла (Буйнавічы, Лельч.).

ТОРП *м., тое, што* тарпа́. Каб ето торпу прывез на соткі, можэ б на той год і картопля пуднелася (Грабаў, Петр.). *Параўн.* торп, тор I.

ТО́РХВЕННЫ *прым.* тарфяны. Во на то́рхвенных заводах рэжуць такія пліты (Аравічы, Хойн.).

ТО́ЎСТА *прым., тое, што* таўста́я. Летась радзіла дай зноў то́ўста (Навінкі, Прудок, Калінк.); Ваша Тамара то́ўста ці што? (Хальч, Ветк.+Багуцічы, Ельск.; Баравое, Стадолічы, Лельч.; Бялёў, Жытк.; Грамавічы, Жлоб.; Дуброва, Петр.; Піркі, Браг.; Слабажанка, Хойн.; Халочча, Чач.; Хутар, Светл.).

ТО́ЎСТЫ *прым.* 1. грубы. То́ўстае палатно з адходаў, дак яно калянае, шосткае (Бабовічы, Гом.); Лён паганы, так многа то́ўстага палатна (Неглюбка, Ветк.). 2. нізкі *(голас)*. Голас такі то́ўсты, як у добрага мужыка (Грушаўка, Нар.).

ТОЎЧ *м.* вотруб'е. Тоўч тоды не давалі коровам, а толькі свінням (Стадолічы, Лельч.).

ТО́ЎЧАНКА *ж., кул., тое, што* таптуха. З салам то́ўчанка плоха, я са смятанай люблю, смашней (Любань, Б.-Каш.+Майскае, Жлоб.; Дубраўка, Насовічы, Добр.; Паганцы, Светл.; Ст. Рудня, Чырвоная Дуброва, Ямпаль, Рэч.). *Параўн.* таптýшка, таўканіца, таўканіцы, таўка́нка, таўка́чка, таўку́н II, таўку́піца, таўма́чка, таўчаніха, таўчо́нка, то́птанка, то́пчанка.

ТО́ЧКА I *ж.* 1. метка. Делаюць прасеку ў лесе і то́чку і намяраюць на яе (Піркі, Браг.). // месца *(пастаяннае)*. Я з табой ні пайду туды, у мяне свая то́чка есць, дзе рыбу лаўлю (Каранёўка, Гом.+Багуцічы, Ельск.; Баравікі, Светл.; Івакі, Добр.; Кароткавічы, Жлоб.). 2. тычка. То́чкі на квасолю стаўляюць, штоб вілася (Піркі, Браг.). 3. *перан.* жанчына *(рухавая)*. Шчэ сонцэ не ўспее прачнуцца, а то́чка ўге на нагах (Юркевічы, Жытк.).

ТО́ЧКА II *ж., заал.* 1. сараканожка. Мамо, на траве то́чку поймалі (Бялёў, Жытк.). 2. мядзведка. Вунь нора бачыш — ето точыць так то́чка (Багуцічы, Ельск.). *Параўн.* тысячано́жка.

ТО́ЧНЫ *прым.* топкі. От здор то́чны, укінуў у скоўроду кусок, дак поўна скоўрода току (Стадолічы, Лельч.). *Параўн.* ту́чны.

ТР-Р *выкл.* тпру. Тр-р-тр-р, ваўкарэзіна, нясешся, задраўшы голаў (Багуцічы, Ельск.+Халочча, Чач.).

ТРАБЛО́ *н.* чэрава. Глянці-ка, бабы, што за трабло́ ў Моцінай каровы, пашці да зямлі вісіць (Халочча, Чач.+Бабічы, Чач.). *Параўн.* трыбу́х, трэ́нбух.

ТРАБУШША *н., зборн.* вантробы. Як праехала на мажары, дак усё трабу́шша перавярнулася (Бабічы, Чач.). *Параўн.* трыбухі́.

ТРАБУШЫ́СТЫ *прым.* трыбухаты. Глянь, якую Панасіха трябушы́стую карову купіла (Неглюбка, Ветк.).

ТРАВЯ́НКА *ж., заал.* качка-шыраканоска. Травя́нкі ў чароце каля рэчкі раней былі, а цяпер звяліся: рэчку перакапалі — яны і згінулі (Церахоўка, Добр.).

ТРАЁРАДНЫ *прым.* траюрадны. У траёраднага брата ўжо сын ё (Багданавічы, Карм.).

ТРАЙНІ́К *м.* 1. гіра *(на тры пуды)*. Трайні́к ні кожны падыме, цябе зваліць адразу (Кароткавічы, Жлоб.+ +Ларышчава, Добр.). 2. кручок *(рыбалоўны)*. Трайні́к — ета тры кручкі ўмесці, тожа на блісну чапляюць (Хізы, Ветк.); Трайніко́м навек лоўляць у нас плотак і карасёў (Замошша, Лельч.+Піркі, Браг.). 3. камізэлька. Трайні́к тожа нада ўмець пашыць (Пакалюбічы, Гом.). *Параўн.* тро́йка.

ТРАЙНІ́ЛА *н., спец.* трайня. Брус нада зьдзелаць для трайні́ла ў возе (Неглюбка, Ветк.+Казазаеўка, Рэч.). *Параўн.* трайня́ш.

ТРАЙНЯ'Ш *м., спец., тое, што* трайніла. Трайня́ш прыкрапляецца к перадку воза (Глінішча, Хойн.).

ТРА́КТАРЧЫК *м., памянш. да* трактар. Тут кеб тра́ктарчык пудагнаць, то б пуд'ехаў як (Юравічы, Хойн.). *Параўн.* трактарэ́ц.

ТРАКТАРЭЦ *м., тое, што* тра́ктарчык. На еты трактарэ́ц як сядзеш, дак патом ад яго ні адчэпісе (Юравічы, Хойн.).

ТРА́ЛІЦЬ *незак.* траляваць. Збіраўся тра́ліць ісці, ды перхата, у грудзях баліць (Піркі, Браг.).

ТРА́ЛЬНЯ *ж.* мяльшчыца. Тра́льня трэ лён на цярніцы, мнуць яго (Неглюбка, Ветк.).

ТРАЛЯ'Р *м.* тралёўшчык. То яна пахваціла, мой дзед не быў ніколі траляро́м (Піркі, Браг.).

ТРАМ *м.* трама. Трам еты і паддержае жэрдкі, што ўпоперак ляжаць (Піркі, Браг.); Тра́мы ў хаце робяць і дубовыя, і сасновыя (Баравікі, Светл.).

ТРАМАНІ́ЦЬ (ТРЫМАНІ́ЦЬ) *незак.* гаварыць абышто, хлусіць. Што ты мне тут траманіш, думаеш абвесці кругом пальца? (Карма, Добр.); Хопіць трыманіць. А ён трыманіць, ніяк не выберацца з хаты (Н. Мазалоў, Жлоб.). *Параўн.* трандзіць, тры́нкаць.

ТРАНДЗІ́ЦЬ (ТРАНДЗЕ́ЦЬ, ТРЫНДЗІ́ЦЬ, ТРЫНДЗЕ́ЦЬ) *незак., тое, што* траманіць. Што ты ўчора трандзіў, што я нічога не магу ўспомніць? (Амельна, Раг.); Хваціць уже трындзе́ць, надаело слухаць цебе (Каменка, Маз.); Трындзіць і трындзіць, абрыдло слухаць (Бабовічы, Гом.); Трындзе́ць не рукамі робіць, езык не боліць (Града, Жытк.). *Параўн.* тры́нкаць.

ТРА́НЦЕ *н., зборн.* рыззё. Цеперака е што носіць, але ето такі чоловек, што вон тра́нце будзе носіць, покуль цело не будзе понікаць (Стадолічы, Лельч.).

ТРАПАВІ́ЛА *н., спец.* трапло. Кайстру з цёртага лёну трапавілам выбіваюць (Лукі, Жлоб.). *Параўн.* трапа́лка, трапа́чка, трапа́шка I *у 1 знач.*

ТРАПА́ЛКА *ж., тое, што* трапавіла. Трапа́лка до лёну надо, трэпяць ёю лён (Навасёлкі, Петр.). *Параўн.* трапа́чка, трапа́шка I *у 1 знач.*

ТРАПА́ЛЬНІЦА *ж.* трапальшчыца. Трапа́льніца лён трэпіць, гэта ўжо пасля мяліцы (Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* трапа́нніца, трапу́ха.

ТРАПА́ННІЦА *ж., тое, што* трапа́льніца. Трапаць лён

нада крэпкія трапа́нніцы (Чарнейкі, Рэч.+Быч, Карм.; Верасніца, Жытк.). *Параўн.* трапу́ха.

ТРАПА́ЦЬ (ТРОПА́ЦЬ) *незак., зневаж.* ісці. Мне шчэ кіламетры тры трапа́ць, а ты ўжэ дома (Пакалюбічы, Гом.); Усё тропа́е і тропа́е, дзе яго не просяць (Дубраўка, Добр.).

ТРАПА́Ч *м.* 1. ануча. Трапа́ч трэба папаласкаць, а то ад гразі скарэе (Мормаль, Жлоб.+Астрагляды, Браг.). *Параўн.* тра́пка *ў 1 знач.,* трапка́ч, тра́пнік. 2. *перан., тое, што* тараба́нка *ў 2 знач.* Ета ні Вусцін, а трапа́ч нейкі (Мормаль, Жлоб.). *Параўн.* трапа́шка *ў 3 знач.,* трапка́ч *у 4 знач.,* трапло́. 3. трапальшчык. Ены скуплёўвалі, а трапачы́ лён трапалі (Холмеч, Рэч.).

ТРАПА́ЧКА (ТРЭПА́ЧКА) *ж., тое, што* трапаві́ла. Адной рукой трэпяць на трапа́чцы, а другой — трымаюць лён (Асінаўка, Чач.); Булі дзве трэпа́чкі добры, да абее пуламалісь (Сялюцічы, Петр.). *Параўн.* трапа́лка, трапа́шка *ў 1 знач.*

ТРАПА́ШКА (ТРАПІ́ШКА, ТРАПЫ́ШКА, ТРЕПАШКА, ТРЭПА́ШКА) *ж.* 1. *тое, што* трапаві́ла. Ідзі вазьмі ў Арынкі трапа́шку, то як бачыш абтрэплеш гэту кучку (Бялёў, Жытк.); Тром валакно, трапа́шкамі б'ём (Баравікі, Светл.+Замошша, Лельч.); Трапы́шкуй лён трэплюць (Ліцвінавічы, Карм.); Трэпа́шка — то така одна доска слізка, і по ей жменю льну трэплюць (Стадолічы, Лельч.); Лён трэплюць у нас трэпа́шкамі (Дарашэвічы, Петр.). *Параўн.* трапа́лка, трапа́чка. 2. звязка кудзелі. Усе трепа́шкі ложы ў скірду акуратна (Бялёў, Жытк.). 3. мянташка. Трапа́шкай вострацъ касу (Грабаўка, Гом.); Трапа́шкі — такія лапатачкі, касу тачыць (Насовічы, Добр.); Трапі́шку Сенька забраў, нечым цяпер касу патрапаць (Дубраўка, Добр.); Трапы́шку падай мне, касу трапы́шыць буду (Стаўбун, Ветк.+Грушаўка, Добр.). 4. *перан., тое, што* тараба́нка *ў 2 знач.* А ў трапа́шкі хопіць езыка, увесь раён обговорыць (Пухавічы, Жытк.); Ета баба трапі́шка, ёй сказаць нічого нельга, перакажа, шчэй добавя (Дубраўка, Добр.). *Параўн.* тарабо́н, трапа́ч *у 2 знач.,* трапка́ч *у 3 знач.,* трапло́.

ТРА́ПАШНІК (ТРЯ́ПАШНІК) *м.* анучнік, старызнік. Тря́пашнік бярэ ўсё: старыя анучы, косці, жэсць (Неглюбка, Ветк.).

ТРАПІ́НА (ТРОПІ́НА) *ж.* сцежка. У нас усяк гаво-

рацць: і тропіна, і сцежка (Аравічы, Хойн.). *Параўн.* троп.

ТРА́ПІЦЬ *зак.* 1. знайсці. Етая баба ўсягда тра́піць усё (Славань, Светл.); Пойшлі ў комору, мо тра́пім груш (Бялёў, Жытк.+Махнавічы, Маз.); Колькі блукаем ужо, хоць бы табе яку дорогу тра́пілі (Млынок, Ельск.). 2. скеміць. Ні будзе доўго думаць, зразу тра́піць, што сказаць — скажэ і прыкажэ (Дзвіжкі, Ельск.). 3. папасці. Шчэй і на вяселле тра́піш (Аравічы, Хойн.); Тра́піў якраз на чарку, ну і мне перапала капля (Быч, Карм.).

ТРАПІ́ЦЬ *незак., паляўн.* асочваць. Відаць, ты сёння доўга зайца трапі́ў, што так позно (Глінішча, Хойн.).

ТРА́ПКА *ж. 1. тое, што* трапа́ч *у 1 знач.* Тра́пкай усё выціраюць, пыл, гразь усякую (Касцюкоўка, Гом.); Гаршкі вымаюць вілкамі і тра́пкамі (Баравікі, Светл.+Багуцічы, Ельск.; Барталамееўка, Ветк.; Дзям'янкі, Чырвоная Буда, Добр.; Забалацце, Раг.; Залессе, Чач.; Кавака, Рафалаў, Браг.; Камунар, Марозавічы, Б.-Каш.; Кароткавічы, Майскае, Жлоб.; Маркавічы, Прыбыткі, Гом.). 2. завязка. Тра́пка ад фартуха абарвалась, некалі прышыць (Холмеч. Рэч.+Марозавічы, Б.-Каш.). 3. *перан.* рыззё. Начапіла тра́пку, што даўно пара выкінуць (Дзям'янкі, Добр.); Тра́пак хватае, а добрага нічога німа (Забалацце, Раг.+Бялёў, Жытк.; Неглюбка, Ветк.).

ТРАПКА́Ч І (ТРЭПКА́Ч) *м.* 1. рэшта палатнянай асновы. Хочаш адразаць — адразай шчытненька, ні хочаш — адразай трапка́ч (Дзям'янкі, Добр.); Кросна даткалі, трэба адрэзаць трапкача́ да сплесці (Вуглы, Нар.). 2. ручнік. Змурзаўся трапка́ч, німа чым посуд выцерці (Р.-Шлягіна, Лоеўск.); Столько трапкачо́ў, а ек трэ, то нігоднага под рукой нема (Махнавічы, Маз.+Барталамееўка, Буда Люшава, Пабеда, Ветк.; Грабава, Жытк.; Заходы, Купец, Рэч.; Крыўка, Раг.; Лаўстыкі, Харомцы, Акц.; Паганцы, Светл.; Палессе, Чач.; Піркі, Браг.; Раманавічы, Гом.; Хвойнае, Хойн.). *Параўн.* тра́пнік. // *тое, што* трапа́ч *у 1 знач.* Каб не апекці рукі, гаршкі бралі трапкачо́м, анучкай такой (Любань, Б.-Каш.+Цешкаў, Нар.; Грабаўка, Гом.; Ст. Рудня, Жлоб.; Ухаў, Ветк.; Харомцы, Акц.); Подай трэпкача́ мне сцерці стол (Замосце, Калінк.); Возьмі трэпка́ч дай оцадзі кортоплю (Ляскавічы, Петр.). *Параўн.* тра́пка, тра́пнік. 3 від

торбы. Пашыюць трапка́ч на чатыры шлейкі і носяць абед у поле (Лугавая Вірня, Жлоб.); У трапка́ч яду завяжуць—усякія махоткі, чыгункі (Неглюбка, Ветк.); Тож цяпер у сумках носяць, а тады ў трапкача́х абед насілі на пожню (Хізы, Ветк.). 4. *перан., тое, што* тараба́нка *ў 2 знач.* Ні верце яму — ета ж трапка́ч: што слова, то збрэша (Палессе, Чач.). *Парайн.* тараб́он, трапа́ч *у 2 знач.*, трапло́.

ТРАПКАЧ II *м.* дзяркач. Падай трапка́ч, смецце трохі паграбу, а то не ўлезці ў хату (Салтанаўка, Б.-Каш.).

ТРАПЛО́ (ТРЭПЛО́) *н.* 1. *тое, што* трапаві́на. Трапло́ — ета достачка з ручкай, ім трэпяць лён (Марозавічы, Б.-Каш.); Раней лён трапло́м абтропвалі (Н. Жары, Піркі, Браг.+Бабовічы, Гом.; Багуцічы, Ельск.; Багданавічы, Карм.; Бывалькі, Лоеўск.; Вуглы, Нар.; В. Нямкі, Неглюбка, Стаўбун, Хізы, Ветк.; Грамавічы, Майскае, Жлоб.; Дземяхі, Холмеч, Чарнейкі, Рэч.; Забалацце, Раг.; Калінін, Пагоннае, Хойн.; Насовічы, Добр.; М. Аўцюкі, Калінк.; Харомцы, Акц.); Дзе ты трэпло́ палажыў? (Палессе, Чач.). 2. трапанне. Пасля церніцы пачынаюць трапло́ (Піркі, Браг.). 3. *перан., тое, што* тараба́нка *ў 2 знач.* А, Іван, ета ж трапло́, а не чалавек (В. Нямкі, Ветк.); От дзе трапло́, ужэ ўсім растрапала (Забалацце, Раг.); Толькі пры тым трапле́ нічога не гаварыце (Дубраўка, Добр.). 4. *перан., зневаж.* рот. Скажы таму, ніхай трапло́ свае закрые (В. Нямкі, Ветк.).

ТРА́ПНІК *м., тое, што* трапка́ч I *у 2 знач.* Ты еты тра́пнік беры, ён чысты (Бялёў, Жытк.).

ТРАПУ́ХА *ж., тое, што* трапа́льніца. Бывала, трапу́ха трапе лён цэлы дзень, ад зары да зары (Багданавічы, Карм.). *Парайн.* трапа́нніца.

ТРАПЫ́ШЫЦЬ *незак.* мянціць. Нада касу трапы́шыць, траву трохі абсеч ля варот (Багданавічы, Карм.); Трапы́ш косу к заўтрему (Грушаўка, Добр.+Стаўбун, Ветк.); Трапі́шыць косу трапашкай (Хізы, Ветк.).

ТРАСІНА́ *ж., тое, што* тапіла. У вайну ў гэтай трасіне́ многа людзей загінула (Бабічы, Чач.). *Парайн.* твань I, трахіна́.

ТРАСКА́ *ж.* траста. Траску́ мочаць, сцелюць, а тады валакно палучаіцца (Хізы, Ветк.).

ТРАСКО́ЎНІК *м.* дрывотнік. Па-старому называюць траско́ўнік, а цяпер павець (Неглюбка, Ветк.); Сходзі

на траско́ўнік, прынясі бярэмак дроў у грубу (Халочча, Чач.). *Параўн.* траско́ўня.

ТРАСКО́ЎНЯ *ж., тое, што* траско́ўнік. У кожнага хазяіна адна траско́ўня, там дровы складуюць, сякуць (Хізы, Ветк.).

ТРАСО́ЧНІК *м., зборн.* смецце. Два вазы трасо́чніку набралася, увесь на проса вывезла (Шарын, Ельск.); Грабі, Сцёпка, увесь трасо́чнік, вукінем за двор (Аравічы, Хойн.).

ТРА́СЦЕ (ТРАСЦЁ) *н., зборн.* пласцінкі *(у бёрдзе).* Тра́сце зламалася ў бёрдах (Глінішча, Хойн.); Трасцё ў бердзі, кладуць туды нітачкі ў кожную, па дзве нітачкі, штоб харошае палатно было (Неглюбка, Ветк.); Трасця́ ў бёрдах многа, і па дзесяць пасам, і па дзвінаццаць (Хізы, Ветк.). *Параўн.* тро́сце, трысцё.

ТРА́ЎНІК I *м.* птушка *(траваедная).* Тра́ўнік жыве ў траве і корміцца ёю (Ямпаль, Рэч.); Тра́ўнік у траве схаваецца і не замеціш, як нема его (В. Поле, Петр.).

ТРА́ЎНІК II *м.* цялё *(кормленае травою).* Поўгода бучку, тра́ўнік ужэ хорошы, а молока мало спутаў (Стадолічы, Лельч.).

ТРАФЯ́НЕ *н.* тарфянішча. У Крысіным ё трафя́нне, там шчэ й ціпер капаюць (Хізы, Ветк.).

ТРАХАМУ́ДДЗЕ *н., зборн., зневаж.* пажыткі. Здавай усё сваё трахаму́ддзе (Быч., Карм.).

ТРАХІНА́ *ж., тое, што* тапіла. Па той жа трахіне́ ісці было цяжка (Бабічы, Чач.). *Параўн.* твань I, трасіна́.

ТРА́ХЛЫ *прым.* трухлявы. Спілаваць нада ета дзерава, яно ўсё тра́хлае (Чырвоная Буда, Добр.). *Параўн.* тру́злы, трухня́вы.

ТРАЦІ́НЫ *толькі мн., абрад.* памінкі *(на трэці дзень пасля смерці).* На трэці дзень траці́ны бываюць, абед зноў дзелаюць (Баравікі, Светл.); Цераз тры дні траці́ны адпраўляюць (Ліпнякі, Лоеўск.+Бабовічы, Гом.; Баравое, Лельч.; Беразнякі, Петр.; Грамавічы, Жлоб.; Неглюбка, Ветк.; Холмеч, Рэч.).

ТРАЦЯ́К (ТРЭЙЦЯ́К) *м.* 1. трэці па ліку. Трэці рой мы завём трацяко́м (Марозавічы, Б.-Каш.+М. Гарадок, Акц.); Наша карова маладая, толечкі трацяка́ прывяла (Заспа, Рэч.+Астрагляды, Браг.; Забалацце, Раг.). // трэцяга году, трацячка. Ек твоя целіца трэйцяко́м не побегае, то з ее худобу доброе не будзе (Стадолічы, Лельч.+Брынёў, Дарашэвічы, Петр.). *Параўн.* трэйця́-

ка. 2. трэцяя частка, траціна. Падзяліліся, а то на тым трацяку́ — ні хлеба, ні да хлеба (Дзям'янкі, Добр.).

ТРА́Ч *м., заал.* пугач. Раней іх нешто богато було, а цяпер ні тра́ча, ні гнязда (Бялёў, Жытк.).

ТРАШЫ́ЦЬ *незак.* патрашыць. Рыбу трашы́ць надо, што ты ўжэ склала рукі? (Турок, Петр.).

ТРАЯ́К *м.* 1. сахор. Схадзі к Дзянісу, папрасі ніхай прыдзя з траяко́м, паможа гной накідаць (Майскае, Жлоб.). *Парайн.* траякі́, трохро́жкі. 2. мера дроў. Трая́к — ето тры вазы ілі тры шуркі (Чалюшчавічы, Петр.).

ТРАЯКІ́ *толькі мн., тое, што* трая́к *у 1 знач.* Салому лучай браць траякамі, а гной няўдобна (Дубраўка, Добр.). *Парайн.* трохро́жкі.

ТРАЯНЫ́ *толькі мн., тое, што* тагaný. У полі, бывала, усе жанчыны з малымі, паставяць траяны́, калыску павесяць (Баравікі, Светл.). *Парайн.* трохно́жка.

ТРО́ЙКА *ж.* 1. *тое, што* трайнік *у 1 знач.* Як надзенеш тро́йку, дык і цяплей яму (Каменева, Лоеўск.). 2. калода *(трохметровая).* Шчэ буду кідаць тро́йку альховую (Дабрынь, Ельск.).

ТРО́ЙКІ *толькі мн.* сляды *(зайца).* На снягу тры ўмяціны, ета тро́йкі — зайцы бегалі (Ручаёўка, Лоеўск.).

ТРО́ЙЦА *ж., абрад.* сёмуха. Тро́йца празнік вялікі быў, гулянкі былі, свадзьбы (Халочча, Чач.+Багуцічы, Ельск.; Баравое, Лельч.; Беразнякі, Петр.; Гарывада, Рэч.; Крыўск, Б.-Каш.; Ліпнякі, Лоеўск.; Неглюбка, Ветк.).

ТРО́ЛЬСКІ *прым.* 1. пародзісты. У Будзі пан жыў, тро́льскіх бугаёў дзержаў на прыўязі (Стадолічы, Лельч.). 2. *перан., іран.* здаровы, гультаяваты. Ходзіць по селе здоровіна, нічого ў рукі браць не хочэ, ек жа тро́льскі бугай (Стадолічы, Лельч.).

ТРО́НКА *ж.* тронак. Замяні тро́нку ў лапаці, а то ад етай мазалі астануцца на руках (Юравічы, Хойн.).

ТРОП *м., тое, што* трапіна. Тро́пам можна дайсці, а то дарогай (Бабовічы, Гом.); Вунь, колькі тро́паў нарабілі цераз поле (Холмеч, Рэч.).

ТРО́СКА *ж.* трэска. Колі дровы горацъ плохо, подложы шчэ тро́сак (Грычынавічы, Жытк.).

ТРО́СЦЕ *н., зборн., тое, што* тра́сце. Штось поломалось тро́сце ў берді (Будкі, Петр.+В. Стралкі, Раг.; Каравацічы, Рэч.). *Парайн.* трысцё.

ТРОСЦЬ *ж.* трысціна. Накідаеш у адну тросць дзве

ніткі, у другую — тры: называецца цераз тросць накідала (Дзям'янкі, Добр.); Не будзе ў бердзі адной тро́сці — у палотне будзе дзірка (Ліпляны, Лельч.+Дарашэвічы, Петр.).

ТРО́ХА (ТРО́ХУ) *прысл.* трохі. У бабы пазычыла тро́ха хлеба (Марозавічы, Б.-Каш.); У мяне тро́ху е ягад, прыдзі і табе дам (Насовічы, Добр.+Грычынавічы, Жытк.; Загор'е, Чач.).

ТРОХГАДАВІ́К *м.* трацяк. Кажуць, што прыехалі дактары, будуць адбіраць трохгадавіко́ў (Б.-Крушынаўка, Раг.). *Парайн.* трохле́так.

ТРОХКУ́ТКА *ж.* касынка. Красівая трохку́тка ў цябе, купіла ці сын прывёз? (Кавака, Браг.).

ТРОХЛЕ́ТАК *м., тое, што* трохгадаві́к. На етым трохле́тку ўжэ можна скародзіць (Залессе, Чач.+Сівенка, Ветк.).

ТРОХНО́ЖКА *ж.* 1. трыножак. Прыстаў скавараду на трохно́жку, сала разжарым (Заспа, Рэч.). *Парайн.* трыног. 2. *тое, што* тагань́і. На трохно́жкі калыскі ў полі вешалі (Жмураўка, Рэч.). *Парайн.* траянь́і.

ТРОХПАЛАВІ́НЧАТЫ *прым.* трайны. У лаўцы ё трохпалаві́нчатыя шкахвы (Р.-Шлягіна, Ветк.).

ТРОХРО́ЖКА *ж.* прыстасаванне для здымання ботаў. Дзед наш заўсёды чобаты трохро́жкай знімае (Бялёў, Жытк.).

ТРОХРО́ЖКІ *толькі мн., тое, што* тра́як. Е такія вілы с піхаўём, трохро́жкі, імі падаюць сена ці салому на стог (Ліцвінавічы, Карм.). *Парайн.* траякі́.

ТРОХСЦЕ́Н (ТРОХСЦЕ́НЬ) *м.* трысцень. Ён і трохсце́н выстроіў з новага лесу (Грабаўка, Гом.); Па вясне думаю трохсце́н у хаце прыдзелаць (Кароткавічы, Жлоб.); Трохсце́нь навейшы троху, а пярэднюю даўно стаўлялі (Навінкі, Калінк.+Баравікі, Светл.; Гардуны, Добр.; Марозавічы, Пянчын, Б.-Каш.; Піркі, Браг.; Неглюбка, Ветк.; Чаплін, Лоеўск.). *Парайн.* трохсце́нак, трохсце́нка, трохсце́ннік, трысце́н, трысце́нак, трысце́ннік.

ТРОХСЦЕ́НАК *м., тое, што* трохсце́н. Трохсце́нак во надумаліся прырабіць (Багуцічы, Ельск.); Позалетусь прыробілі трёхсце́нок для дочкі з зяцем (Бялёў, Жытк.+Маркавічы, Гом.; Піркі, Браг.; Холмеч, Рэч.). *Парайн.* трохсце́нка, трохсце́ннік, трысце́н, трысце́нак, трысце́ннік.

ТРОХСЦЕ́НКА *ж., тое, што* трохсце́н. У трохсце́нкі ў нас печ стаіць, у пярэдняй хаці — груба (Крынкі, Рэч.; Бабічы, Чач.; Глінішча, Хойн.). *Параўн.* трохсце́нак, трохсце́ннік, трысце́н, трысце́нак, трысце́ннік.

ТРОХСЦЕ́ННІК *м., тое, што* трохсце́н. Год назад прыставілі мы трохсце́ннік (Бабовічы, Гом.+Бабровічы, Калінк.). *Параўн.* трохсце́нак, трохсце́нка, трысцен, трысце́нак, трысце́ннік.

ТРУБІ́ЦЬ *незак.* 1. трубіць. Потым трубі́ць пачынаем у рог (Аравічы, Хойн.); Паравоз тру́біць пасажырскі (Багуцічы, Ельск.). 2. *перан.* гаварыць *(назойліва)*. Я яму расказаў, а ён па ўсіх трубі́ць будзе (Зарэчча, Жлоб.). 3. *перан.* есці *(многа)*. Ты ўсё шчэ тру́біш, во нінасытная (Пакалюбічы, Гом.+Н.-Кузнечнае, Лоеўск.).

ТРУ'БКА *ж.* 1. горла (дыхальнае). Вырезай тру́бку дыхацельную (Хізы, Ветк.). 2. мера *(палатна)*. Ой, багата тру́бак наткала палатна. Як памерала, поўны сундук (Хізы, Ветк.); Збяліла і ў тру́бкі скачала, хай ляжыць (Нісімкавічы, Бабічы, Чач.+Баравікі, Светл.; В. Стралкі, Раг.; Старажоўцы, Жытк.). 3. *спец.* калодка. Адна тру́бка ў катку, а чатыры каткі — чатыры тру́бкі (Хізы, Ветк.).

ТРУБЛО́ *н., груб.* прожар. Эта ўжо не карова, а трубло́ нейкае, не ўкарміць і не ўпаіць (Хальч, Ветк.+Гарадзец, Раг.).

ТРУБНЯ' *ж.* парахня. Прыгатуй мне трубні́, будзем пчол акураваць (Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* трухля́.

ТРУ'БЫ *толькі мн.* аркестр. Хаўтуры былі багатыя, сын тру́бы заказаў (Пакалюбічы, Гом.).

ТРУДЗЯ'ГА *аг.* працаўнік (-ніца). Мой муж быў такі трудзя́га, але без пары памёр (Дарашэвічы, Петр.); Вось пабачыце якую ён сабе трудзя́гу ўзяў (Дубраўка, Добр.).

ТРУІ́ЦЬ *незак.* атручваць. Мушэй труі́ць надо (Засінцы, Ельск.).

ТРУ'НО *н.* трумо. Іван прывёз з Лоева тру́но, шафу (Сяўкі, Лоеўск.).

ТРУ'СЕНКА *ж.* трасянка. Муй чоловек понёс тру́сенку корове — от тут і замеціў, што она захварэла (Стадолічы, Лельч.). *Параўн.* трусянка, трушані́ца, тру́шанка.

ТРУСЕЯ' *ж.* баязліўка. Я ж такая трусе́я, баюсь грому (Ворнаўка, Карм.).

ТРУСЁНАК *м., заал.* трусянё. Хтой-та пірабіў трусёнку лапку, дык ён і здох (Забалацце, Б.-Каш.).

ТРУ'СІК *м., заал., памянш. да* трус. Маленькі трусік такі, у руцэ ні відна (Марозавічы, Б.-Каш.+В. Ляда, Раг.).

ТРУСІЦА *ж., заал.* трусіха. Трусіца ў Захара прывяла цэлых сем трусянят (Ст. Дуброва, Акц.+Лядцы, Светл.).

ТРУСІЦЬ *незак* 1. калаціць. Цэлы дзень яблыкі трусіць будэм, много дужо іх (Стадолічы, Лельч.); Восенню яблокі трусілі (Стаўбун, Ветк.+Бывалькі, Лоеўск.; Бялёў, Жытк.; Глінішча, Хойн.; М. Аўцюкі, Калінк.). 2. абіваць, абтрасаць. Бывала, трусілі жытнія кулі, аж пыл ідзець (Неглюбка, Ветк.). 3. рыхтаваць, даваць *(корм)*. Трусі карове на ноч больш трушанкі (Багданавічы, Карм.+Бабічы, Чач.; Хізы, Ветк.). 4. чысціць. І што гэто за хаджаін, што ленуецца комін трусіць (Бярэзнікі, Светл.). 5. *перан.* бегчы. Гляджу, аж Сахрон трусіць па вуліцы (Піркі, Браг.+Багуцічы, Ельск.).

ТРУ'СНАЯ *прым.* котная. У клетку адсадзі трусную, а то прападуць трусяняты (Багданавічы, Карм.+Сівенка, Ветк.).

ТРУСЯ'НКА *ж., тое, што* трусенка. Пора коровам трусянку даць (Верасніца, Жытк.). *Параўн.* трушаніца, трушанка.

ТРУТАВІК *м., бат.* губа. Вон трутавікоў возьмі на лікарства (Забалацце, Раг.).

ТРУ'ТНЕЎКА *ж., заал.* трутнёўка. Пчала-трутнеўка ў вуллі завядзецца, то будуць адны трутні (Дуброва, Акц.); Трутнеўкай называюць і чарачку, дзе выводзяцца трутні (Багданавічы, Карм.+Івакі, Добр.). *Параўн.* трутоўка.

ТРУТНЁВЫ *прым.* трутневы. Кажаць, матка трутнёвая, матка атрутнела, калі водзіць адны толькі трутні (Карма, Добр.); Трутнёвая чарачка ні атлічаіцца ад другіх (Піркі, Браг.+Івакі, Добр.; М. Гарадок, Акц.). *Параўн.* трутовы.

ТРУТОВЫ *прым., тое, што* трутнёвы. Тож тая чарачка была трутовая (Астрагляды, Браг.); Трутовыя соты трэба знішчаць (Пабеда, Ветк.).

ТРУТОЎКА (ТРУ'ТАЎКА) *ж., тое, што* трутнёўка. Трутоўка развяла трутняў поўна (Дуброва, Акц.); Панавыводзіла трутняў трутоўка (Сямёнаўка, Рэч.+Бабо-

вічы, Гом.; Багданавічы, Карм.; Багуцічы, Ельск.; Піркі, Браг.); Летась нешта багата ў мене было трýтавак (Бабічы, Чач.).

ТРУХА́ *ж.* драўніна *(трухлявая)*. Труху́ піляюць на дрова (Дубраўка, Добр.).

ТРУ'ХЛЫ *прым., тое, што* тра́хлы. Тру́хлых дзерэўяў і не так много (Пагост, Жытк.). *Параўн.* трухня́вы.

ТРУХЛЯ' *ж., тое, што* трубня́. Ідзеш узяць трухлí, пчол падыміць? (Пабеда, Ветк.).

ТРУХЛЯЧО́К *м., памянш. да* трухля́. Трухлячо́к трэ штоб буў сухі (М. Гарадок, Акц.).

ТРУХНЯ'ВЫ *прым., тое, што* тра́хлы. А мы ўбіраем трухня́выя дрэвы (Салтанаўка, Б.-Каш.); Глядзі-ка, пень саўсім трухня́вы (Пярэдзелка, Лоеўск.); Трухня́ва радыска нясмачная (Даманавічы, Калінк.); Уся рэдзька зрабілася трухня́вая (Шуты, Ельск.). *Параўн.* тру́хлы.

ТРУХО́М *прысл.* трушком. А старая ўсё трухо́м-трухо́м па двару (Багданавічы, Карм.). *Параўн.* тру́шкі.

ТРУЦІ́ЗНА *ж.* атручванне. Ён жа быў як посля труці́зны (Глінішча, Хойн.).

ТРУ'ШАЛКА *ж.* бульбакапалка КТН. Папрасі тру́шалку, дак сабраліcь бу да за дзень і скапалі б (Юравічы, Хойн.).

ТРУШАНІ́ЦА *ж., зборн., тое, што* тру́сенка. Дай трушані́цы карове (М. Аўцюкі, Калінк.). *Параўн.* труся́нка, тру́шанка.

ТРУ'ШАНКА *ж., зборн., тое, што* тру́сенка. Нема сена, так тру́шанку коровам даём (Ляскавічы, Петр.). *Параўн.* труся́нка, трушані́ца.

ТРУ'ШКІ *прысл., тое, што* трухо́м. Іван козаў, што ўсю дорогу тру́шкі бег за конем (Стадолічы, Лельч.).

ТРУШЫ'НА *ж.* астатак сена *(малы)*. Адна трушы́на сена асталася (Марозавічы, Б.-Каш.).

ТРЫБУ'Х *м.* 1. *тое, што* трабло́. Сена хапае, трыбу́х розбіла, бач, ек труба, корова (Стадолічы, Лельч.). *Параўн.* трэ́нбух. 2. страўнік *(начынены мясам)*. Трыбу́х на славу ўдаўса, смачны (Перароў, Жытк.+Бабічы, Чач.). *Параўн.* тэ́льбух.

ТРЫБУХІ́ *толькі мн., тое, што* трабу́шша. А чтоб табе трыбухі́ пагарэлі, як ты п'еш (Васілеўка, Гом.).

ТРЫЛЬ *м.* месца *(для бярвення)*. Вырубленыя бяр-

вёны вязеш на трыль і кладзеш у штабель (Аравічы, Хойн.).

ТРЫЛЯВА́ЦЬ *незак.* валачыць, зносіць. З бало́та самі сена трыля́ва́лі, пра падводу і не думалі (Тульгавічы, Хойн.).

ТРЫМАНА́ *толькі адз.* чалавек *(надакучлівы)*. Адстань, трымана́, надаеў (Кабанаўка, Жлоб.).

ТРЫ́НА *ж.* кастрыца. Неяк ты недобре лён потропала — вельмі ж богато тры́ны на ём (Замошша, Жытк.). *Параўн.* тры́ны.

ТРЫ́НКАЦЬ *незак., зневаж., тое, што* траманіць. Прышла саседка, я з ёй і тры́нкаю сабе цэлы вечар (Улукаўе, Гом.). *Параўн.* трандзе́ць.

ТРЫНО́Г *м., тое, што* трохно́жка. Дзе то заваліўса трыно́г? Нема на чым сковродку поставіць (Грабаў, Петр.). *Параўн.* трыно́га, трыно́жка, трыно́жнік.

ТРЫНО́ГА (ТРЭНО́ГА) *ж., тое, што* трохно́жка. У нас была трыно́га з адламанай нагой, то мы падкладвалі камень. На трыно́гу стаўляем скавараду, як бліны пеком (Марозавічы, Б.-Каш.); На трэно́ге рыбу жарылі (Асінаўка, Чач.). *Параўн.* трыно́г, трыно́жнік, трыно́жка. 2. пасудзіна, у якой таўкуць бульбу. Дзед мой трыно́гі дзелаў, калі ў каго ні было ў чым бульбу тоўкці (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.).

ТРЫНО́ЖКА *ж., тое, што* трохно́жка. На трыно́жку паставіш таз і вары сколькі хочаш (Капараўка, Рэч.).

ТРЫНО́ЖНІК *м., тое, што* трохно́жка. У цябе трыно́жніка няма ? (Піркі, Браг.); Падай-ка мне трыно́жнік, сковараду пастаўлю (Насовічы, Добр.). *Параўн.* трыно́г, трыно́га, трыно́жка.

ТРЫ́НЫ *толькі мн., тое, што* тры́на. Беруць тры́ны, і етымі тры́намі перасыпаюць вуліцу (Бялёў, Жытк.).

ТРЫСЦЕ́Н *м., тое, што* трохсце́н. Паддзелваецца к хаце трысце́н (Раманавічы, Гом.); Сёлята будзем жыць у трысце́не (Майскае, Жлоб.). *Параўн.* трохсце́нак, трохсце́нка, трохсце́ннік, трысце́нак, трысце́ннік.

ТРЫСЦЕ́НАК (ТРОХСЦЕ́НОК) *м., тое, што* трохсце́н. Жыў у малой хаці, а потом трысце́нок поставілі да старой хаты, цеперэка свободно (Стадолічы, Лельч.). *Параўн.* трохсце́нак, трохсце́нка, трохсце́ннік, трысце́н, трысце́ннік.

ТРЫСЦЕ́ННІК *м., тое, што* трохсце́н. Як пристаўляецца к хаце прыбудоўка, то трысце́ннік (Чалюшчавічы,

Петр.); Жывём мы ў задняй хаце, у трысцённіку (Хальч, Ветк.). *Параўн.* трохсценак, трохсцёнка, трохсцённік, трысцён, трысцёнак.

ТРЫСЦЁ′ *н., зборн., тое, што* трасце. Трысцё я заўсёды чышчу канапляным маслам, глянь яко жоўтае, слізкае (Кірава, Жлоб.); У бёрдзі ўсё трысцё паламалі (Нісімкавічы, Халочча, Чач.+Грушаўка, Добр.; Пярэдзелка, Лоеўск.). *Параўн.* тросце.

ТРЫСЦІ́ЦЬ *незак.* ссукваць. Трысціла ніткі, каб падшыць валёнкі (Забалацце, Пятровічы, Раг.); Цэлы дзень сядзіць і ніткі трысціць: кохту вязаць, у адну тонка будзе і холадна (Неглюбка, Ветк.+Багданавічы, Карм.; Будкі, Нар.; Кароткавічы, Жлоб.; Прудок, Калінк.).

ТРЫЦЦА́ТКА *ж.* дошка *(таўшчынёй у 30 мм).* На хату спатрэбяцца дошкі: і трыццатка, і сорокоўка, і пяцідзесятка (Грычынавічы, Людзяневічы, Жытк.); Доска вершковая, паўвершковая — ета шалёўка, цеперака трыццатка, сорокоўка (Чалюшчавічы, Петр.). // цвік *(даўжынёй 30 мм).* Трыццаткай прыбіваць любата: по разу стукнуў, а он уже там (Людзяневічы, Жытк.+Багуцічы, Ельск.).

ТРЫШЧО́НЫ *прым.* ссуканы. Кохта грубая палучылася, ніткі трышчоныя былі (Бабічы, Чач.).

ТРЭ′БАКА *прысл.* трэба. Трэбака зоўтра грады пополоць (Грычынавічы, Жытк.).

ТРЭ′БАЦЬ *незак.* патрабаваць. Сёдні іх на дапрос трэбалі зноў (Стаўбун, Ветк.).

ТРЭ′ЙКА *аг.* 1. мяльшчык (-шчыца). Трэйкам хіба лёгка прыходзіцца. Ну-ка ж паджвогай рукой (Баравікі, Светл.); У калхоз хадзіла па 20 трэек (Калінк., Хойн.). 2. мяліца. Васіль! У трэйцы зламалася ручка, зрабі новую (Багуцічы, Ельск.).

ТРЭЙЦЯ′КА *ж., тое, што* трацяк. Наша трэйцяка ўжо вялікая, але шчэ не побегала (Замосце, Калінк.).

ТРЭ′НБУХ *м., анат.* сычуг. А еты трэнбух і ядзяць: чысцець, апаруюць, мыюць, а тоды жарыць (Палессе, Чач.). // *зневаж.* страўнік, жывот. Пойдзем, напіхаем чым свае трэнбухі (Быч, Карм.).

ТРЭ′ПАНКА *ж.* лён *(вытрапаны).* Раней трэпанку здавалі ў гасударства, сколькі кому трэбо було здаць: п'яць кому, кому дзесяць кілограмуў (Стадолічы,

Лельч.). // пасма *(лёну)*. Лён як вытропваюць, то жменя і будзе трэ́панка (Багуцічы, Ельск.); Зложым дзве жмені льну, вот і кажам, што трэ́панка добра (Стадолічы, Лельч.+Грычынавічы, Жытк.).

ТРЭ́ПНУЦЬ *зак.* стукнуць. А може ему нельзя було трэ́пнуць ногам. Моўчы, а то трэ́пну добре по мордзе (Грушаўка, Нар.).

ТРЭПЕТУ́ШКА *ж.* жаваранак. Зранку трэпету́шка на полі пяе (Бялёў, Жытк.).

ТУБАРЭ́ТКА *ж., тое, што* табарэ́т. Вунь Вася сядзіць на табурэ́тцы (Забалацце, Раг.).

ТУБЭ́ЛЬНЫ *прым.* перакананы. А чого ты тубэ́льны так, шо вон тэбе подвезе? (Грушаўка, Нар.).

ТУГАВУ́ХІ *прым.* глухаваты. Говорыць крэпко, бо сестра моя тугаву́ха (Бялёў, Жытк.).

ТУГІ́ *прым.* 1. цвёрды. Туго́е вымя ў каровы бывае тады, калі яе не доілі некалькі дзён (Марозавічы, Б.-Каш.); У маей кароўкі вымя стала туго́е, як брус (Баравікі, Светл.+Дуброва, Акц.). 2. тлусты. У Насцінай каровы малако добрае, туго́е (Кароткавічы, Жлоб.). 3. цяжкі *(для даення)*. Зноў туга́ корова ўдалася, ніяк не можно выдаіць (Кучкі, Петр.+Стадолічы, Лельч.).

ТУДЭ́Й *прысл.* там. Тудэ́й прама пойдзем (Бабічы, Рэч.).

ТУЖА́ЦЦА *незак.* цвярдзець. Як почне колос тужа́цца, то ўжэ скоро й жыто жацьмем (Стадолічы, Лельч).

ТУ́КАЦЬ *незак.* крычаць. Ён абы ту́каць, прыдзе нату́кае, накрычыць (Барталамееўка, Ветк.).

ТУ́ЛАК *м., анат.* тулава. На вайне ўсякаго бачыў: везьлі чалавека без рук, без ног, толькі ту́лак (Капцэвічы, Петр.).

ТУ́ЛЕЧКІ *прысл., тое, што* то́лечкі. Ты ж ту́лечкі прыйшла вунь (Піркі, Браг.).

ТУ́ЛКА *ж.* стрэльба *(тульская)*. У мойго дзеда была ту́лка (Баравікі, Светл.); У мене дык ту́лка, руж'ё (Кароткавічы, Жлоб.).

ТУМА́К *м.* грымак. Як дам тумака́ ў плечы, быстра зробіш (Ліцвінавічы, Карм.); 2. *перан.* чалавек *(някемлівы)*. Сустрэў тумака́, покуль аб'ясніў, дык поўдня (Жгунь, Добр.). *Параўн.* ту́рак.

ТУМА́НІШЧА *ж.* туман *(густы)*. Такая сённі тума́нішча, за два шагі не відаць нічога (Забалацце, Акц.).

ТУ́РАК *м., тое, што* тума́к *у 2 знач.* Не брыгадзір, а

ту́рак якісь (Асінаўка, Чач.); Што ты з ту́рком говорыць хочэш... (Стадолічы, Лельч.).

ТУ′РКАЎКА *ж., заал. турок.* Ту́ркаўка турчыць — тур-р-р-тур-р (Каранёўка, Гом.). *Парайн.* ту́рчалка, ту́рчык.

ТУ′РЛІК *м.* гаршчочак. Ганна, прынясі мой ту́рлік, а то нема ў чым кашу прыставіць (Лабыроўка, Карм.).

ТУРЛЫ′КАЦЬ *незак.* мармытаць. Ён штось там турлы́каў, да я ні паняла нічога (Пакалюбічы, Гом.).

ТУРЛЫ′ЧЫЦЬ *незак.* гаварыць невыразна. Мой малы дык да году турлы́чыць (Башыца, Чач.).

ТУ′РЧАЛКА *ж., заал., тое, што* ту́ркаўка. У лесі була, знайшла кубло ту́рчалкі з яйцамі (Стадолічы, Лельч.). *Парайн.* ту́рчык.

ТУРЧА́ЦЬ *незак.* 1 журчаць. Вада дзюраём турчы́ць (Зарэчча, Жлоб.+Насовічы, Добр.; Сівенка, Ветк.). 2. гусці. Мядзведка турчы́ць над вухам (Забалацце, Раг.+Баравікі, Светл.; Ямпаль, Рэч.). 3. *перан.* гаварыць. Ён усё сваё турчы́ць і турчы́ць (Гадзілавічы, Раг.).

ТУ′РЧАЦЬ *незак.* рыць. Мядзведка ту́рчыць нору ў градзе, дак так спрытна ту́рчыць (Багуцічы, Ельск.).

ТУ′РЧЫК *м. заал., тое, што* ту́ркаўка. Ту́рчык вядзецца на дрэве і нясе па дзве яечкі (Лядцы, Светл.). *Парайн.* ту́рчалка.

ТУРШКАНЕ́ННА *прысл.* хутка. Давай пабягом туды туршкане́нна. Во, усе бягуць туршкане́нна (Дубраўка, Добр.).

ТУ′ТАКА (ТУ′ТЭКА) *прысл.* тут. Ту́така наша селішча колісь було (Маканавічы, Холмеч, Рэч.+Бабовічы, Гом.); Вон скоро будзе ту́тэка, нікуды не йдзіце (Перароў, Жытк.). *Парайн.* ту́такі, ту́тацька, ту́тацькі, ту́тачкі.

ТУ′ТАКІ *прысл., тое, што* ту́така. Я ту́такі бачыла красівыя цвяты (Сяўкі, Лоеўск.); Праходзьце, во ту́такі садзіцесь (Ніўкі, Добр.). *Парайн.* ту́тацька, ту́тацькі, ту́тачкі.

ТУ′ТАСЬКІ *прым.* тутэйшы. Ту́таськія бабы даўно ўжэ пабралі тые грыбэ (Неглюбка, Ветк.).

ТУ′ТАЦЬКА *прысл., тое, што* ту́така. Я яго шукаю ранне, а ён ту́тацька сядзіць (Неглюбка, Ветк.). *Парайн.* ту́такі, ту́тацькі, ту́тачкі.

ТУ′ТАЦЬКІ *прысл., тое, што* ту́така. Што за чалавек

Рудніцкі, не ўгледзіся за ім — то ту́тацькі ён, то тамацькі (Палессе, Чач.). *Парайн.* ту́такі, ту́тацька, ту́тачкі.

ТУ'ТАЧКІ *прысл., тое, што* ту́така. Стаімо ту́тачкі, яны самі к нам прыдуць (Бялёў, Жытк.).

ТУТЭ'Й *прысл., тое, што* тудэ́й. Сюдэ́й, тутэ́й, а сам нічога не бачыш (Грушаўка, Нар.).

ТУХЛІ́ВЫ *прым.* тухлы. Тухлі́вы корм, есці не ўзяла карова (Іскра, Чач.).

ТУ'ХНУЦЬ *незак., перан.* спаць. Цэлы дзень ту́х, не раскрыў очы (Грушаўка, Нар.).

ТУ'ЧНЫ *прым., тое, што* то́чны. Ту́чнае сала ўсё сойдзе на тук (Бабовічы, Гом.+Холмеч, Рэч.).

ТУ'ЧЫЦЦА *незак.* хмарыцца. Ну, з самага ж ранку неба ту́чыцца (Марозавічы, Б.-Каш.); Штось на дварэ ту́чыцца начало (Пакалюбічы, Гом.).

ТУ'ШАНКА *ж., кул., тое, што* тамлё́нка. Там ішчэ асталосе луплена картопля, дак постаў ту́шанку на обед (Пагоннае, Хойн.+Бялёў, Жытк.). *Парайн.* тушо́нікі.

ТУШО́НІКІ *толькі мн., кул., тое, што* тамлё́нка. У печы тушо́нікі е, але сённі не ўдаліся тушо́нікі, сухія натта (Мікулічы, Браг.+Бялёў, Жытк.). *Парайн.* ту́шанка.

ТХАРАНЁ (ТХАРАНЯ') *н., заал.* дзіцянё тхара. А мо малое тхаранё і не ад'ядае галовы? (Карчавое, Хойн.); Малое тхараня́ і тое хватае курэй (Ямпаль, Рэч.+Баравікі, Светл.; Дубраўка, Добр.; Засінцы, Ельск.; Кароткавічы, Жлоб.; Навінкі, Калінк.; Неглюбка, Ветк.; Піркі, Браг.; Ручаёўка, Лоеўск.). *Парайн.* тхаранё́нак, тхаро́нак.

ТХАРАНЁ́НАК *м., заал., тое, што* тхаранё́. Які малы тхаранё́нак, а столькі ціплят пірадавіў (Забалацце, Б.-Каш.); І чатыры, і сем тхаранё́нкаў выводзіць тхор (Хізы, Ветк.+М. Аўцюкі, Калінк.; Патапаўка, Б.-Каш.). *Парайн.* тхаро́нак.

ТХАРАНЯ'ТКО *н., памянш. да* тхаранё. Тхороня́тко маленьке, пух на ём жоўценькі (Багуцічы, Ельск.).

ТХАРО́НАК *м., заал., тое, што* тхаранё. Раз выскачыў з-пад сяней тхаро́нак, мы і схвацілі яго (Бабовічы, Гом.). *Парайн.* тхаранё́нак.

ТХАРЫ'ХА (ТХОРЫ'ХА) *ж., заал.* самка тхара. Не ведаю, ці то тхор, ці тхары́ха, а галавы вуткам нехта ад'еў (Кароткавічы, Жлоб.+Баравікі, Светл.); А тхо-

рыха з тхоранятам куру сцегнула (Багуцічы, Ельск.+Патапаўка, Б.-Каш., Бабовічы, Гом.; Засінцы, Ельск.; Карчавое, Хойн.; Піркі, Браг.; Ямпаль, Рэч.). *Параўн.* тхарыца.

ТХАРЫ́ЦА *ж., заал., тое, што* тхарыха. Тхарыца ў мене на сараі жыла летась (Навінкі, Калінк.+Ручаёўка, Лоеўск.); Тхарыца такая самая, як і тхор, толькі меньшая (Дубраўка, Добр.).

ТХО́РАЎ *прым.* тхарыны. Тхо́раў след пахожы на ласчын, толькі крупнейшы (Стадолічы, Лельч.).

ТЫ́БЕЛЬ (ТА́БЕЛЬ) *м., буд.* калок *(для счаплення бярвення)*. Узяць далі на ты́бель, больш нічога не зробіш (Бывалькі, Лоеўск.); Пасадзім паследні сумак на ты́бель і работа акончана (Маркавічы, Гом.); Не парабілі та́бляў, дык сцяна звярнулася (Глінішча, Хойн.+Вуглы, Нар.; Дубраўка, Добр.; Кароткавічы, Жлоб.). *Параўн.* тэбел, тэбля.

ТЫБЛЯВА́ЦЬ (ТЭБЛОВА́ЦЬ) *незак., буд.* счапляць *(бярвенне ў сцяне)*. Тыблю́й тут, а я тое палена вазьму (Вуглы, Нар.); Тэблова́ць лес трэба, а то потом сьцена розваліцца (Стадолічы, Лельч.).

ТЫ́ЖДЖАНЬ (ТЫ́ЖДЕНЬ) *м.* тыдзень. Ты́жджань пацярала, пака дроў дабілась (Слабажанка, Хойн.); Другі ты́ждень тэлятко ходзіць (Грушаўка, Нар.+Аравічы, Хойн.).

ТЫ́КАЦЬ *незак.* тыцкаць. Язычa, язычa, куды цябе ты́ча? (Ліскі, Рэч.). // папракаць, упікаць. Што ты мне зноў ты́каеш, сколькі ўжо можна (Бабічы, Чач.).

ТЫЛІ́КАЦЬ (ТЫЛІЛІ́КАЦЬ) *незак.* тромкаць, дрынкаць. Не ўмее іграць, а гармоніку ўзяў, ідзе па вуліцы і тылі́кае (Дубраўка, Добр.); Як сеў тылілі́кацъ і будзе дзень з гэтай музыкай сядзець (Хальч, Ветк.); Не тылілі́кай тут у хаце, ідзі на двор (Паганцы, Светл.). *Параўн.* ты́мкаць.

ТЫ́МКАЦЬ *незак., тое, што* тылі́каць. У клубе хлопцы трохі на тых гітарах ты́мкаюць (Салтанаўка, Б.-Каш.).

ТЫРСА́ (ТЫ́РСА) *ж., зборн.* апілкі. Дровы напіляў, ты́рсу трэба ўбраць парасёнку (Бялёў, Жытк.); З бінзопілы тырсы́ ў дзесяць разоў болей, чым от простае пілы (Людзяневічы, Жытк.); На хату тырсы́ нанасілі (Р.-Шлягіна, Ветк.+Бабічы, Чач.; Багданавічы, Карм.; Забалацце, Раг.; М. Аўцюкі, Калінк.).

ТЫСЯЧАНО́ЖКА *ж., заал., тое, што* то́чка II *у 1 знач.* Тысячано́жкі водзяцца ў зямлі, яны як вусені (Забалацце, Раг.+Багданавічы, Карм.; Багуцічы, Ельск.; Сівенка, Ветк.).

ТЫЧКО́ВЫ *прым.* вітковы. У мене расьце тычко́вая квасоля і квасоля-пехотка (Стадолічы, Лельч.); Квасоля тычко́вая в'ецца высока (Багуцічы, Ельск.); Тычко́вую хвасолю падпірaць тычкамі трэба (Бялёў, Жытк.+Дарашэвічы, Петр.).

ТЫ'ЧНІК *м., зборн.* дубцы для агароджы. Колісь секлі палачкі, ды етым тычніко́м гарадзілі, а цепер бланачкі (Чалюшчавічы, Петр.).

ТЫ'ЧЧА *н., зборн.* тычкі. Ужо гарох пачынае віцца, нада ты́чча паставіць (Пабеда, Ветк.).

ТЭ'БЕЛ *м., буд., тое, што* ты́бель. Калкі, або тэблі. Ек робілі хату, то тэ́блы не забівалі, а цеперэка вуглы не дзержаць, полена ў сьцене вукручваюцца (Стадолічы, Лельч.). *Парау́н.* тэ́бля.

ТЭ'БЛЯ *ж., буд., тое, што* ты́бель. Для таго, каб украпіць паленні, бяруць калок, тэ́блю (Чалюшчавічы, Петр.). *Парау́н.* тэ́бел.

ТЭ'ІЦЬ *займ.* тыя. Тэ́іць хлопцы прыехалі з цаліны (Ломыш, Хойн.).

ТЭЙ *займ.* той. У екі бок додому?—У тэй (Тонеж, Лельч.).

ТЭ'ЙКА *ж., тое, што* та́йка. Мо б ты, тэ́йка, памагла картоплі сеяць? (В. Аўцюкі, Калінк.); Тэ́йка, пашлі сення ў лес, мо чарніцы нашлі (Грабавічы, Калінк.).

ТЭ'ЛЬБУХ *м., кул., тое, што* трыбу́х *у 2 знач.* Добры тэ́льбух удаўся, ні салёны, смачны (Грабава, Жытк.).

ТЭ'ЛЬМАНКА *ж., бат.* гатунак бульбы. У нас на гародзі расце тулькі тэ́льманка (Пучын, Браг.).

ТЭ'НЧА *ж.* вясёлка. Ох, якая тэ́нча чэраз рэку (Дарашэвічы, Петр.).

ТЭРНО́ВЫ *прым.* шарсцяны. Я ў сваe хусткі тэрно́вае трапкі отрэзала (Кірава, Нар.).

ТЭ'ТОЧКІ *займ., узмацн.* гэтакі. Наша дзеўка была гладкая, а цяпер зробілася тэ́точкой (Бялёў, Жытк.).

ТЭ'ЎШЧ *ж.* таўшчыня. У мароз тут тэ́ўшч, да метра лёду (К.-Балсуны, Ветк.); Прывезлі лес на хату, вунь якая тэ́ўшч (Іванаўка, Хойн.).

ТЮ'НІ *толькі мн.* галёшы. Я чула ты едзеш у Ельск,

пашукай там мне тю́ні на буркі, штоб глыбокія (Анто́наў, Ельск.).

## У

УБІРА́ЦЬ *незак.* вымаць *(хлеб з печы)*. Пора ўбіра́ць ужэ хлеб з печы, бо ўжэ даўно его посадзілі (Стадолічы, Лельч.).

УБІРА́ЦЦА *незак.* збірацца, рыхтавацца ў дарогу. Калісь бывала ўбіра́юцца ў хадакі зямлі купляць, дак выбіраюць, дзе лес, дзе рэчка (Быч, Карм.).

УБЛАГА́ЦЬ *незак.* уціхамірваць, улагоджваць. Учора ты, а сённі я яго ўблага́ў, а што далей будзе? (Баравікі, Светл.).

УБО́ІНА *аг., зневаж.* чалавек *(упарты, гультаяваты)*. Прыслалі да нас нейкую ўбо́іну: п'е толькі, а праца стаіць (Зарыжжа, Акц.).

УБО́ЙНЫ I *прым.* забойны *(выстрал)*. Падышлі на ўбо́йны выстрал, а ён ляжыць (Баравікі, Светл.); Убо́йны выстрал — значыць, можна забіць. З убо́йнага выстралу звер і не дрыгне (Марозавічы, Б.-Каш.+Піркі, Браг.; Ручаёўка, Лоеўск.).

УБО́ЙНЫ II *прым.* лянівы, наравісты. Малы добры быў, а ціпер такі ўбо́йны стаў (Жгунь, Добр.).

УБУ'ХАЦЦА *зак.* стаміцца. Убу́хаўся за такую дарогу, а цяпер хоць паспаць трэба (Шарпілаўка, Гом.).

УВА́ГА *ж.* павага. Мей жа ты ўва́гу, унучка (Быч, Карм.).

УВАЖКУ' *прысл. да прым.* цяжарная. Мая нявестка зноў уважку́ ходзіць (Стаўбун, Ветк.). *Параўн.* уцяжку́.

УВАЛА́ЦЬ *зак.* утаймаваць, уціхамірыць. Паспрабуй такога ўвала́ць тады, як вырасце, калі цяпер не дасі рады (Шарпілаўка, Гом.).

УВАЛІ́ЦЬ *зак.* набіць. Я гэтай унучцы ўвалю́ зараз (Баравікі, Светл.).

УВАРВА́ЦЬ *зак., перан.* 1. узяць. Гэта баба хваткая — усюды ўварве́ сваё (Рудня, Гом.). 2. адабраць, адняць, украсці. Ён не ўварве́, дык жыць не будзе (Крыўск, Б.-Каш.+Паганцы, Светл.).

УВЕРАДЗІ́ЦЦА *зак.* стаміцца *(занадта)*, напрацавацца. Хіба ўверадзі́ўся лежачы пад яблыняю? (Прудок, Калінк.).

УВЕ́РТКА *ж.* хустка. А дзе мая ўве́ртка бальшая? (Шылавічы, Б.-Каш.); Завяжы ўве́ртку на галаву (Ухоў, Ветк.).

УВЁРТКІ *прым.* вёрткі. Як маладзейшы, то быстрэйшы быў, увёрткі такі, а зараз... (Багданавічы, Карм.); Увёрткі хлопчык ее, як вецер леціць (Стадолічы, Лельч.).

УВІВА́ЦЬ *незак.* спавіваць. Машка мяне, помню, вучыла ўвіва́ць (Дубраўка, Добр.).

УВІ́ВІЧ (УВЫ́ВІЧ) *м., абрад.* накідка *(палатняная для дзіцяці)*. Пакрывалі малога пры хрышчэнні ўвівічам і аддавалі куме (Дубраўка, Добр.); Калісь абізацільна ўвы́віч нада — ета палатно такое, а ціпер проста мацер'ял (Ліпнякі, Лоеўск.+Ломыш, Хойн.).

УВІДНЕ́ЦЬ *зак.* развіднець. Сёння вельмі хутко ўвідне́ло (Дарашэвічы, Петр.).

УВІ́ТЫ *прым.* аплецены. Так і гаворацць — уві́ты гаршчок (Баравікі, Светл.).

УВО́ЕНКА (УВО́ІНКА) *ж.* рамка бёрда *(у яе ўстаўляецца трысцё)*. Трысцё ўстаўляецца ў уво́енку (Нісімкавічы, Чач.); Уво́інку трэбо робіць, а сухого дзерава нема (Вялікае Поле, Петр.). *Парайн.* уво́іна, уво́й, уво́йцы.

УВО́ІНА *ж., тое, што* уво́енка (уво́інка). І ета ж нада — уво́іна зламалася (Каравацічы, Рэч.). *Парайн.* уво́й, уво́йцы.

УВО́Й *м., тое, што* уво́енка (уво́інка). У адным месці уво́й лопнуў (Старажоўцы, Жытк.); Уво́й перасоўваецца з аднаго месца на другое (Стралкі, Раг.+Неглюбка, Ветк.; Нароўля, Гом.). *Парайн.* уво́іна, уво́йцы.

УВО́ЙЦЫ *толькі мн., тое, што* уво́енка (уво́інка). Трысцё ўстаўляем у ўво́йцы (Кароткавічы, Жлоб.). *Парайн.* уво́іна, уво́й.

УВЯ́ЗКА I *ж.,* вільчак. Абязацельна на страсе прыбіваецца ўвя́зка (Дубраўка, Добр.).

УВЯ́ЗКА II *ж.* вяроўка *(увязачная)*. Куды ты глядзіш? Вон твая ўвя́зка парвалася (Марозавічы, Б.-Каш.).

УВЯ́ЛІЦЦА *зак.* унадзіцца. Меньшы мой як увя́ліўся, як увя́ліўся ў агарод (Быч, Карм.).

УВЯРТО́НКА *ж.* хусцінка, касынка. Адрэж ад гэтага куска ўвярто́нку (Кароткавічы, Жлоб.).

УГАДАВА́ЦЬ *зак.* выкарміць. Угаду́еш свінню, дак уб'еш і кусок з'ясі (Дубраўка, Добр.).

УГА́ДНЫ *прым.* прыкметны. У мяне сасед такі ж уга́дны, здалёк відна (Шарпілаўка, Гом.).

УГАМАНІ́ЦЦА *зак.* супакоіцца. Малы мой плакаў, у его цімпіратура была, а патом угаманíўся (Халочча, Чач.); Угоманíса, не солі душу (Бялёў, Жытк.).

УГАМАНІ́ЦЬ *зак.* супакоіць. Дзядзька чуць угаманíў яго, а то разышоўся, што халодны самавар (Іскра, Чач.+Багданавічы, Карм.; Каравацічы, Рэч.; Піркі, Браг.).

УГАМО́ННЕ *н.* спакой. Што за чалавек? Ніколі яму ўгамо́ння няма (Быч, Карм.). *Параўн.* уго́ман.

У'ГАР *м., заал.* вугор. У'гра ловяць ноччу (Неглюбка, Ветк.).

УГАРТА́ЦЬ *зак.* загарнуць. Я ўгарта́ю твае рэчы ў газету (Заспа, Рэч.).

УГЕ́ *прысл.* ужо. Уге́ мае госці поехалі (Перароў, Жытк.); Уге́ наробіў следоў своімі чобоцішчамі (Грычынавічы, Жытк.); Уге́ пайшоў (Камаровічы, Петр.).

УГО́ДАК *м., абрад.* гадавіна *(пасля смерці)*. Уго́дак спраўлялі ў Насці па Андрэю, таму і дома не было (Багданавічы, Карм.).

УГО́ЛЬНІК *м.* шафа *(для посуду трохвугольная)*. Пастаў яе на уго́льнік (Бабовічы, Гом.).

УГО́МАН *м., тое, што* ўгамо́нне. Ці будзе табе сёдні ўго́ман? (Салтанаўка, Б.-Каш.).

УГРЫ'ЦА *ж. р. да* у́гар. Паймаў я сягоні угры́цу (Ломыш, Хойн.).

УДАБА́РЫЦЬ *зак.* сапсаваць несвядома. От удабарыла, дак удабарыла — узяла абед спорціла (Шарпілаўка, Гом.).

УДАГО́НКУ *прысл.* у дадатак, у прыдачу. Да возьмі 'шчэ і гэтыя грошы ўдаго́нку (Бялёў, Жытк.).

УДАЎНІ́ЦЦА *зак.* зацягнуцца. Трохі хварэў дома й думаў, што стане лепш, а цепер удаўнíлося (Бялёў, Жытк.): Дак, кажуць, нічого ні будзе, вельмо удаўнíласо, дзесяць гадоў пройшло (Рубча, Петр.).

УДВАДО́РАГА *прысл.* даражэй у два разы. За кабана заплацілі ўдвадорага. І ўдвадорага не хочуць работаць у мяне (Дубраўка, Добр.).

УДО́БА *ж.* падабенства. Быў мой хазяін у іхнюю удо́бу (В. Нямкі, Ветк.).

УДО́ЎЖНЫ *прым.* падоўжны. У скацерцы ё удо́ўжная карунка (Быч, Карм.).

УДРАЖНІЦЬ *зак.* развярэдзіць. Не тым зеллем уладзіла памазаць і ўдражніла рану (Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* укволіць.

УДРУГО́ГА *прысл.* другі раз. Вы ж удруго́га ўжо прыяжджаеце к нам (Быч, Карм.).

УДУШНЕ́ЦЬ *зак.* спацець. Адкрыйце хвортку, удушне́ла, не магу (Антонаўка, Добр.); Покуль прынесла просцілку зелья, то і ўдушне́ла (Камаровічы, Петр.).

УДЖГУ́Р *м.* пояс *(у штанах)*. Цяпер штаны на рэмні, а раньшай булі на уджгу́ру дзержаліса (Чалюшчавічы, Петр.). *Параўн.* учку́р *у 1 знач.*

УДЗЕ́ЦЬ *зак.* уцягнуць. Ні магу сама ўдзе́ць нітку — унуку прашу (Марозавічы, Б.-Каш.+Івакі, Добр.; Кароткавічы, Жлоб.; Халочча, Чач.). *Параўн.* укла́сці, усадзі́ць, усу́нуць.

У ДЗЯДКІ́ *прысл.* у бабкі *(снапы)*. Жыта жалі, у дзядкі ставілі, машынамі малацілі (Баравікі, Светл.).

УЖА́РЫЦЬ *зак.* уджаліць. Як балюча ўжа́рыла пчала (Багуцічы, Ельск.).

УЖО́ЎКА *ж., бат.* апенька. Сёлета гэтых ужо́вак, а божа ж мой (Бялёў, Жытк.).

УЖЫВА́ЦЬ *незак.* харчавацца. Мікола глядзіць сябе, ужыва́е добра (Пагоннае, Хойн.).

УЗБУРА́ЦЬ *незак.* падкідваць. Два разы ўзбура́ла цыплёначка к курам, і сама ўся ў гразі, а яны не ляцяць і ўсё (Палессе, Чач.).

УЗВА́ЛАК *м.* узгорак. На ўзва́лку, а такой травы нажала (Насовічы, Добр.); Узыйдзі на ўзва́лак — і побач (Дарашэвічы, Петр.).

УЗВА́ЦЬ *зак.* завесці. Немцы нашых узва́лі за могілкі, ды пастралялі (Бялёў, Жытк.); Узва́ць трэбо мою дочку да бабкі (Бялёў, Жытк.).

УЗГРЭ́БЦІСЯ *зак.* падняцца, устаць. Бораліся, дак так гракнуўся Хведар, што ні мог узгрэ́бціся (Пагоннае, Хойн.).

УЗГРЭ́Х *м.* агрэх. Паедзім узгрэ́хі раць, там послі трактара зысталіся (Ліцвінавічы, Чач.). *Параўн.* Узрэх.

УЗДА́ЦЬ *зак.* паддаць *(па́ры)*. Узда́й болей духу (Залессе, Чач.+Хізы, Ветк.).

УЗДО́ЎЖКАВЫ *прым.* падоўжны. У нас прымяня-

ецца болей уздо́ўжкавае баранаванне (Стаўбун, Ветк.).

УЗДО́ЎЖКІ *прысл.* уздоўж. Уздо́ўжкі заўсёды трактар барануе (Ст. Буда, Б.-Каш.).

УЗДУ'ХВІНА *ж., анат.* сонечнае сплячэнне. Ой, забалела мая ўзду́хвіна (Неглюбка, Ветк.).

УЗ'Е́СЦІСЯ *зак.* разгневацца, абурыцца. А свекроўка на мене як уз'е́лася, ну і пераселіліса (Бялёў, Жытк.).

УЗРУ'Б *м.* зруб. Ні страхі, ні вакон, ні дзвярэй, адзін узру́б стаіць (Маркавічы, Гом.); Столькі часу затрацілі, каб зрубіць узру́б еты (Грабаўка, Гом.).

УЗРЭ'Х *м., тое, што узгрэ́х.* Узрэ́хаў нарабіў тут (Калініна, Гом.).

УЗУВА́ЦЬ *незак.* абуваць. Вось я цебе ўзува́ю, а мене хто ўзуе? (Грушаўка, Нар.).

УЗУНО́К *м., бат.* павой. Узуно́к заплёў увесь плот. Той год яго столькі ня было (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.).

У ЗЫКІ́: *у зыкі бегаць.* Гізаваць. Скора жыта будзя красаваць, тады каровы як пачнуць бегаць у зыкі́ (Патапаўка, Б.-Каш).

УЗЯНУ'ЦЬ *зак.* узяць. Хто яе ўзяне́? Каму яна нада? (Ж. Буда, Добр.); Пайду ўзяну́ каня бульбу абагнаць (Нова-Мазолаў, Жлоб.).

УЗЯ'ТКА *ж., спец.* узятак. Ляціць пчала з узя́ткай (Бабовічы, Гом.); Кум, а бальшэй соліта для пчол узя́тка (Быч, Карм.).

УКАЙДЭШЫЦЬ *зак.* забіць. Трэба ўкайдэ́шыць парасёнка (Слабада, Ветк.). *Параўн.* уцерабіць.

У КАСІ́ЦЫ *прысл.* узор ткацтва. У яе посцілкі і ў касіцы, і ў шнуры (Дарашэвічы, Петр.).

УКВО́ЛІЦЬ *зак., тое, што* ўдражніць. Укво́ліла рану, дык во разбалелась (Дубраўка, Добр.).

УКЛ'АДА́НКА *ж.* посцілка *(суконная).* Укла'данкі знясі ў шафу (Грабава, Жытк.); Такіе ўклада́нкі тчэ моя зовіца (Стадолічы, Лельч.).

УКЛА́ДКА *ж.* акравак *(аўчыны).* Не чапай укла́дку, вот ты ўсюды ўлезеш (Кароткавічы, Жлоб.).

УКЛАНІ́ЦЦА *зак.* пакланіцца. Я яму тады нізка ўкланілася і папрасіла харашэнька (Быч, Карм.).

УКЛА́СЦІ *зак., тое, што* ўдзе́ць. Укла́сці нітку ў іголку, бо я ўжэ не бачу (Ручаёўка, Лоеўск.+Неглюбка, Ветк.; Бабовічы, Гом; Холмеч, Рэч.; Нісімкавічы, Чач). *Параўн.* усадзі́ць, усу́нуць.

УКЛЮ'НУЦЦА *зак.* 1. запасці, запамятаць. У галаву

ўклю́нулася і не выкідае, а ёй калі шчо ўклю́нецца — не вылезе (Дубраўка, Добр.); 2. прыкінуцца *(пра хваробу)*. Некалі стане ў пост разліва, як уклю́нецца хвароба, перакоце народу страх (Быч, Карм.).

УКЛЯПА́ЦЦА (укляпі́цца) *зак.* 1. закахацца. Дзеўка мая была ўкляпа́лась у таго анжынера (Стаўбун, Ветк.); Калі б пайшлі ўвечары, ды каторы б укляпі́ўся, што б вы рабілі? (Піркі, Браг.). 2. трапіць у няёмкае становішча. З сваім языком хоць раз добра ўкляпа́лася (Багуцічы, Ельск.+Палессе, Чач.).

УКМЯЦІ́ЦЬ *зак.* прыкмеціць. Я ўкмяці́ў яго з першага разу, калі ён праводзіў сход (Заспа, Рэч.).

УКО́ПАЦЬ *незак.* выкопваць. Калі картоплі вырастуць, то іх уко́паюць (Дарашэвічы, Петр.).

УКРА́ДКАЙ *прысл.* крадком. Ён укра́дкай ідзе, а яна ціха за ім (Бабовічы, Гом.). *Параўн.* укра́дкам, укра́дкі, укра́дні.

УКРА́ДКАМ *прысл., тое, што* ўкра́дкай. Любіш укра́дкам — любі, а людзям не паказвай (Быч, Карм.+Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* укра́дкі, укра́дні.

УКРА́ДКІ *прысл., тое, што* ўкра́дкай. Хіба ж добра, мая дачка, што ты ад маткі ўсё робіш укра́дкі? (Крыўск, Б.-Каш.); Чаго ты ідзеш укра́дкі? (Бабчын, Хойн.). *Параўн.* укра́дкам, укра́дні.

УКРА́ДНІ *прысл., тое, што* ўкра́дкай. Тутачкі ўкра́дні ваўкі вылі (Палессе, Чач.); Я ж і на семя сушыла ўкра́дні, а то б паелі (Быч, Карм.). *Параўн.* укра́дкам, укра́дкі.

УКРАМАВА́ТЫ *прым.* крываствольны. Украмава́тые дрэвы маюць часцей за ўсё крывыя ствалы (Бялёў, Жытк.). *Параўн.* укро́місты,

УКРО́МІСТЫ *прым., тое, што* ўкрамаваты. Укро́містыя дрэвы буваваюць рознай пароды (Баравікі, Светл.).

УКРО́М *м.* стрыжань *(не па цэнтры)*. Укро́м малы ў сасне, можа быць у елцы (Халочча, Чач.+Багданавічы, Карм.).

УКРО́П *м.* вар. Ужэ закіпеў укро́п, можна кідаць бульбу (Заходы, Лельч., Навасёлкі, Петр.); Вылей, унучка, укро́п у жлукто (Запясочнае, Лельч.).

УКРУЧА́НІК *м.* хуста. Завернецца ў укру́чанік і ідзе па вуліцы. Укру́чанік падбяры — замочыш (Марозавічы, Б.-Каш.+Быч, Карм.). *Параўн.* укру́чванка, укру́тка.

УКРУ'ЧВАНКА *ж., тое, што* ўкру́чанік. І дзе задзелася ета укру́чванка? (Кавака, Браг.); Пудай мне хутчэй укру́чванку (Бялёў, Жытк.). *Парайн.* укру́тка.

УКРУ'ТКА *ж., тое, што* ўкру́чанік. Без укру́ткі зімой нікуды не пойдзеш (Салтанаўка, Б.-Каш.). *Парайн.* укру́чванка.

УКУ'ТАЦЬ *зак.* ухутаць. Уку́тай суконнаю хустаю (Баравікі, Светл.).

УКУ'ТВАЦЬ *незак.* ухутваць, укрываць. Каб былі добрые буракі, дык трэбо ўку́тваць болей (Дарашэвічы, Петр.).

У ЛАД *прысл.* ва унісон. От спелісь у ла́д ужо (Баравікі, Светл.).

УЛАДАВА́ЦЦА *зак.* управіцца. Так зморылася, толькі к вечару уладава́лася (Бялёў, Жытк.).

УЛАДЖА́ЦЦА *незак.* упраўляцца. Ой, Ганна, некалі, пойду уладжа́цца (Бялёў, Жытк.).

УЛА́ДЗІНЫ *толькі мн.* наваселле. Заўтра ў сястры ўла́дзіны, дак пайду памагу ёй (Халочча, Чач.). *Парайн.* ула́зіны, уходчыны.

УЛА́ДЗІЦЬ *зак.* 1. аддаць. Ці ўла́дзіў ты сына ў школу (Асінаўка, Светл.). 2. урэгуляваць. Пагодзь, дай мне ета шчэ ўла́дзіць (Баравікі, Светл.). 3. дагадзіць. І што вы думалі? Ула́дзіла! Добрага выбрала (Быч, Карм.).

УЛА́ЗІНЫ *толькі мн., тое, што* ўла́дзіны. На ўла́зіны не пазвалі (Махновічы, Маз.); У нас, як у новую хату парабіраюцца, так і ўла́зіны спраўляюць. Ё такія, што і да ўла́зін жывуць, а потым ула́зіны спраўляюць (Хізы, Ветк.+Хальч, Гом.; Шуты, Ельск.; Лукі, Кароткавічы, Мармоль, Жлоб.; М. Аўцюкі, Калінк; Леніна, Хойн.). *Парайн.* ухо́дчыны.

УЛА́НЫ *толькі мн.* стужкі. У Лаўрэніхі була спадніца з ула́намі (Быч, Карм.).

У ЛАПУ: *у лапу зрублены.* Зрублены без выступаў канцоў бярвення. Хата зроблена і наша ў ла́пу (Р.-Шлягіна, Ветк.+Халочча, Чач.).

УЛЁТКУ *прысл.* летась. Улётку вялікая засуха была (Піркі, Браг.).

УЛЁК *м.* спалох. Талі ўлёк мяне ўзяў (Баравікі, Светл.); Ат улёку шаптуха шэпча (Хізы, Ветк.); Улёк бывае ў любога (Марозавічы, Б.-Каш.).

УЛО́ВІЦЬ *зак.* злавіць. Дапаможыш куру ўло́віць (Дарашэвічы, Петр.).

УЛО́ННЕ *н.* прыпол. Хадзі, мая дзетка, ка мне на ўло́ння (Астрагляды, Браг.); Як пасаджу малога на ўло́нне, дык ён зразу і зашчабеча (К. Балсуны, Ветк.).

УЛУ'ЗАЦЬ *незак., зневаж.* есці *(прагна)*. Як я бачу ты добра ўлу́заіш (Вітлін, Раг.). *Параўн.* уплята́ць.

УЛУПІ́ЦЬ *зак.* ударыць. Я цябе сённі ўлуплю да й добра (Славань, Светл.). *Параўн.* улюлю́шчыць, упа́рыць.

УЛУ'ТАК *м.* вушак. Рамы ўстаўляюць ва ўлу́так (Багданавічы, Карм.); Давайце калоду распусцім на ўлу́ткі (Хізы, Ветк.+Марозавічы, Б.-Каш.; Суткоў, Лоеўск.) *Параўн.* улушня́к.

УЛУШНЯ'К *м., тое, што* ўлу́так. У мяне ўлушнякі́ з старой хаты, дак адзін крэпкі, а другі ўлушня́к не (Кароткавічы, Жлоб.).

УЛЮЛЮ'ШЧЫЦЬ *зак., тое, што* ўлупіць. Як улюлю́шчыў ён таму хулігану, нат не паверылі вачам сваім людзі (Акцябр.); *Параўн.* упа́рыць.

УЛЯКНУ'ЦЦА *зак.* спалохацца. От я сённі ўлякнуўся (Сідаравічы, Б.-Каш.).

УМАРДАВА́ЦЦА *зак.* змардавацца. Вазілі сена цэлы тыдзень, умардава́ліся нейма як (Шарпілаўка, Гом.).

УМЕ́КА *аг.* умелец. От уме́ка, што ні возьме, то і робіць (Леніна, Хойн.).

УМЕ́СЦЯМ *прысл.* разам. Вы не ўме́сцям ходзіце? (Быч, Карм.).

УМЕ́ЦІЦЬ *зак.* заўважыць. Я ўме́ціў яе адзін дзень, другі, трэці і на адным і тым жа месці (Піркі, Браг.).

УМО́ЧАНЫ *дзеепрым.* мочаны, салёны. Гуркоў умо́чаных дзеўцы папаслала (Піркі, Браг.).

УМУ'РЗАЦЦА *зак.* запэцкацца. А яна ж уму́рзаецца-ўму́рзаецца за дзень (Бялёў, Жытк.).

УМЫ'ЛІЦЦА *зак.* упарыцца. А сёння конь добра бег, затое ўмы́ліўся, бедны (Холмеч, Рэч.).

У НА́ЗІРКУ *прысл.* назіркам. У на́зірку сабака бег за зверам, а тады згубіў з віду (Піркі, Браг.).

УНЁ І. *часц.* вунь. Уне́ Іван ідзе да мяне (Крупна, Маз.).

УНЁ ІІ. *выкл.* ого. Уне́! Яшчэ лецяць (Тульгавічы, Хойн.); Не ўмееш пець, уне́?! (Леніна, Хойн.).

УНУ'КА (УНУ'ЧА) *ж.* унучка. Уну́ка памыла падлогу, а матцы радасці (Ваявода, Гом.); У мяне ж ужэ ўну́ка школу закончыла (Кавака, Браг.+Багданавічы, Карм.; Сяўкі, Лоеўск.; Веляцін, Рэч.; Брылёў. Петр.); Ну, пасярэдзіне, то мая ўну́ча ідзе (Дарашэвічы, Петр.).

УНУЧЭ'НЧЫК *м., памянш. да* ўнук. Унучэ́нчык, лажыса спаць, ужо позно (Дарашэвічы, Петр.).

УНЯ'ЦЬ *зак.* пераняць. Дак ты ўняла́ тры каровы, дай погнала (Бялёў, Жытк.).

У ПАДСО́БКУ *прысл.* у дапамогу. Каб хлопец буў дома ў падсо́пку (Быч, Карм.).

УПАДО́БАЦЬ *зак.* упадабаць. Калі сын упадо́баў (нявесту), той мне добрэ (Млынок, Ельск.+Кіцін, Жлоб.; Дворышча, Хойн.).

УПАЛІ́ЦЬ *зак.* распаліць. Трэба печ упалі́ць (Баравікі, Светл.).

УПАЛНЯ'ЦЬ *незак.* дагаджаць. Не нада ім упалня́ць (Холмеч, Рэч.) *Парайн.* устанча́ць.

УПАРА́НКУ *прысл.* уранку, раніцою. Упара́нку заўсёды вялікая і халодная раса (Пераpoў, Жытк.); Упара́нку схадзі ў грыбы (Прудок, Калінк.+Рубча, Петр.).

УПАРА́ДЖАЦЬ *зак.* упарадкаваць. Мы позна ўсё ўпара́джалі (Палессе, Чач.).

УПАРА́ДЗІЦЦА *зак.* управіцца *(з гаспадаркай)*. Пішуць маладыя, што ўпара́дзіліся яны там харашо (Палессе, Чач.). *Парайн.* упо́рацца, упо́ркацца.

УПА́РЫЦЬ *зак., тое, што* ўлупі́ць. Упа́р яе там, каб не чапілася (Палессе, Чач.); Парэві, то як упа́ру — больш не захочаш (Грабава, Жытк.). *Парайн.* улюлю́шчыць.

УПЕ́РАК *прысл.* упапярок. Ні падумала, разрэзала ўперак, дак на подбіўку й не хапіла (Хізы, Ветк.); Есьлі шырокая паласа, то ўпе́рак скародзюць (Марозавічы, Б.-Каш.). *Парайн.* упе́рак.

УПЕ́РЫЦЦА *зак.* ударыцца, выцяцца. Упе́рыўся аб баньку (Задуб'е, Раг.).

УПЕ́РЫЦЬ *зак.* набіць. От толькі пойдзі гуляць, тоя тобе, дзевочко, упе́ру (Бярэзнікі, Жытк.).

УПЕ́ТАВАЦЦА *зак.* стаміцца. Там йе шчэ лашчына, мо калі ня ўпе́туюцца, набрындаюць дзе грыбоў (Палессе, Чач.).

УПЁ'КЦІСЯ *зак.* надакучыць. Ну й упёкся ж ты мне! (Дубраўка, Добр.). *Парайн.* упякці́ся.

УПЁ'РАК *прысл., тое, што* ўпёрак. Упёрак паразганялі на межы (Дубраўка, Добр.).

УПІВА́ЦЬ *незак.* выпіваць. Хлопцы вашы добра ўпіва́юць (Славань, Светл.).

УПІКА́ЦЬ *незак.* выганяць. Адна кінула, друга кінула і ета ўпікла́ з хаты (Грушаўка, Нар.).

УПІРАВА́ЦЬ *незак.* упірацца, супрацiўляцца. Купіў Грышка каня, упіру́е, не ідзець (Хізы, Ветк.).

УПЛАДЗІ́ЦЬ *зак.* нарадзіць. Мая дачка ўпладзі́ла сына (Піркі, Браг.).

УПЛА́ТА *ж.* плата. Вось прынесла я ўпла́ту табе (Марозавічы, Б.-Каш.).

УПЛЁ'Т *м.* стужка. Уплёт — ета ленты, якія дзяўчаты ў косы ўплятаюць (Касцюкоўка, Гом.); Дзе ж мае ўплёты дзеліся? (Ніўкі, Добр.); Мая дачка яркія ўплёты на косы павязала (Запясочнае, Маз.). *Парайн.* уплётка, устро́чка.

УПЛЁ'ТКА *ж., тое, што* ўплёт. Уплётка чырвоная даўжна быць, бо маладая верна мужу (Грабава, Жытк.); Косы запляцеш уплёткамі, да наверх чэпік (Кірава, Браг.). *Парайн.* устро́чка.

УПЛЯТА́ЦЬ *незак., тое, што* ўлу́заць. Расказвалі, што ён толькі на ежу здатны. Як пачне ўпля́та́ць, аж нос хадуном ходзіць (Хальч, Гом.); Уплята́е кусок сала і ні лыс (Дубраўка, Добр.).

У ПЛЯЧО́: *хата ў плячо.* Зруб з шуламі. Вот у суседа нашага хата ў плячо́ (Кароткавічы, Жлоб.). *Парайн.* у шу́лу.

УПО́БРЫКІ *прысл.* падбрыкваючы. Цялёнак наш ужэ ўпо́брыкі бегае (Гадзілавічы, Раг.).

УПО́РА *ж.* падпора. Выпала ўпо́ра, вароты аселі і не закрываюцца (Засінцы, Ельск.). *Парайн.* упо́рына.

УПО́РАЦЦА *зак., тое, што* ўпара́дзіцца. Даўно я ўжэ ўпо́ралась, а вас усе няма (Шарпілаўка, Гом.+Холмеч, Рэч.; Піркі, Браг.). *Парайн.* упо́ркацца.

УПО́РКАЦЦА *зак., тое, што* ўпара́дзіцца. Падажджыця трохі, мае дзеці, во ўпо́ркаюся, тады мо' што і раскажу (Хізы, Ветк.). *Парайн.* упо́рацца.

УПО́РЫНА *ж., тое, што* ўпо́ра. У вас упо́рына згніла, а вы не бачыце (Амельна, Раг.); Паставілі ўпо́рыны, каб крыша была мацней (Засінцы, Ельск.); Ноччу хтосьці падрубіў упо́рыны ў гумне (Багданавічы, Карм.+Бывалькі, Рэч.).

УПО́РЫСТЫ *прым.* напорысты, упарты. Што за праціўны чалавек — такі ж упо́рысты, як асёл (Палессе, Чач.).

УПРУ'Г *м.* шляк, аблямоўка. Одрэж полотно по упру́гу (Бялёў, Жытк.).

УПУ'ДЗІЦЦА *зак.* спудзіцца. Конь упу́дзіўся — машына па дарозе йшла — да ў лес, а тут шчэ вожка перарвалася (Дворышча, Хойн.).

УПУ'ЛЬВАЦЬ *незак.* трапаць *(лён)*. Потым упу́львацъ трэбо, каб ткаць потым абдзірку (Бялёў, Жытк.).

УПЯКА́ЦЦА *незак.* надакучаць. Яна так мне ўпяка́ецца, што я нязнама, як рада, што яе ня будзя (Хальч, Гом.).

УПЯКЦІ́ *зак.* 1. упасці і ўдарыцца пры падзенні. Шчэ як малая была, дак так упякла́ з печы, што дзве нядзелі гуз насіла. 2. упасці і разбіцца. Стакан упёк як-та (Палессе, Чач.).

УПЯКЦІ́СЯ *зак., тое, што* ўпёкціся. Яны ж так мне ўпяклі́ся, што я на іх глядзець не магу (Антонаў, Ельск.); Ото ўжэ мне ўпеклі́ся дзеці твае (Шарпілаўка, Гом.).

УПЯРО́ЧКА *ж.* баразна *(папярочная)*. Скапала адну ўпяро́чку (Неглюбка, Ветк.); 2. перакладзіна *(паміж вушакамі над дзвярыма)*. Як пераламалася ўпяро́чка, дак не знала, куды ўцекаць (Н.-Гута, Гом.). 3. перакладзіна *(для замацавання ставоў)*. Збіваюцца ствалы ўпяро́чкамі (Марозавічы, Б.-Каш.). 4. брусок для злучэння ножак *(у табурэтцы, стале)*. Упяро́чкі звязваюць стол, штоб крэпка стаяў (Раманавічы, Гом.); Табурэтку выцерла, а ўпяро́чкі брудныя (Маркавічы, Гом.). 5. баляса. Чаго ты такія ўпяро́чкі зрабіў, яны ж выпадаюць (Дубраўка, Добр.).

УПЯРО́ЧНЫ *прым.* папярочны. Паганяй упярочныя градкі (Стаўбун, Ветк.).

УПЯ'ЦЦА *зак.* 1. занатурыцца. Віцька Марынін упя́ўся і ні ідзе (Хальч, Гом.). 2. налегчы. Трэба ўпя́цца добра, і ён пакоціцца (Сямёнаўка, Раг.).

УРАБІ́ЦЬ *зак.* запэцкаць. Ой, платок уробіла (Дарашэвічы, Петр.).

У РАЗВА́Л: *араць у развал.* Араць да цэнтра ўчастка. І ў свал і ў разва́л сеем (Піркі, Браг.). *Параўн.* у разо́р, у разо́ру, у раскла́дку, у ро́скідку.

У РАЗО́Р (У РАЗО́РУ): *араць у разор. Тое, што* ў

разва́л. Я сею штогод з краеў, у разо́ру, а тады на разоры баба соўнешнікаў насадзіць (Холмеч, Рэч.); Адзін год у разо́р сеем, а другі ў склад (Насовічы, Добр.). *Параўн.* у раскла́дку, у ро́скідку.

У РАСКЛА́ДКУ: *араць у раскладку. Тое, што* ў развал. Тую ўзарэ ў раскла́дку, а тую ў склад (Гармавічы, Жлоб.). *Параўн.* у разо́р, у разо́ру, у ро́скідку.

УРАЧЫ́ШЧА *н.* мянушка. У нас у селе урачы́шча даваць любяць (Піркі, Браг.).

УРО́ДЗІ *часц.* быццам. Уро́дзі хто-та стукаў у вакно ды й няма нікога (Насовічы, Пракопаўка, Добр.); Ты ўро́дзі на свой маціў заводзіш (Леніна, Хойн.).

УРО́СКІДЗЬ *прысл.* у роскідку. Уроскідзь валяюцца бярвенне, і нікому нема дзела (Ліцвінавічы, Чач.).

У РО́СКІДКУ *прысл., тое, што* ў разва́л. Калі ў ро́скідку арэцца, тады ў серадзіне разора застаецца і два загончыкі будуць (Баравікі, Светл.); На адным загоне будзем сеяць авёс, а на другім бульбу — ары ў ро́скідку (Дземяхі, Рэч.). *Параўн.* у разо́р (у разо́ру), у раскла́дку.

УРО́ЎНІ *прысл.* нароўні. Налі вады ў вядро ўро́ўні з берагамі (Неглюбка, Ветк.).

УРО́ЧЛІВЫ *прым. да дзеяслова* сурочыць. Карова ў нас уро́чліва кім-та была, знахарку звалі (М. Аўцюкі, Калінк.); Уро́члівы чалавек, ад яго ўрокі ідуць (Дарашэвічы, Петр.).

УРО́ЧНІК *м., бат.* татарнік. Там, дзе расце ўро́чнік, трэба капаць калодзезь (Гармовічы, Жлоб.).

УРУ́Н *м. рунь.* Калі б зіма была добрая, уру́н загінуў бы (Бялёў, Жытк.). *Параўн.* уру́на.

УРУ́НА *ж., тое, што ўру́н.* Харошая ўру́на, добра жыта ўзышло (Марозавічы, Б.-Каш.); Кароў пасьці на ўру́ну пагналі (Ст.-Буда, Б.-Каш.+Бывалькі, Чарнейкі, Рэч.).

УРУ́НІЦЬ *зак.* зазелянець. Сёлета жыта ўру́ніла хоць (Быч, Карм.).

УРЫ́КВАЦЬ *незак.* рыкаць. Гледзі, не пі брагу, нето будзеш уры́кваць, як корова (Бялёў, Жытк.).

УРЭ́ЗАК *м.* адрэзак. І цепер урэ́зак меньшы, чым той рас (Грычынавічы, Жытк.).

УРЭ́ЧНІК *м., бат.* асака. Урэчнік на балоце расцець і рэжацца вельмі (Марозавічы, Б.-Каш.).

УСАДЗІ́ЦЬ *зак., тое, што* ўдзе́ць. У нас гаворадь

усадзі нітку ў іголку і ўкладзі нітку (Хізы, Ветк.); Усадзі нітку, а то не бачу, старая ўжэ (Ручаёўка, Лоеўск.); Вушка ў іголцы маленькае, ніяк не магу ўсадзіць (Каравацічы, Рэч.). *Параўн.* уклáсці, усýнуць.

У СВÁЛ: *араць у свал.* Араць ад цэнтра ўчастка. І ў свáл, і ў развáл пахалі (Піркі, Браг.). *Параўн.* у склáд.

УСВЕЖАВÁЦЦА *зак.* супакоіцца. Ну, усвежавáўся, цяпер лажыся (Стаўбун, Ветк.).

УСÉРДЗІЦЦА *зак.* раззлавацца. Усéрдзілася яна на мяне (Піркі, Браг.; Быч, Карм.); Так усéрдзіўся, што губы раздуў (Халочча, Чач.). *Параўн.* успыліцца, усхадзіцца.

УСÉСЛА (УСÉСЬЛА) *н.* устаўка *(у штанах)*. Ушыла ў штаны ўсéслу, бо цесныя былі (Неглюбка, Ветк.); У палатняныя, есьлі шыім, абізацільна нада ўстаўляць усéсла, затым што палатно вуская (Хізы, Ветк.); Штаны споднія з усéсламі шыям (Раманавічы, Гом.); Тольկі ўчора залапіла, сённі зноў усéсьла парваў, радзімец (Шылавічы, Чач.).

УСЁЁДНІЦА *ж., абрад.* мясаед. Была якрас ўсёёдніца, ну да, на ўсёёдніцу ж мы і кабана ўбілі, як ён прышоў (Быч, Карм.).

УСКАЛАЦІЦЬ *зак., перан.* скалясіць. Ускалацілі ўвесь лес і нічога не знайшлі (Старое Сяло, Гом.).

У СКЛАД: *араць у склад. Тое, што* ў свал. Трэба пахаць у склáд, бо на сярэдзіне лашчына, а каб бугор быў, дык у роскідку сеялі (Хізы, Ветк); Еты загон ўжо які год сеецца ў склад (Ст. Буда, Б.-Каш.+Неглюбка, Ветк.; Бабовічы, Гом.; Гармовічы, Жлоб.; Холмеч, Рэч.; Калінін, Хойн.; Ліцвінавічы, Чач.).

У СКÓБКУ: *прычасацца ў скобку.* Від прычоскі. От я прычасалась у скóбку: валасы раздзяліла на касы рад уперадзе, а ўзадзе здзелала куксу. Уперадзе валасы закалола заколкамі — от табе і ў скóбку (Прыбыткі, Гом.).

УСКРУЦІЦЦА *зак.* патрабаваць злучкі *(пра жывёл)*. Хоць бы наша свіння ўскруцілася, дык глядзі к лету быў бы прыбытак (Вялікае Ляда, Раг.).

УСЛАБКУ′ *прысл.* усмятку. А мы яечкі варым то ўслабкý, то ўкрутую (Бялёў, Жытк.).

УСЛÓНЕЦ *м., памянш. да* ўслон. Падстаў услóнец ля стала, каб больш гасцей села (Казацкія Балсуны, Ветк.). *Параўн.* услóнік, услóнчык.

УСЛО́НІК *м., тое, што* ўсло́нец. Пастаў усло́нік кала грубкі, я хоць плечы пагрэю (Асінаўка, Чач.). *Параўн.* усло́нчык.

УСЛО́НЧЫК *м., тое, што* ўсло́нец. Усло́нчык наш зламаўся, няма ў нас услончыка (Забалацце, Раг.+Маркавічы, Шарпілаўка, Гом.; Гардуны, Добр.). *Параўн.* усло́нік.

У СНЫКІ́ *прысл.* у адведзіны, у адведкі. Мяне не было, я сённі ў сныкі́ хадзіла (Быч, Карм.).

УСО́НІЦЦА *зак.* заснуць *(моцна)*. Што ета за хлопіц, што ўсо́ніцца на вячорках — ні разбудзіць (Жгунь, Добр.).

УСПЫЛІ́ЦЦА *зак., тое, што* ўсе́рдзіцца. Успылі́лася, бы жару падсыпалі пад яе (Забалацце, Раг.). *Параўн.* усхадзі́цца.

УСТАНЧА́ЦЬ *незак., тое, што* упалня́ць. Я ж вам ні буду устанча́ць, што бачыце, тоя і ежця (Вялікі Бор, Хойн.).

УСТА́ЎКА *ж.* вышыўка *(на рукавах)*. Як вышыта на рукавах — ета ўста́ўка (Раманавічы, Гом.); Уста́ўкі такія добрыя ў кохце, што хоць і старая кохта, а вукінуць шкода (Багуцічы, Ельск.+Баравікі, Светл.; Кавака, Браг.; Нісімкавічы, Чач.).

УСТО́БКА *ж.* стопка. Усто́бка старая ўжэ, дзіравая, зімой гуркі замерзлі (Целяшы, Гом.). *Параўн.* усцёбка.

УСТО́ПКІ *толькі мн.* атопкі. Да етыя усто́пкі вукінуць трэбо ўге (Бялёў, Жытк.).

УСТРА́ЦЬ *зак.* зачасціць. Мой у грыбы ўстраў хадзіць (Палессе, Чач.).

УСТРО́ЧКА *ж., тое, што* ўплёт. А мая дзетка, хто ж табе такія ўстро́чкі купіў? (Маркавічы, Гом.). *Параўн.* уплётка.

УСТРУ́Б *м.* зруб. Яны толькі яшчэ ўстру́б паставілі, работы шчэ шмат (Маркавічы, Гом.+Бывалькі, Рэч.).

УСТУ́ПЦЫ *толькі мн.* шлёпанцы. Усту́пцы на дзеравянай падашве бываюць, а наверсе кожа (Раманавічы, Гом.).

УСТУПІ́ЦЬ: *уступіць у галаву.* Запасці ў галаву. От уступіло ў голову дурное, не забывае (Стадолічы, Лельч.).

УСТЫРКНУ́ЦЬ *зак.* абуць *(паспешліва)*. Устыркну́ла бацінкі на голую ногу і пашла гуляць (Капань, Рэч.).

УСТЫ́ЦЬ *зак.* памерці. Тры дні пахварэла, а к вечару ўсты́ла (Піркі, Браг.).

УСУ́НУЦЬ *зак., тое, што* ўдзець. Я плоха бачу, дак мне цяжка ўсу́нуць нітку ў голку (Піркі, Браг.). *Парайн.* укла́сці, усадзі́ць.

УСХАДЗІ́ЦЦА *зак., тое, што* ўсе́рдзіцца. Усхадзі́лася, як самавар халодны (Марозавічы, Б.-Каш.). *Парайн.* успылі́цца.

УСХО́ДЦЫ *толькі мн.* ступенькі. Усхо́дцы такія сліскія, што ня ўзысці (Саўгасная, Б.-Каш.).

УСЦЕ́ЛЬКА *ж., шав.* вусцілка. Усце́льку як паложым, то і трохі цяплей ў рэзінавых сапагах (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.+Бялёў, Жытк.). *Парайн.* усці́лка.

УСЦЕ́РЦІ *зак.* запаліць, чыркнуць. Усце́рці спічку і палучыцца цяпло, а тады запаліць бяросціну ці смаліну (Палессе, Чач.). *Парайн.* усчыркну́ць.

УСЦЁ́БКА *ж., тое, што* ўсто́бка. У мяне картошка ўся ў усцёбцы ляжыць (Кароткавічы, Жлоб.).

УСЦІ́ЛКА *ж., тое, што* ўсце́лька. У мяне скураная ўсці́лка парвалася, а другая цэлая (Харомцы, Акц.); Я ж казала, пакладзі на чарано ўсці́лкі з бот, а цяпер абувай мокрыя (Р.-Каменева, Лоеўск.+Камунар, Б.-Каш.; Барталамееўка, Ветк.; М. Аўцюкі, Калінк.; Насовічы, Добр.; Чалюшчавічы, Петр.; Холмеч, Рэч.).

УСЧЫРКНУ́ЦЬ *зак., тое, што* ўсце́рці. Ушчыркні спічку (Меркулавічы, Чач.).

УСЫ́ПІШЧА *н.* бочка *(для збожжа)*. Пасля абмалоту збожжа ссыпалі ва ўсы́пішча (Любань, Б.-Каш.); У каго няма ўсы́пішча, у мяшку трымае (Хізы, Ветк.); Калісь ва ўсіх булі ўсы́пішчы, а цяпер парассыхаліся, цяпер яны не трэба (Маркавічы, Гом.+Р. Бурыцкая, Лоеўск.; Асінаўка, Чач.).

УСЮ́ДАХ *прысл.* усюды. Пасля вайны ўсю́дах быў голад (Сяўкі, Лоеўск.).

УСЮ́ДЫ *прысл.* усё. Ты ж усю́ды знаеш (Баравікі, Светл.).

УСЯГДЫ́ *прысл.* заўсёды. Падойнік трэба ўсягды́ чысціць і мыць гарачай вадой (Казацкія Балсуны, Ветк.).

УТАРА́К *м.* рой *(другі)*. Першы рой, утара́к — гэта добрыя раі, а патом пажаряк (Баравікі, Светл.).

УТВАРА́ЦЬ: *утвара́ць штуку*. Зрабіць непрыстойнае, нечаканае. Вот утвары́ла штуку: грошы пазычыць — па-

зычыла, а аддаць забулася (Чалюшчавічы, Петр.).

УТРАБЯ́НКА *ж., кул.* вантрабянка. Пазбірала і пакрышыла ўсё вантроб'е — утрабя́нку здзелала (Меркулавічы, Чач.).

У́ТРАНІЦА *ж., астр.* заранка. Сонца яшчэ не ўзышло, а ўтраніца тады ярка відна (Гарадзей, Раг.+Марозавічы, Б.-Каш.; Івакі, Добр.).

УТРО́БА *ж.* хвароба *(органаў страваваньня)*. Утро́ба такая падкінулася — і каровы як і не было (Піркі, Браг.).

УТРУБІ́ЦЬ *зак., зневаж.* з'есці. Рабіць ці робіць, а сеў дак паўкуліды ўтрубіў (Востраў, Ельск.); Утрублю́ кусок сало і хоць бы што (Дуброва, Петр.).

УТРЭ́СКАЦЦА *зак.* закахацца. Гэта ж утрэ́скоўса, кожны дзень да яе за тры кілометры ходзіць (Бялёў, Жытк.). *Параўн.* уцо́пацца.

УТУЛАВА́ТЫ *прым.* сутулаваты. Што ўжэ мой хлопец такі ўтулава́ты: плечы няроўныя, пагнутыя і што ні раблю — не слухае (Бабовічы, Гом.).

УТУ́ПІЦЦА *зак.* угледзецца. Але як уту́піцца ва што, дык ні з места (Белы Пераезд, Петр.).

УТЭ́РКНУЦЬ *зак.* пасадзіць. Учора ўтэ́ркнуў у зімлю цыбулю, ні знаю — узыйдзе ці не (Вітлін, Раг.).

УТЭ́ТЫ *займ.* во гэты. Утэ́ты чалавек учора на сходзе ўсё крычаў (Дзвіжкі, Ельск.); Утэ́тая жанчына такая разумная, калі з ёю пагаворыце — розуму набярэцеся і ўсё запішаце (Антонаў, Ельск.); Утэ́ты хоць яму стрэль, усё роўна на сваім паставіць (Крыўск, Б.-Каш.+Зарэчча, Жлоб.).

УХА́БАК *м.* ухаба. Слізка, на ўха́бак 'шчэ дзе палякім (Быч, Карм.).

УХАДЗІ́ЦЦА *зак.* стаміцца. Так ухадзі́лася, пакуль ражку адна вынесла (Крыўск, Б.-Каш.+Перароў, Жытк.; Каравацічы, Рэч.).

УХАДЖА́ЦЦА *незак.* падыходзіць *(пра цеста)*. Пастаў на печ, хай ухаджа́ецца (Ручаёўка, Лоеўск.).

УХАЖО́РКА *ж.* каханка. Ухажо́рка яго доўга не думала, а з другім і пайшла (Баравікі, Светл.); Ухажо́рка мая, чым ты бровы падвяла? Ці чарнілам, ці пяром, ці з лаханкі памялом? (Хізы, Ветк.+Багуцічы, Ельск.; Дарашэвічы, Петр.; Гармовічы, Жлоб.; Бялёў, Жытк.; Багданавічы, Карм.; Халочча, Чач.; Чалющчавічы, Петр.).

УХВА́Т *м.* хват, зух. Ягорка — добры ўхва́т, з вады вускачыць сухім (Астрагляды, Браг.).

УХО́ДЧЫНЫ *толькі мн., тое, што* ўла́зіны. Некалі мае будзем ухо́дчыны гуляць у Колі. (Холмеч, Рэч.); У прошлым годзе мой пляменнік здзелаў хату, дак ухо́дчыны гулялі (Дубраўка, Добр.+Суткоў, Лоеўск.). *Параўн.* ула́зіны.

УЦАЛІ́К *прысл.* па цаліку. Зімой ездзяць часта ўцалі́к, без дарогі (Хізы, Ветк); Чаго ты паехаў уцалі́к, дарогі табе няма? (Гадзілавічы, Раг.).

УЦЕ́ГЧЫ *зак.* збегчы, уцячы. А мы ў чужы двор уце́глі ад брыгадзіра (Піркі, Браг.).

УЦЕРАБІ́ЦЬ *зак., тое, што* ўкайдэ́шыць. Обуха ў голову і ўцерабіў кабана (Аравічы, Хойн.).

УЦЕ́РА́Ч (УЦІ́РАЧ) *м.* ручнік. Трэба ўце́рач памяць (Піркі, Браг.); Абвярці ўці́рачам, штоб рукі аб чыгун не папекці (Астрагляды, Браг.+Аравічы, Хойн.). *Параўн.* уці́рак, уціра́нік, уціра́ннік, уціра́тнік, уціра́нка, уці́рка.

УЦІ́РАК *м., тое, што* ўце́рач (уці́рач). Памуй гэты ўці́рак, бо мурзаты (Аравічы, Хойн.). *Параўн.* уціра́нік, уціра́ннік, уціра́тнік, уціра́нка, уці́рка.

УЦІРА́НІК (УЦІРА́ННІК) *м., тое, што* ўце́рач (уці́рач). Еты ўціра́нік няхай мо на посуд будзя (Кавака, Браг.); Уціра́ннік у нас на гвоздзіку вісіць (Майскае, Жлоб.). *Параўн.* уці́рак, уціра́тнік, уціра́нка, уці́рка.

УЦІРА́ТНІК *м., тое, што* ўце́рач (уці́рач). Вот колісь уціра́тнікі вушуваныя булі (Чалюшчавічы, Петр.). *Параўн.* уці́рак, уціра́нік, уціра́ннік, уціра́нка, уці́рка.

УЦІРА́НКА *ж., тое, што* ўце́рач (уці́рач). Пазоліш уціра́нку, ды і зноў белая (Рафалаў, Браг.). *Параўн.* уці́рак, уціра́нік, уціра́ннік, уціра́тнік, уці́рка.

УЦІ́РКА *ж., тое, што* ўце́рач (уці́рач). Бяры ўці́рку, вытрысь-ка, бо вымак увесь (Саўгасная, Б.-Каш.+Р.-Бурыцкая, Ветк.; Раманавічы, Гом.; Карма, Добр.; Крупка, Маз.; Буйнавічы, Запясочнае, Маз.; Асінаўка, Нісімкавічы, Чач.). *Параўн.* уці́рач, уці́рак, уціра́нік, уціра́ннік, уціра́тнік, уціра́нка.

УЦІСКА́Ч *м.* ланцуг. Прынясі ўціска́ч, ён там, у сенцах, ляжыць (Маньчыцы, Маз.).

УЦО́ПАЦЦА *зак., тое, што* ўтрэ́скацца. От уцо́палася ў того хлопца, свету белаго за ім ні бачыць (Каменка, Маз.).

УЦЯЖКУ′ *прысл., тое, што* ўважку́. У нас адна маладзіца штогод ўцяжку́ бывая (Хізы, Ветк.).

УЧАРНЕ́ЦЬ *зак.* схуднець. Балеў чалавек, дак так учарне́ў (Ручаёўка, Лоеўск.).

УЧКУ′Р *м.* 1. *тое, што ўджгу́р.* У штаны з учку́рам раней аборкі зацягвалі. Усе ўжэ шшыла, засталося прышыць учку́р (Асінаўка, Чач.). 2. матуз. Раней жа пугавак ні было, дык замест пугавак ушывалі ўчкуры́ (Хізы, Ветк.+Кірава, Браг.; Р. Марымонава, Гом.; Раманавічы, Гом.; Чырвоная Буда, Добр.; Антонаў, Ельск.; Майскае, Жлоб.; Бялёў, Жытк.; Быч, Карм.; Баравікі, Светл.; Асінаўка, Чач.). 3. шнурок. Раней мужчыны падпаразваліся ўчку́ром (Сяўкі, Лоеўск.); Падвяжыся ўчкуро́м, будзяш як у вусі (Стары Хутар, Светл.+Заходы, Рэч.).

УЧМЭ′РЫЦЬ *зак., абыяк.* згатаваць. Трохі тут учмэ́рыла снеданне (Бялёў, Жытк.).

УША́Н *м.* цэбар. А ты ў ушане́ турнепсу насечы (Агалічы, Петр.).

УШКУ′РДЗІЦЬ *зак., зневаж.* раззлаваць. Такі, бабачкі, яна мяне ўшку́рдзіла, што век ні прашчу (Горваль, Рэч.).

УШПА́Р *м.* паз. Высякаюць ушпа́р, штоб дно дзяржалась (Хізы, Ветк.).

УШПІЛІ́ЦЬ *зак.* укусіць. От ушпіліў мене комар, шышка аж вуросла (Бярэзнікі, Жытк.).

УШУ′ЛА *н.* шула. Ушу́ло добрае будзе з дуба (Прудок, Калінк.); Ушу́лы ўжэ старые, бо хата ўжо даўно стоіць (Грушаўка, Нар.).

У ШУЛУ′: *хата ў шулу. Тое, што* ў плячо́. У шулу́ цяпер ужэ рэдка хто робіць хату (Баравікі, Светл.).

УШЧУБА́ЦЬ *зак.* адлупцаваць. Каб хто яе трохі ўшчуба́ў, мо' б пацішала (Баравікі, Светл.).

УШЧУКА́ЦЬ *незак.* супакойвацца. Людзі раней работалі, не ўшчука́лі (Палессе, Чач.).

УШЧУ′КНУЦЬ *зак.* супакоіцца. Жывот ушчу́к, не баліць (Палессе, Чач.); Да не крычы ты ўжо, ушчу́кні (Салтанаўка, Б.-Каш.).

УШЧУ′НІЦЬ *зак.* узрушыць, крануць. Зноў ушчу́ніў хлопца? (Навасёлкі, Петр.).

УЮ′ШНЫ *прым.* умелы, рухавы, увішны. Мой сын такі ўю́шны, што за што возьмецца, дык хоць стрэль, ён усё роўна сваё дзелая (Іскра, Чач.); Хлопчык твой маленькі, а ўю́шны, як верабейка (Бялёў, Жытк.).

УЯ́ЛІНА *ж.* нараст *(на дрэве)*. Колі глядзіш на ўя́ліну здалёку, то яна, як гняздо (Стадолічы, Лельч.).

УЯ́ЛІЦА *ж. сухастой*. Гэты год у лесе богато ўя́ліц (Дарашэвічы, Петр.).

УЯ́ПА *ж., бат.* губа. На дрэве тым вялікім такая ўя́па вырасла (Шуты, Ельск.).

## Ф

ФА́ЛЕЦ *м.,* паз *(у дошках)*. У гетай дошцы няма фа́льца; Нічога, ап фа́льцы не хвалюйся (Забалацце, Раг.).

ФА́ЛЬКА *ж.* складка. Ета фа́лька ўнізе расшыраецца, а кверху звужваецца (Чалюшчавічы, Петр.).

ФАЛЬЦАВІ́К *м., цясл.* рубанак (для выемкі пазоў). У фальцавіку́ вузкі нож, дзеравяна калодачка з ступеньчатымі выступамі і грэбнем (Ламавічы, Акц.).

ФАЛЬЧ *ж.* недахоп *(фізічны)*. А ў яго сабакі была фальч — губляла след (Юравічы, Калінк.).

ФАНАБЭ́РА *аг.* асоба *(фанабэрыстая)*. І адкуль ты ўзяўся, фанабэ́ра такі? (Ламавічы, Акц.).

ФАРША́ЛЬ *м.* пюрэ *(з бульбы)*. Раней з фаршаля многае смашнае можна було зрабіць (Юравічы, Калінк.).

ФАЦЫЯ́НТ (фаціянт) *м.* франтон. Фація́нт прахудзіўся, дождж на століь зацякае (Узнаж, Светл.).

ФІГУ́РНІК *м., цясл.* рубанак *(для вырабу ўзораў)*. Фігу́рніком можно на налічніках усякія ўзоры рабіць (Стадолічы, Лельч.).

ФІ́НКІ *толькі мн.* санкі. Зімой на канаве на санках катаемся, на фінках; фінкі отцы робяць (Бялёў, Жытк.).

ФІ́РА *ж.* фура. Цяпер ужо валоў няма і фіры не робяць (Ламавічы, Акц.).

ФЛЯ́ГА *ж., цясл.* малаток *(сталярны)*. Фляга — то велікі сталярскі молоток (Чалюшчавічы, Петр.).

ФРА́ЗА *ж.* паз. Фра́за ў дошках робіцца для шчытнасці (Усохская Буда, Добр.).

ФУГАВА́ЦЬ *незак., перан.* выдаляць. Фугу́й адсюль хутчэй, я табе сказала (Антонаў, Ельск.).

ХАБА́Т *м.* дрэва *(з сітавінай)*. Хаба́т у бярвеннях папаўся (Чалюшчавічы, Петр.).

ХАБО́ША I *ж.* сетка *(рыбалоўная)*. Паставіў коша, а туды налезло ўюноў, а ў хабо́шу — шчучкі (Грушаўка, Нар.); Мы зрабілі хабо́шу і пошлі ловіць рыбу (Бялёў, Жытк.).

ХАБО́ША II *ж.* бот *(стаптаны)*. Ну і чэрэвікі ў тэбэ стоптаные, як хабо́шы (Грушаўка, Нар.).

ХАБУ́НЯ *ж.* дрывотнік. Хаўроня, схадзі ў хабу́ню торху прынясі (Зарэчча, Жлоб.).

ХАБУ́РА *ж.* канец. Навядом мы ёй хабу́ру. Як шандарахнуў разок і хабу́ра (Быч, Карм.). *Параўн.* ха́на II.

ХАВА́ЛКА *ж.* хованка. Дзеці ў хава́лку гулялі (Вышалаў, Петр.+Прудок, Калінк.).

ХАВА́ТНЫ *прым.* трухлявы. Хава́тнае дзерава ўпала за ноч (Ламавічы, Акц.). *Параўн.* ха́ўтны, хваба́тны.

ХАДА́К *м.* стойка. Дадуць маломý хада́к, дык ён і ходзя памалу (Усохская Буда, Добр. + Дубраўка, Добр.). *Параўн.* хаду́лькі, хаду́ля, хаду́н *у 1 знач.,* хадунец, хаду́нчык, хадуны́, хаду́ха, хаду́шка, хады́лка, хо́далка, хо́дачкі, хо́дка.

ХАДАНУ́ЦЬ *зак.* пайсці, пакрочыць. Прама лесам і хадану́ла дадому (В. Бор, Хойн.).

ХАДЖА́ІН *м.* муж. Мой хаджа́ін буў добры гаспадар (Н. Дуброва, Акц.). *Параўн.* хадзяін.

ХАДЗІ́ЦЬ (ХО́ДЗІ́ЦЬ) *незак.* 1. заляцацца *(да жанчыны)*. Мой чалавек нікольки не хадзі́ў да мяне, мы неяк адразу пабраліся (Буйнавічы, Лельч.+Касцюкоўка, Гом.). 2. выходзіць *(замуж)*. Мая дачка тры разы ха- (Н. Дуброва, Акц.). *Параўн.* хадзя́ін.

ХАДЗЯ́ІН (ХАЗЯ́ІН) *м.* 1. гаспадар. Хадзі да хадзя́іна (Камаровічы, Петр.); Толькі што гаварылі аб хазя́іне гэтага дома (Забалацце, Раг.+Багданавічы, Карм.; Баравікі, Светл.). 2. *тое, што* хаджа́ін. Мой хадзя́ін за мене ўсё робіць (Лукі, Жлоб.); А мой хазя́ін пісьмо прыслаў са Жлобіна — ён там на курсах вучыцца (Марозавічы, Б.-Каш.); Хазя́іна няма дома, так што прыходзьце другі раз (Краўцоўка, Гом.+Аравічы, Хойн.; Баравікі, Светл.; Брынёў, Петр.; Забалацце, Раг.; Кабанаўка, Жлоб.; Кавака, Браг.; Камаровічы,

Петр.; Кароткавічы, Жлоб.; Крупейкі, Лоеўск.; Марозавічы, Б.-Каш.; Н.-Мазалаў, Жлоб.; Піркі, Браг.; Ручаёўка, Лоеўск.; Стадолічы, Лельч.; Стаўбун, Ветк.; Усохская Буда, Добр.; Хізы, Ветк.; Хобнае, Калінк.).

ХАДНЯ′ *ж., толькі адз.* хадзьба. Хадня́ была паганая (Палессе, Чач.); Брыгадзіру хадні́ багата (Дзвінкі, Ельск.).

ХАДУ′ЛЬКІ *толькі мн., тое, што* хада́к. Хаду́лькі дзелалі з дошчачкі, а цяпер купляюць стаяначкі (Раманавічы, Гом.). *Параўн.* хаду́ля, хаду́н *у 1 знач.,* хаду́нец, хаду́нчык, хадуны́, хаду́ха, хаду́шка, хады́лка, хо́далка, хо́дачкі, хо́дка.

ХАДУ′ЛЯ *ж., тое, што* хада́к. Таня навучылася хадзіць без хаду́лі (Хойнікі). *Параўн.* хаду́лькі, хаду́н *у 1 знач.,* хадуне́ц, хаду́нчык, хадуны́, хаду́ха, хаду́шка, хады́лка, хо́далка, хо́дачкі, хо́дка.

ХАДУ′Н *м.* 1. *тое, што* хада́к. Старэйшы, дык той не ведаў што такое хаду́н, сам пайшоў (Дарашэвічы, Петр.); Пастаў дзіця ў хаду́н, хай вучыцца хадзіць. Алёнка ў хадуну́ ўжо добра бегае (Крынкі, Рэч.+Баравікі, Светл.; Бялёў, Жытк.; Гаруны, Дубраўка, Добр.; хаду́лькі, хаду́ля, хаду́н *у 1 знач.,* хаду́нчык, хадуны́, хаду́нчык, хадуны́, хаду́ха, хаду́шка, хады́лка, хо́далка, хо́дачкі, хо́дка. 2. дзіця *(якое вучыцца хадзіць)*. Яму ўжо год, ён хо́дун у нас (Бялёў, Жытк.).

ХАДУНЕ́Ц *м., тое, што* хада́к. Дзіця ў хадуне́ц паставяць дый вучаць так хадзіць (Піркі, Браг.). *Параўн.* хаду́лькі, хаду́ля, хаду́н *у 1 знач.,* хаду́нчык, хадуны́ хаду́ха, хаду́шка, хады́лка, хо́далка, хо́дачкі, хо́дка.

ХАДУНЫ′ *толькі мн., тое, што* хада́к. Дзіця вучыцца хадзіць у хадуна́х (Маркавічы, Гом.+Асарэвічы, Браг.). *Параўн.* хаду́лькі, хаду́ля, хаду́н *у 1 знач.,* хадуне́ц, хаду́нчык, хаду́ха, хаду́шка, хады́лка, хо́далка, хо́дачкі, хо́дка.

ХАДУ′НЧЫК *м., памянш. да* хаду́н *у 1 знач.* Калісь у нас дык казалі хаду́нчык (Піркі, Браг.+Чалюшчавічы, Петр.). *Параўн.* хаду́лькі, хаду́ля, хадуне́ц, хадуны́, хаду́ха, хаду́шка, хады́лка, хо́далка, хо́дачкі, хо́дка.

ХАДУ′ХА *ж., тое, што* хада́к. Верачка хадзіць навучылася, дык хаду́ху выкінулі ў сенцы (Гарадзец, Раг.). *Параўн.* хаду́лькі, хаду́ля, хаду́н *у 1 знач.,* хадуне́ц, хаду́нчык, хадуны́, хаду́шка, хады́лка, хо́далка, хо́дачкі, хо́дка.

ХАДУ́ШКА *ж., тое, што* хада́к. Купіла свайму дзіцяці хаду́шку (Неглюбка, Ветк.). *Парайн.* хаду́лькі, хаду́ля, хаду́н *у 1 знач.,* хадуне́ц, хадуны́, хаду́нчык, хаду́ха, хады́лка, хо́далка, хо́дачкі, хо́дка.

ХАДЫ́ЛКА *ж., тое, што* хада́к. Пара яму хады́лку купіць, дзіця падрастае (Багданавічы, Карм.+Косаль). *Парайн.* хаду́лька, хаду́ля, хаду́н *у 1 знач.,* хадуне́ц, хадуны́, хаду́нчык, хаду́ха, хаду́шка, хо́далка, хо́дачкі, хо́дка.

ХАЗЯЙНАВА́ЦЬ (ХОЗЯЙНУВА́ЦЬ) *незак.* гаспадарыць. Раньшэ піў, а цепер хозяйну́е (Грушаўка, Нар.).

ХАІ́ЦЬ *незак.* хадзіць. Хаі́ хутчэй, а то машына жджэ цебе (Замошша, Лельч.); Хае́мо са мною по грыбы (Прыбалавічы, Лельч.+Багуцічы, Ельск.).

ХА́КАЦЬ *незак.* дыхаць *(цяжка)*. Як замарыўся сабака, то сапе, ха́кае (Чалюшчавічы, Петр.).

ХАЛАБУ́ДА *ж.* хата *(недагледжаная)*. Сядзіць у сваёй халабу́дзе на пячэ (Рудня Антонаўская, Калінк.).

ХАЛАДЗЕ́Ц *м.* 1. студзень, халадзец. Баба будзе нам халадзе́ц варыць (Кароткавічы, Жлоб.). *Парайн.* халадзёнка, хало́днае. 2. халадні́к. Як станя цыбуля маладая, дык мы часцяком халадзе́ц дзелаем (Залессе, Чач.+Грушаўка, Дубовы Лог, Добр.; Стара-Высокае, Ельск.; Усохская Буда, Добр.; Хамінка, Хізы, Ветк.).

ХАЛАДЗЁ́НКА *ж., тое, што* халадзе́ц *у 1 знач.* На вяселлі халадзёнка была первай закускай, не тое, што цяпер (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.). *Парайн,* хало́днае.

ХАЛАДЗІ́НА *ж.* халадэча. Ууу, якая халадзі́на сёння на дварэ, носа не пакажаш (Багуцічы, Ельск.+Барталамееўка, Ветк.; Забалацце, Акц.; Хальч, Ветк.). *Парайн.* халадне́ча, хало́да.

ХАЛАДЗІ́ЦЬ *незак.* трэсці. І чаго мене так хало́дзіць, хаця п не захварэла (Дуброва+Чалюшчавічы Петр.).

ХАЛАДЗЯ́НКА *ж.* цура. Я пайду дамоў есць халадзя́нку (Асінаўка, Чач.).

ХАЛАДНЕ́ННЫ *прым., пар. ст. да* хало́дны *(вельмі)*. Уй, на двары як халадне́нна (Усохская Буда, Добр.).

ХАЛАДНЕ́ЧА *ж., тое, што* халадзі́на. От халадне́ча, змарозіўся толькі (Піркі, Браг.). *Парайн.* хало́да.

ХАЛАМІ́ДА *ж.* лахман. Надзела такую халамі́ду, што стыдна і на вуліцу выйці (Улукоўе, Гом.).

ХАЛАСЦЯКАВА́ЦЬ *незак.* быць халасцяком. Еты

хлопец яшчэ не жаніўся, ён яшчэ халасцякўе (Аравічы, Хойн.).

ХАЛАСЦЯ́ЧКА *ж.* незамужняя. Халасця́чка выйшла б замуж, ды ніхто не бярэ (Крупейкі, Лоеўск.); Халасця́чкай засталася — перабірала дужа (Багданавічы, Карм.); Усе халасця́чкі паступілі на работу на ферму (Брынёў, Петр.+Кавака, Браг.; Кароткавічы, Жлоб.; Н. Дуброва, Акц.).

ХАЛЕ́ПА *ж.* слата. На вуліцы такая хале́па, што нямажно вуйці (Махновічы, Маз.); Куды вы, дзеўкі, сунецеся ў етую хале́пу? (Славань, Светл.+Парэчча, Акц.; Рудня Антонаўская, Калінк.; Янова, Ветк.). *Парайн.* хвіле́піца, хле́бска, хлюпата́, хлю́ць, хля́ба, хля́кась, хля́па, хляпо́та, хляпо́цце.

ХАЛЕ́РЫЯ *ж., мед.* халера. Тады хале́рыя некая хадзіла. Скруця чалавека і ён памірае (Хізы, Ветк.).

ХАЛО́ДА *ж., тое, што* халадзі́на. На дварэ хало́да, адзевайцесь добра (Ніўкі, Добр.). *Парайн.* халадне́ча.

ХАЛО́ДНА *прысл.* хо́ладна. Сёння на дварэ хало́дна. Ох і хало́дна (Іскра, Чач.).

ХАЛОДНАЎСТО́ЙЛІВЫ *прым.* холадаўсто́йлівы. Я вон капусту пасадзіла. Нічога ні баіцца, такая халоднаўсто́йлівая (Хізы, Ветк.+Багуцічы, Ельск.).

ХАЛО́ДНАЕ *м., тое, што* халадзе́ц *у 1 знач.* А ета галава ды ногі на хало́днае пойдуць (Ст. Рудня, Жлоб.+Барталамееўка, Ветк.; Пакалюбічы, Гом., Хальч, Ветк.; Чкалава, Гом.).

ХАЛО́ДНАЯ *ж.* трупярня. Паднялі яго і занеслі ў хало́дную (Ручаёўка, Лоеўск.).

ХАЛУ́ДЗІНА *ж.* дубец. Дзядзько, прынясі на мого коня якую халу́дзіну (Дарашэвічы, Петр.). *Парайн.* хлу́дзіна.

ХАЛУ́ПА *ж.* хаціна. На пасёлку тры халу́пы няважныя ёсць (Дубраўка, Добр.+Багуцічы, Ельск.).

ХАЛУ́ПАЧКА *ж., памянш. да* халу́па. Яна 'шчэ жыве ў малюсенькай халу́пацца на краю сяла (Грабаўка, Гом.).

ХАЛЬНІ́НА *ж.* парадак. Яна дзеўка гожая, хальніну здзелала, хоць у сваты, хоць так (Стаўбун, Ветк.).

ХАМО́НКА *ж.* месца *(вязання плытоў).* У нас каля ўрочышча ў хамо́нцы вязалі плыты дый пускалі (Кароткавічы, Жлоб.).

ХАМЗА́ЦЬ (ХАМЗІ́ЦЬ) *незак.* мармытаць. Што ты

там хамза́еш? (Нова-Кузнечнае, Лоеўск.); Нічога нельга розобраць. Хамзі́ць увесь час (Верасніца, Жытк.).

ХАМЗЮ́КА *м.* зайздроснік. Гэты хамзю́ка ўсё чужога хоча (Усохская Буда, Добр.).

ХАМІ́Н *прым.* пaслявелікодны *(тыдзень)*. Калі наступае хамі́на нядзеля, дзеляць паску (Усохская Буда, Добр.+Аравічы, Хойн.).

ХАМУ́Т *м.* 1. *прам.* вупраж. Конь здаровы, а хаму́т маленькі (Холмеч, Рэч.). 2. *тэхн.* хаму́цік. Хаму́т у жорнах ужо шырокі стаў. Трэба змяніць (Хізы, Ветк.). *Парайн.* хамуто́к. 3. *перан., абразл.* дурань. От хаму́т, ні до чого не здатны (Макарычы, Петр.).

ХАМУТА́Р *м.* рымар. Хамута́р калхозу вупраж робіць (Неглюбка, Ветк.).

ХАМУТА́РКА *ж.* месца *(для вупражы)*. Хамута́рка лі канюшні е. У хамута́рцы збруя ляжыць (Дубраўка, Добр.). *Парайн.* хамута́рня, хамуто́ўня.

ХАМУТА́РНЯ *ж., тое, што* хамута́рка. У нас у калхозі бальшая хамута́рня. Коней многа (Усохская Буда, Добр.). *Парайн.* хамуто́ўня.

ХАМУТО́К *м., памянш. да* хамут *у 2 знач.* Цэп з хамутко́м. У нас даўней у цэпе былі раменныя хамуткі́ (Раманавічы, Гом.).

ХАМУТО́ЎНЯ *ж., тое, што* хамута́рка. У хамуто́ўню складаюць усю збрую (Норкаўшчына, Карм.). *Парайн.* хамута́рня.

ХАМЯНЯ́ *н.* дзіцянё *(хамяка)*. Хамяня́ты такія таўстыя, як сучаняты, пушыстыя (Усохская Буда, Добр.).

ХАМЯЧЫ́НЫ (хомы́чы) *прым.* хамячы. Мы рабілі хамячы́ную хату для жывога кутка (Баравікі, Светл.+Засінцы, Ельск.; Неглюбка, Ветк.; Ямпаль, Рэч.); Хомы́че норы по ўсім полі (Стадолічы, Лельч.).

ХАМЯЧЫ́ХА *ж.* самка *(хамяка)*. У жывым угалку е хамяк і хамячы́ха (Баравікі, Светл.); Хамячы́ха несла за шчакою жыта (Навінкі, Калінк.+Бялёў, Жытк.; Забалацце, Б.-Каш.; Засінцы, Ельск.; Насовічы, Добр.; Неглюбка, Ветк.; Усохская Буда, Добр.; Ямпаль, Рэч.).

ХА́НА *ж.* лякарства. З амбулаторыі прынеслі ўсякае ха́ны, каб толькі яна ўстала з пасцелі (Шупейкі, Светл.).

ХАНДА́К *м.* чаравік *(драўляны)*. Мо ўжэ тых хандакоў ні найдзяш. Добра закінула. Хандакі́ адзеня, дай соўкаяцца (Аляксандраўка, Калінк.).

ХАНДАЛЯ́К *м.* дыня. У цябе ўжэ вялікія хандалякі́, дык дай мне хоць аднаго (Даманавічы, Калінк.).

ХАПА́ЦЦА (ХО́ПАЦЦА) *незак.* спяшацца. Ганна, куда ето ты хо́паесса, подожджы трохі (Стадолічы, Лельч.).

ХАРАСЦВЕ́ННЫ *прым.* прыгожы. Якая ты сёння харасцве́нная! (Камаровічы, Петр.).

ХАРАШЭ́ННЫ (ХОРОШЭ́ННЫ) *прым.* добры. Хорошэ́нны годуецца хлопец у нашага Івана (Бялёў, Жытк). *Парайн.* харо́шы *ў 1 знач.*

ХАРВА́ТНІК *м.* яслі *(для корму жывёлы)*. Міша, палажы там разам у харва́тнік сена карове (Навасёлкі, Хойн.).

ХАРМУ́ШКА *ж., кул.* яечня. Раней рабіла харму́шку на снеданне часцей (Кароткавічы, Жлоб.).

ХАРО́ШЫ *прым.* 1. *тое, што* харашэ́нны (хорошэ́нны). Вы б толькі паглядзелі на яго, да чаго харо́шы, а яна — нішто (Жгунь, Буда, Добр.); Летась была харо́шая пагода, дык жыта многа намалацілі (Багданавічы, Карм.); Ета зерне харо́шае (Усохская Буда, Добр.); Цяпер ужэ ўсюдах харо́шыя дарогі (Марозавічы, Б.-Каш.+Антонаў, Ельск.; Бабовічы, Гом.; Багданавічы, Карм.; Баравікі, Светл.; Белы Пераезд, Бобрыкі, Петр.; Гармавічы, Жлоб.; Забалацце, Задуб'е, Раг.; Запясочча, Злодзін, Маз.; Кароткавічы, Жлоб.; Крыўка, Раг.; Марозавічы, Б.-Каш.; Насовічы, Добр.; Неглюбка, Ветк.; Піркі, Браг.; Пярэдзелка, Лоеўск.; Усохская Буда, Добр.; Халочча, Чач.; Холмеч, Рэч.). 2. спраўны. Варка худая, а Хаменок харо́шы, поўны (Навасёлкі, Петр.+Перароў, Жытк.).

ХАРЧ *м.* корм. Хіба такі харч корова будзе есці? (Стадолічы+Буйнавічы, Лельч.; Капцэвічы, Петр.).

ХАРЧО́ЎНЯ *ж.* сталовая. Дзе тут харчо́ўня добрая? (Хойнікі).

ХАРЧЫ́НА *ж.* харч. Сёлета ў нас харчы́ны хоць адбаўляй (Усохская Буда, Добр.).

ХАРЫ́ШЧА *м.* харыст-музыкант. Хары́шча прыйшоў з гармонікай (Камаровічы, Петр.).

ХА́ТА *ж.* 1. хата. О, у іх красівая ха́та і ў ха́це красіва (М. Аўцюкі, Калінк.). 2. пакой. Я сёння ў той ха́ці буду спаць (Бялёў, Жытк.+Грушаўка, Нар.; Мікулічы, Браг.; Чырвоная Дуброва, Рэч.).

ХА́ТКА *ж., памянш. да* хата, жыллё *(бабра)*. Учора мы бабра злавілі ў ха́тцы (Багуцічы, Ельск.).

ХАТЫ'ЛЬ *м.* клунак, сумка. Такі вялікі хаты́ль, што ледзь-ледзь яго ўсцягнула на плечы (Улукоўе, Гом.); Іван прыехаў з ярмаркі з вялікім хатылём за плячамі (К. Балсуны, Ветк.).

ХА́ЎКАЦЬ *незак.* пазяхаць. Чаго тут ха́ўкаць? Работу рабіце (Задуб'е, Раг.); Што ты ха́ўкаеш? Не спаў хіба? (Асінаўка, Светл.+Белы Пераезд, Петр.; Прудок, Калінк.; Рудня Антонаўская, Калінк.; Тульгавічы, Хойн.).

ХА́ЎТНЫ *прым., тое, што* хава́тны. Побач, яке дзерава прывёз ха́ўтнэ (Юравічы, Калінк.).

ХАЎТУ'РА *ж.* заработак *(пабочны, лёгкі)*. Ну, як, Панас, сённі добрую хаўту́ру прынёс? (Быч, Карм.).

ХАЎТУ'РШЧЫК *м., зневаж.* чалавек *(які хаўтурыць)*. У нас не любяць хаўту́ршчыкаў, бо яны глядзяць на дарэмнае (Дубраўка, Добр.).

ХАЎТУ'РЫ *толькі мн.* пахаванне. Хаўту́ры сёдні ў нас: Куцуба памёр (Пакалюбічы, Гом.).

ХАЎЦЕ́ЦЬ *незак.* прагнуць *(есці)*. Нарабіліся за дзень, дык за сталом аж хаўця́ць (Галубіца, Петр.).

ХА́ХАЛЬ *абразл.* палюбоўнік. Шчэ й мужык недаўно памёр, а яна ўжэ ха́халя завяла (Каменка, Маз.).

ХАХА́ТВА *ж., заал.* перасмешнік. Хаха́тва — гэта такая птаха, што розных птушак перакрыўлівае (Баравікі, Светл.).

ХВА́БАТНЫ *прым., тое, што* хава́тны. Гэтае дзерава даўно хва́батнае (Пярэдзелка, Лоеўск.). *Параўн.* ха́ўтны.

ХВАІ́НА *ж.* хвоя. Такая гонкая хваі́на, прама ссякаць жаль (Саўгасная, Б.-Каш.+Бялёў, Жытк.).

ХВА́ЙНА (ХВА́ЙНО) *прысл.* добра, прыгожа. Ой, як у цебе хва́йно пошыто плацце (Беразнякі, Жытк.).

ХВАЛА́ *аг.* хвалько. Хвала́, хваліцца, што ў яго ўсяго багата (Аравічы, Хойн.). *Параўн.* хвалі́сцей.

ХВАЛІ́СЦЕЙ *м., неадабр., тое, што* хвала́. Хвалі́сцей хваліцца хоча, ды німа чым (Стадолічы, Лельч.).

ХВАТА́ЦЦА *незак., перан.* спяшацца. Спозныўса — нэ хвата́йса. Да нэ хвата́йтэс ві, аўтобус жэ ідэ ў восім часоў (Грушаўка, Нар.).

ХВА́ЦЯ *прысл.* хопіць. Хва́ця ўжо крычаць табе (Неглюбка, Ветк.+Грушаўка, Добр.).

ХВАШЧА́НКА *ж.* мачалка *(з саломы, травы)*. Паша-

равала стол хвашча́нкай, дак беленькі (Холмеч, Рэч.+Амелькаўшчына, Хойн.; Асарэвічы, Браг.; Баравікі, Светл.; М. Аўцюкі, Калінк.; Палессе, Чач.; Ст. Краснае. Рэч.; Чалюшчавічы, Петр.).

ХВАШЧЫ́ЦЦА *незак.* парыцца *(венікам)*. Кажуць добра вымуўся, як пахвашчы́ўся венікам (Асарэвічы. Браг.).

ХВЁДАР *м.* страўнік *(начынены мясам)*. Учора кабана ўбілі, хвёдара здаравеннага зрабілі (Тульгавічы, Хойн.).

ХВЁДАРКА *м.* кароўка божая. Хвёдарку найшла, пагляджу, ці будзе заўтра пагода (Коўчыцы, Светл.).

ХВЕ́НІЦЦА *незак.* ганарыцца. Ні хве́нься тут, німа чаго і чым (Н. Востраў, Раг.).

ХВІЛЕ́ПІЦА *ж., тое, што* хале́па. Толькі прыдзе восень, так і хвіле́піца на дварэ (Парэчча, Акц.). *Параўн.* хле́бска, хлюпо́та, хлюць, хля́ба, хля́кась, хля́па, хляпо́та, хляпо́цце.

ХВІ́ЛЯ *ж.* 1. хваля. Ад етага парахода пайшла бальшая хві́ля (Холмеч, Рэч.); Дзень сённі добры і хві́лі на Прыпяці малые (Аравічы, Хойн.). 2. вецер *(моцны)*. Па полю вельмі цяжка іці: такая хві́ля ўзнеслася (Хвастовічы, Петр.).

ХВО́ЙКА *ж.* 1. *памянш. да* хвоя. Каля хвоі вырасла хво́йка (Аравічы, Хойн.). 2. *бат.* хвошч. У мене на сотках хво́йкі много (Аравічы, Хойн.+Стадолічы, Лельч.).

ХВОР *м.* хвароба. О, хвор нападзе, дык і не павернешся (Усохская Буда, Добр.).

ХВО́СНУЦЬ *зак., груб.* агрэць. Узяў палку да ек хво́снуў худобіну, чуць не ўбіў (Стадолічы+Буйнавічы, Лельч.).

ХВО́СТ *м.* 1. хвост. Ма́ладое ваўчаня, калі гуляецца, дык за хвасто́м сваім бегае, як сабачаня (Баравікі, Светл.). 2. задняя частка *(чаго-небудзь)*. На хвост плыта станавіліся самыя жвавыя і рухавыя хлопцы (Баравікі, Светл.). 3. канец. У каго які конь; хто ў галаве едзець а хто ў хвасце́ пляцецца (Марозавічы, Б.-Каш.); Як жа хвасты́ здзелаем, дык тады лепей плесці кош (Кароткавічы, Жлоб.+Бялёў, Жытк.; Марозавічы, Б.-Каш.; Ручаёўка, Лоеўск.). 4. палатно *(кавалак)*. На снегу сільна добра вібяліла хвост палатна. Хваста́ трэба разлажыць, хай ноч пабудзя (Аляксандраўка, Калінк.). 5. участак *(нязжаты)*. Жнеі пакінулі на полі хвост (Га-

рывада, Рэч.). *Парайн.* хво́сцік *у 3 знач.* 6. працяг *(вяселля).* Пасля вяселля вельмо смешно хвост гулялі (Махновічы, Маз.). 7. кутас. У ручніку асталіся саўсім малыя хвасты́ (Каравацічы, Рэч.); Хвасто́ў у цябе нямнога засталося? (В. Стралкі, Раг.). 8. від прычоскі. На галаве хвасты́ закручваеш, а ў галаве пуста (Лучын, Раг.+Камунар, Б.-Каш.). 9. *перан.* звязка. У мяне ў печы сушыцца тры хвасты́ баравікоў (Баравікі, Светл.).

ХВО́СЦІК *м.* 1. кончык. Хво́сцік у стручка пажоўк (Залессе, Чач.); Паатрывай хво́сцікі ад бобу (Піркі, Браг.+Капараўка, Рэч.). 2. пазваночнік *(ніжняя частка).* Сёння ўпаў, аж хво́сцік забалеў (Усохская Буда, Добр.). 3. *памянш. да* хвост *у 5 знач.* Раней жнеі пакідалі многа хво́сцікаў на полі (Быч, Карм.).

ХВО́ШЧЫК *м., бат., памянш. да* хвошч. І на балоці багата хво́шчыку расце (Халочча, Чач.).

ХЕ́ЙДАР *м.* павець. У нас поўны хе́йдар дроў (Баравікі, Светл.). *Парайн.* хізо́к.

ХЕ́ЎРАВАЦЬ *незак.* сябраваць. Не хе́ўруй, сынку, з Іванам, бо ён цябе завядзе пад дурнога хату (Белы Пераезд, Петр.).

ХІБАВЫ′ *прым.* спінны. Можа ты мне пазычыш хоць хібаво́га сала? (Бабовічы, Гом.); Хібавы́м салам суп заскварваюць (Холмеч, Рэч.+Дзям'янкі, Добр.).

ХІ́БА *ж.* хіб. Дзікаму кабану хібу зламалі (Багуцічы, Ельск.).

ХІБЕ́ *часц.* хіба. Хібе́ не прыдзецца табе дажыць, а то пабачым! (Грабава, Жытк.+Рудня Антонаўская, Калінк.).

ХІБЕ́Т *м.* здольнасць, працавітасць, руплівасць. Строіць хлеў, дак ета, я табе скажу, не з яго хібе́там (Астрагляды, Браг.).

ХІБЕ́ТЛІВЫ *прым.* здольны, працавіты, руплівы. О, якая хібе́тлівая дзеўка, усё гарыць у руках (Насовічы, Добр.). *Парайн.* хібе́тны *ў 1 знач.*

ХІБЕ́ТНІЦА *ж.* жанчына *(акуратная).* У мяне баба бальшая хібе́тніца (Пружынішчы, Акц.).

ХІБЕ́ТНЫ *прым.* 1. *тое, што* хібе́тлівы. Да хібе́тный які, пазавідуваць толькі (Астрагляды, Браг.); А яна была баба хібе́тная (Усохская Буда, Добр.+Мялешкавічы, Маз.). 2. добры, якасны. Купіў я сёдні хібе́тны нож (Пружынішчы, Акц.).

ХІ́ЖА *ж.* прыбудова. Да хлява прыбудавалі хіжу (Засінцы, Ельск.).

ХІ́ЖКА *ж.* кладоўка. Ідзі ў хіжку і ўрэж сала (Нова-Мазалаў, Жлоб.); Стаяла ў хіжцы крупа, дак мышы паточылі (Целяшы, Гом.).

ХІ́ЖЫ *прым.* скваліны. Хіжы такі, век нікому нічога не скажа (Неглюбка, Ветк.).

ХІЗО́К *м., тое, што* хейдар. Прынесі дроў із хізка́ (Дзяржынск, Лельч.).

ХІ́МАРАДА *ж.* 1. выдумка. Ён вярзе хімараду, а яна слухае, ды й годзя (Камсамольск, Рэч.). 2. пляткарка, выдумшчыца. Во пайшла ўжо хімарадзіць, хімарада праклятая (Дубраўка, Добр.).

ХІ́МАРАДЗІЦЬ *незак.* пляткарыць. Во пайшла ўжо хімарадзіць, хімарада праклятая (Дубраўка, Добр.).

ХІМЛА́ЦЬ *незак.* завіваць *(прычоску)*. Маладыя бабы хімла́юць нявесту (Асарэвічы, Браг.).

ХІ́НДЗЯ (ХІ́НЬДЗЯ). *ж., мед.* малярыя. Хіндзя яго калоціць (Стасеўка, Рэч.); От мяне хіньдзя папатрасла после вайны (Ламавічы, Акц.+Аравічы, Ломыш, Хойн.; М. Аўцюкі, Рудня Антонаўская, Калінк.). *Парайн.* хінца (хіньця), хо́ндзя *ў 1 знач.,* ху́ндзя (ху́ньдзя).

ХІ́НЦА (ХІ́НЬЦЯ) *ж., тое, што* хіндзя. Каб век не знаць етай хінцы (Забалацце, Раг.); «Цябе сёння хіньця трасе»,—сказаў дзед (Марозавічы Б.-Каш.+Ветка; Грушаўка, Добр.; Хізы, Ветк.). *Парайн.* хо́ндзя *ў 1 знач.,* ху́ндзя (ху́ньдзя).

ХІ́РЫ *прым.* кволы, слабы. Нейкі ты стаў вельмі хіры (Грабава, Петр.).

ХІТА́ЦЦА *незак.* хістацца. Аж хіта́ецца, такі хворы (Ламавічы, Акц.+Холмеч, Рэч.).

ХЛАПЁ́НАК *м., памянш. да* хлопец. Мой хлапёнак занядужаў нешта (Дубраўка Добр.). *Парайн.* хлапча́к, хлапчо́нак, хлоп, хло́пец *у 1 знач.*

ХЛАПУ́ШКА *ж., бат.* смалёўка. Хлапу́шка расце і на полі, і на рэке (Неглюбка, Ветк.).

ХЛАПЧО́НАК *м., тое, што* хлапёнак. Унь твой хлапчо́нак бяжыць (Ламавічы; Акц.). *Парайн.* хлапча́к, хлоп, хло́пец *у 1 знач.*

ХЛАПЧА́К *м., тое, што* хлапёнак. Учора хлопчакі подхопілі гармонь ды на танцы пошлі (Бялёў, Жытк.). *Парайн.* хлапчо́нак, хлоп, хло́пец *у 1 знач.*

ХЛЕ́БІНА *ж.* баханка. Бывала, спячэш хле́бін сем,

і хапае на нідзелю (Уць, Добр.). *Параўн.* хлябіна *ў 1 знач.*

ХЛЕ́БНІЦА *ж.* лапата *(якой садзяць хлеб у печ).* Хле́бніцу мы заўсёды дзелаем з хвоі (Капань, Рэч.).

ХЛЕ́БНЯ *ж.* дзежка. Няхай хле́бня на печы пастаіць, цеста ўзаўтра буду расчыняць. У хле́бні ўжэ мо цеста пыднялося (М. Аўцюкі, Калінк.).

ХЛЕ́БСКА *ж., тое, што* хале́па. Учора такая хле́бска была на двары (Дарашэвічы, Петр.). *Параўн.* хвіле́піца, хлюпо́та, хлюць, хля́ба, хля́кась, хля́па, хляпо́та, хляпо́цце.

ХЛЕ́ВУШНІК *м., пар. ст. да* хлеў; хлевушок. Хле́вушнік прыдзелалі, дык так харашэ (Стараселле, Добр.). *Параўн.* хле́ўшнік.

ХЛЕПЯСТА́ЦЬ *незак.* пляскацца, плёскацца. Вада ў рацэ хляпе́шча (Кароткавічы, Жлоб.).

ХЛЕ́ЎНІК *м., міф.* дух *(злы).* Хле́ўнік ноч скаціну ганяў, бо ўся мокра (Азяраны, Жытк.); Хле́ўнікі ў хляве шастаюць (Гарывада, Рэч.+Бялёў, Жытк.; Касцюкоўка, Гом.; Халочча, Чач.; Хушар, Светл.).

ХЛЕ́ЎШНІК *м., тое, што* хле́вушнік. Сходзі ў хле́ўшнік і забяры ражку (Камаровічы, Петр.).

ХЛЁБАЦЬ *незак.* сёрбаць. Дзеці, ні хлёбайця так крэпка, вы не галодныя (Страмчава, Хойн.). *Параўн.* хлёстаць, хля́баць, хляста́ць (хліста́ць) *у 1 знач.*

ХЛЁСТАЦЬ *незак., тое, што* хлёбаць. А твой бацька хлёстае тую юшку, як бы яе ніколі не бачыў (Антонаў, Ельск.). *Параўн.* хля́баць, хляста́ць (хліста́ць) *у 1 знач.*

ХЛЁСТКІ *прым.* спрытны, худы. Чаго ў цябе такая хлёсткая карова? (Усохская Буда+Грушаўка, Добр.; Дарашэвічы, Петр.).

ХЛІ́ПАЦЬ I *незак.* мігцець. Лампа хліпала-хліпала і патухла (Барталамееўка, Ветк.).

ХЛІ́ПАЦЬ II *незак.* плакаць. Ні хліпай, а то шчэ рамня палучыш (Чырвоны Маяк, Гом.).

ХЛОП *м., тое, што* хлапёнак. А тая гуляла з адным хло́пам (Усохская Буда, Добр.). *Параўн.* хлапча́к, хлапчо́нак, хло́пец *у 1 знач.*

ХЛО́ПЕЦ *м.* 1. *тое, што* хлапёнак. Мой хло́пец буў дужа пераборлівы ў ядзе (Любань, Б.-Каш.). *Параўн.* хлапча́к, хлапчо́нак, хлоп. 2. халасцяк. А во сусед мой хло́пец шчэ (Беразнякі, Жытк.).

ХЛО́ПЧЫК *м., перан., бат.* расліна *(дэкаратыўная).* Хло́пчык цвіце цэлае лета маленькімі цвяточкамі (Дарашэвічы, Петр.).

ХЛО́СКУНІ *толькі мн.* маніцы. Хло́скуні ўжэ вырвалі з канапель (Дарашэвічы, Петр.).

ХЛУДЗЁЦ *м., ткацк.* стрыжань *(цэўкі).* Хлудзёц выпаў з цэўкі (Майскае, Жлоб.); Трэба зрабіць для цэўкі новы хлудзёц (Усохская Буда, Добр.+Тонеж, Лельч.; Дубраўка, Івакі, Добр.).

ХЛУДЗІ́НА *ж., тое, што* халудзіна. Узяў ён вялікую хлудзіну на каня (Ухаў+Суткоў, Ветк.).

ХЛУПЯ́НЫ *прым.* пусты *(у сярэдзіне).* Во якая хлупя́ная рэдзька (Залессе, Чач.).

ХЛУСЛІ́ВЕЦ *м.* хлус. Ну і хлуслі́вец гэнты гамазіншчык, первы раз бачым такога (Багданавічы, Карм.).

ХЛЫН *м.* чутка, хлусня. Пусцілі хлын, што прыехалі суседзі з горада (В. Нямкі, Ветк.+Сідаравічы, Б.-Каш.). *Парайн.* хлынь.

ХЛЫ́НУЦЬ *зак.* стукнуць. Як хлы́ну, дык адразу сціхнеш (Харошаўка, Добр.).

ХЛЫНЬ *ж., тое, што* хлын. Ета хлынь, дочка, ні вер ім (Палессе, Чач.).

ХЛЫПАВА́ТЫ *прым.* пакаты. Нешта страха хлыпава́тая палучецца (Акцябрскі).

ХЛЫ́СНУЦЬ *зак.* сцебануць. Я шчэ раз хлы́снуў каня (Холмеч, Рэч.).

ХЛЫСТ *м.* 1. дрэва *(будаўнічае).* Хлысто́ў на хату прывезлі. Трактары цягаюць хлысты́ (Кароткавічы, Жлоб.+Асарэвічы, Браг.; Багданавічы, Карм.; Баравікі, Светл.; Забалацце, Раг.; Канатоп, Нар.; Пярэдзелка, Суткоў, Лоеўск.). 2. дрэва *(спілаванае).* Поўны лесавоз хлысто́ў нагрузілі. Роўненькіе, бы струны (Людзяневічы, Жытк.).

ХЛЫСТА́ЦЬ *незак., перан.* піць. Не давай ёй вады, яна і так цэльны дзень хлы́шча (Баравікі, Светл.).

ХЛЭ́ПНУЦЬ *зак.* пляснуць, шлёпнуць. Матка, можа, і хлэ́пне дзіця, ёй ніхто нічога не скажа (Палессе, Чач.).

ХЛЮПО́ТА *ж., тое, што* хале́па. Такая хлюпо́та на вуліцы, німожно і вуйці ў магазін (Парэчча, Акц.). *Парайн.* хвіле́піца, хле́бска, хлюць, хля́ба, хля́кась, хля́па, хляпо́та, хляпо́цце.

ХЛЮЎ *м.* хлеў. Карову ў хлюў загналі (Піркі, Браг.).

ХЛЮЦЬ *ж., тое, што* халéпа. От хлюць на дварэ, на кані ні праехаць (Забалацце, Акц.). *Парайн.* хвілéпіца, хлéбска, хля́ба, хля́кась, хля́па, хляпóта, хляпóцце.

ХЛЯ́БА *ж., тое, што* халéпа. Хля́ба пайшла (Неглюбка, Ветк.); Хля́ба такая, што і машыны не ходзяць (Неглюбка, Ветк.); Куды ты йдзеш у такую хля́бу? (Палессе, Чач.+Ухоў, Хізы, Ветк.). *Парайн.* хвілéпіца, хлéбска, хлюпóта, хлюць, хля́кась, хля́па, хляпóта, хляпóцце.

ХЛЯ́БАЦЬ *незак., тое, што* хлёбаць. Давай будзем разам хля́баць (Навасёлкі, Петр.+Белы Пераезд, Петр.; Жгунь, Добр.). *Парайн.* хлёстаць, хлястáць (хлістáць) *у 1 знач.*

ХЛЯБÉЦ *м.* падкормка *(пчолам)*. Хлябéц робяць з сахару і мёду, раствораных у вадзе (Кароткавічы, Жлоб.); Хлябéц добры зрабілі для малых пчол (Марозавічы, Б.-Каш.+Гарадзец, Раг.; Ламавічы, Акц.; Стаўбун, Ветк.). *Парайн.* хлябіна *ў 2 знач.*

ХЛЯБІ́НА *ж.* 1. *тое, што* хлéбіна. Купіў адну хлябіну, бо дужа даўні (Быч, Карм.); Хлябін дзесяць пасаджу ў печ (Дубраўка, Усохская Буда+Грушаўка, Добр.). 2. *тое, што* хлябéц. Вясной маладым пчолам мы з табой дадзім хлябіну (Багданавічы, Карм.).

ХЛЯБÓК *м.* баханачка *(хлеба)*. Цеста асталося толькі на адзін хлябóк (Дзям'янкі, Добр.). *Парайн.* хрэ́шчык.

ХЛЯ́ПА *ж., тое, што* халéпа. Надаела ўжо гэтая дажджлівая хля́па (Кароткавічы, Жлоб.). *Парайн.* хвілéпіца, хлéбска, хлюпóта, хлюць, хля́ба, хля́кась, хляпóта, хляпóцце.

ХЛЯ́ПАЦЬ *незак.* стукаць *(дзвярыма)*. Ну, што ты хля́паіш біз канца, ні ўмееш закрыць ціха? (Пакалюбічы, Гом.).

ХЛЯПÓТА *ж., тое, што* халéпа. За гэтай хляпóтай жыцця няма, як прыдзе восень (Званец, Раг.). *Парайн.* хвілéпіца, хлéбска, хлюпóта, хлюць, хля́ба, хля́кась, хля́па, хляпóцце.

ХЛЯПÓЦЦЕ *н., тое, што* халéпа. Мо дзесяць дней ужо ніяк не згіне гэтае хляпóцце. Мочыць і мочыць (Званец, Раг.). *Парайн.* хвілéпіца, хлéбска, хлюпóта, хлюць, хля́ба, хля́кась, хля́па, хляпóта.

ХЛЯСТÁЦЬ (ХЛІСТÁЦЬ) *незак.* 1. *тое, што* хлёбаць. Так хутка хлéшча капусту. Запіў малаком і пабег (Дуброва, Петр.); Як баба хлістáе ваду, чагось салёнага

наелась мусіць (Буйнавічы+Іванькаўшчына, Маз.; Прудок, Калінк.; Чырвоны Маяк, Гом.). *Параўн.* хлёстаць, хлябаць. 2. ліць *(пра дождж)*. Ну і хлешча на двары дождж, вымакла да ніткі (Целяшы, Гом.).

ХМУЗНЯЧО́К *м., памянш. да* хмызняк. Перойдам хмузнячо́к, а там ужэ і наша сяло пачынаецца (Агароднікі, Калінк.).

ХЛЯЎЧА́К (ХЛЕЎЧА́К) *памянш. да* хлеў, хлеўчык. Маці понясла сытае ведро ў хлеўча́к (Бялёў, Жытк.).

ХЛЯ'ШКА *ж.* спражка. У салдатаў ва ўсіх адзінакавыя хля́шкі (Холмеч, Рэч.).

ХЛЯШЧЭ'ЙШЫ *прым.* спрытнейшы. Такія гаваруны е і'шчэ хляшчэ́йшыя (Быч, Карм.).

ХМЕЗ *м., зборн.* хмызняк. Сабака ў хме́зе стаіўса, а я там і прайшоў (Стадолічы, Лельч.). *Параўн.* хмурэ́жнік.

ХМУРЭ'ЖНІК *м., тое, што* хмез. Нельзя было паткнуцца ў той густы хмурэ́жнік (В. Нямкі, Ветк.).

ХНЫКУ'Н *м.* ныцік. Уй, ён і з дзяцінства хныку́н буў (Усохская Буда, Добр.).

ХО́ВАЛКІ *толькі мн.* хованкі. Нашы дзеці любяць гуляць у хо́валкі (Хвойнае, Хойн.).

ХО́ДАЛКА *ж., тое, што* хада́к. Нада ўжэ браць скора для малога хо́далку (Янова, Ветк.). *Параўн.* хаду́лькі, хаду́ля, хаду́н, хадуне́ц, хаду́нчык, хадуны́, хаду́ха, хаду́шка, хады́лка, хо́дачкі, хо́дка.

ХО́ДАЧКІ *толькі мн., тое, што* хада́к. Для дзіцяці з абруча дзелалі хо́дачкі (Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* хаду́лькі, хаду́ля, хаду́н, хадуне́ц, хаду́нчык, хадуны́ хаду́ха, хаду́шка, хады́лка, хо́далка, хо́дка.

ХОДЗЬ *часц.* хоць, хаця. Ходзь што, дык пойдзя дождж (Залессе, Чач.).

ХО́ДКА *ж., тое, што* хада́к. Пастаўлю малую ў хо́дку і ніхай вучыцца хадзіць (Марозавічы, Б.-Каш.+Забалацце, Раг.; Рудня, Чач.; Хізы, Ветк.; Хобнае, Калінк.). *Параўн.* хаду́лькі, хаду́ля, хаду́н, хадуне́ц, хаду́нчык, хадуны́, хаду́ха, хаду́шка, хады́лка, хо́далка, хо́дачкі.

ХО́ДНІК *м.* палавік. Хо́днік паўмесяца не выцярушвалі (Неглюбка, Ветк.+Грабава, Жытк.; Нісімкавічы, Чач.).

ХО́ЛЕЎ *м.* загарадзь, пастаўнік *(для жывёлы)*. У хо́леве было многа кароў (Багданавічы, Карм.).

ХО́ЛІЦЦА *незак.* прыбірацца. Бач, хо́ліцца як да дзевак. Як пачне хо́ліцца, аж тры часы. Вароны схопяць, глядзі (Дубраўка, Добр.).

ХО́ЛНЫ *прым.* акуратны. Ой, які чалавек хо́лны: у ёго ўсё чыстае (Бабовічы, Гом.).

ХО́НДЗЯ *ж.* 1. *мед., тое што* хіндзя (хіньдзя). Зноў палажыла ета хо́ндзя маю дачку (Запясочча+Крупкі, Маз). *Парайн.* хінца (хіньця), ху́ндзя (ху́ньдзя). 2. *бат.* палын. Хо́ндзяй лечаць ліхарадку, малярыю (Стадолічы, Лельч.).

ХРАБЕ́ЦІНА (ХРАБЁЦІНА) *ж.* паясніца. Усё храбе́ціна баліць і баліць (Улукоўе, Гом.). *Парайн.* храпці́на (хрэпці́на).

ХРАМАЛІ́Н *м.* фармалін. Прывязі нам храмаліну з горада (Камаровічы, Петр.); Паваксіла храмалі́нам тухлі (Лучын, Рагі.+В. Нямкі, Ветк.; Ламавічы, Акц.; Навасёлкі, Петр.; Пясчанікі, Тураў, Жытк.).

ХРА́ПА *ж.* 1. храпка. Качаны зрэзала, а хра́па 'шчэ стаіць (Перароў, Жытк.); Калісь усе елі хра́пы, а цяпер толькі каровам аддаюць (Піркі, Браг.+Аравічы, Хойн.; Багуцічы, Ельск.; Барталамееўка, Ветк.; Бялёў, Жытк.; Ветка; Дарашэвічы, Петр.; Дубраўка, Добр.; Запясочча, Маз.; Казялужжа, Хойн.; Ламавічы, Акц.; М. Аўцюкі, Калінк.; Новая Дуброва, Акц.; Пясчанікі, Жытк.; Рудня Антонаўская, Калінк.; Сівенка, Ветк.; Стадолічы, Лельч.; Хвойнае, Хойн.; Хізы, Ветк.). *Парайн.* храпіна, хра́пка *ў 1 знач.,* храпу́шнік. 2. гразь *(замерзлая).* На вуліцы хра́па, нельга іці (Прудок, Калінк.); Упаў на хра́пу дай разбіў носа (Перароў, Жытк.); Добра прамерзла сягонні, аж хра́паю ўзяло (Холмеч, Рэч.+Антонаў, Ельск.; Аравічы, Хойн.; Багуцічы, Ельск.; Бялёў, Жытк.; Ламавічы, Акц.; Махновічы, Маз.; Парэчча, Акц.; Пучын, Браг.; Стадолічы, Лельч.; Хвойнае, Хойн.; Чалюшчавічы, Петр.). *Парайн.* хра́пка *ў 2 знач.*

ХРАПАВЫ′ *прым.* замерзлы, няроўны. Як на падводзі ехаць па храпаво́й дарозі, дак усе нутро вутрусіць (Холмеч, Рэч.).

ХРАПА́К *м., бат.* смаржок. Храпакі́ вясной растуць (Баравікі, Светл.).

ХРАП'Ё *зборн., да* хра́па *ў 2 знач.* На дарозе ад мароза зрабілась храп'ё (Баравікі, Светл.).

ХРАПІ́НА *ж., тое, што* хра́па *ў 1 знач.* Ек крышыць качана на боршч, то так другі раз храпіну з'ясі, і така

ена смашна (Стадолічы, Лельч.). *Параўн.* хра́пка *ў 1 знач.,* храпу́шнік.

ХРА́ПКА *ж.* 1. *тое, што* хра́па *ў 1 знач.* Нарэж карові хра́пак (Сямёнаўка, Рэч.); Малыя вельмі любяць хра́пкі (Ветка+Барталамееўка, Ветк.; Дубраўка, Добр.;

ХРАПУ'ШНІК *зборн., тое, што* хра́па *ў 1 знач.* Храпу́шнік. 2. *тое, што* хра́па *ў 2 знач.* Аб етыя хра́пкі ўсе тухлі пазбівала (Апанасаўка, Гом.). 3. выемка. Хра́пка робіцца ў простым вуглу (Асарэвічы, Браг.).

ХРАПУ'ШНІК *зборн., тое, што* хра́па *ў 1 знач.* Храпу́шніком харашо карміць свіней (Баравікі, Светл.). *Параўн.* храпі́на, хра́пка *ў 1 знач.*

ХРАПЦІ́НА (ХРЭПЦІ́НА) *ж., тое, што* храбе́ціна. Мая хрэпці́на баліць, нільзя разагнуцца (Шылавічы, Б.-Каш.).

ХРАСТАВІ́НА *ж.* перакрыжаванне. Удзьвох на храставі́ні сышліся, дык мо толькі к вечару дадому папрыходзілі (Марозавічы, Б.-Каш.).

ХРАСТО́К *м.* 1. храсток. Дак як сталі мае храсткі́ балець (Усохская Буда, Добр.). 2. вуха. Хрaсто́к добра вымый (Кароткавічы, Жлоб.). 3. *перан.* парастак. Храсткі́ ня трэба абламуваць, яны хутчэй у зямлі пойдуць расці (Астрагляды, Браг.+Багуцічы, Ельск.; Баравікі, Светл.; Гармавічы, Жлоб.; Забалацце, Раг.; М. Аўцюкі, Калінк.; Харомцы, Акц.; Хізы, Ветк.; Чалюшчавічы, Петр.; Чарнейкі, Рэч.).

ХРАСЦЕ́Ц *м., анат.* таз. У храсцу́ нешта хруснула, сесць ні магу (Чачэрск).

ХРАШЧА́ТЫ *прым., рэл.* калядны. Трэба мучыцы белай купіць к храшча́тай нядзелі (Усохская Буда, Добр.).

ХРО́ІМ *м., абразл.* гандляр. Хро́ім жадны. У ёго снегу зімой не возьмеш (Дарашэвічы, Петр.).

ХРА́ШЧЫК *м.* сэрцавіна, стрыжань *(морквы).* Хра́шчык у моркві самы салодкі (Дзям'янкі, Добр.).

ХРО́МКА *ж.* гармонік. У нас на вяселлі шчэ і на хро́мках іграюць (Чалюшчавічы, Петр.).

ХРУМСТ *м.* рыпанне. Старая вярба ўпала с хру́мстам (Злодзін+Б. Сафіеўка, Маз.).

ХРУ'ПАЦЬ *незак.* хрумстаць. На, хру́пай сухар (Крыўск, Б.-Каш.).

(Працяг літары *Х* гл. у наступным выпуску (№ 10) гэтага зборніка).